# АД РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Паэзія Рыгора Барадуліна даўно набыла ўніверсальны, нават энцыклапедычны ў найлепшым сэнсе характар. У ёй ёсць усё, апроч хіба палітыкі. Той самай палітыкі, без якой немагчыма было нядаўняе жыццё рэспублікі, да якой літаратуру «цягнулі за вушы», ад якой тая адбрыквалася з усяе моцы. Прынамсі, лепшыя з яе творцаў. Самыя таленавітыя і сумленныя. Не шмат каму тое ўдавалася (нават з ліку сумленных і таленавітых), Барадуліну ж увогуле ўдалося.

Мусіць, з прычыны гранічнай цэльнасці сваёй чалавечай натуры да незвычайнай арганічнасці паэтычнага таленту Барадулін не прыняў нічога з чужой яму, тым болей фальшывай, камуністычнай ідэі. На працягу дзесяцігоддзяў натхнёнае паэтычнай працы ён заставаўся верным праўдзе народ нага жыцця, сялянскага побыту, зямных чалавечых радасцяў. Але не палітыцы, якая, мабыць, занадта абрыдзела яму ў паўсядзённым жыцці, каб весці яе ў святы храм паэзіі, дзе павінны ўладарыць толькі сумленне і талент.

Гэтыя сумленне і талент, вабячы паэта да іншага, далі яму бачыць жыццё ў асаблівым асвятленні, не замутненым староннімі прычынамі. Чытача гэтай кніжкі, спадзяюся, найболей уразіць незвычайная паэтава ўвага да знікаючых драбніцаў мінуўшчыны, якія ў стагоддзях былі істотнаю сутнасцю жыцця нацыі, спадарожнічалі ёй у добрыя і ліхія часіны. Цяпер тыя драбніцы, знікаючы з ужытку, знікаюць і з народнай памяці. Сум і маркота бруяць у паэтавых радках, калі ён паглыбляецца ў спрадвечны вясковы побыт з яго несамавітым прыладдзем і вясковымі завядзёнкамі, што ў наш час спрэс падмяняюцца кідкімі фальсіфікацыямі безнацыянальнай урбаністычнай культуры. Мілая паэтаваму сэрцу сельская прырода з яе залевамі, туманамі, вёснамі і зімамі, якая спрадвеку была храмам і майстроўняй беларускага селяніна, стала паэтычным натхненнем паэзіі Рыгора Барадуліна. Менавіта ў тым храме няспынна гучыць паэтычны гімн незабыўнай Акуліне Андрэеўне, маці паэта. Над яе памяццю, відаць па ўсім, не ўладарны ні час, ні адлегласць, яе горкі ўдовін лёс нястомна прадаўжае асэнсоўваць сын, у вершах якога, бы жывыя, паўстаюць усе драбніцы і сутнасць яе жыцця. «Біблія сэрца матулінага» стала своеасаблівай максімай маральнай атмасферы сына, светлым агеньчыкам у здрадлівай цемры сучаснасці. «Ты стала зямлёй, а твае гады ідуць без цябе па зямлі». Так ці інакш вобраз маці паэта з'яўляецца ў шмат якіх вершах Барадуліна, нідзе не

паўтараючыся і красамоўна сведчачы пра сілу сыноўняй любові,— можа, самай самаадданай любові ў сучаснай беларускай паэзіі. Барадулінскае маленне аб маці набліжаецца да каталіцкага абагаўлення мадонны, тым значна ўзвялічваючы духоўную сутнасць нашай паэзіі.

Прыклад барадулінскай паэзіі пераканаўча сведчыць таксама, як важна для мастацтва пэўная дыстанцыя не толькі ад палітыкі, але і ад улады. Можа, ад кожнае ўлады. У дадзеным выпадку, відаць, праявілася інстынктыўнае, амаль геннае адчуванне свабоды наогул, бо ведама, як мала было на Беларусі той здатнай, людскай улады, дзеля якой можна было б ахвяраваць святасцю паэзіі. Можна было не выступаць супраць (што зусім не справа паэзіі), але не сказаць ніводнага слова за стала катэгарычным імператывам паэта. Іншая справа чалавек і яго боская сутнасць — тэма, якая даўно займае паэтычную ўвагу Барадуліна. У апошнія гады і у апошніх кніжках гэтая прага пазнаць чалавека стала яшчэ вастрэйшай, а пагляд барадулінскі — яшчэ пільнейшы, думка— мудрэйшая, чым калі раней. Часам яна сягае на самы край уяўлення, дзе бачацца толькі дзве самотныя істоты — чалавек на зямлі ды Бог у небе. Але Барадулін ведае таксама, што пры ўсёй магутнасці Бога «Лёс да кожнага прыходзіць босы», і тут важна папярэдзіць чытача: «Помні заўсягды пра лёс разуты, ногі босаму не адтапчы».

Можа, з самых сваіх першых вершаў Рыгор Барадулін выявіў незвычайную сілу над паэтычным словам, зайздросную здольнасць валодання паэтычным вобразам. У ягонай творчасці цяжка знайсці прыблізныя, прахадныя радкі, звычайна яны — віртуознае ўвасабленне нечаканай зрокавай канкрэтыкі. З нейкай зачараванай лёгкасцю яму падлеглы і старыя, і новыя паэтычныя вобразы, нават самыя звыклыя з іх пад ягоным пяром набываюць нечаканы бляск і цнатлівасць. І без таго не бедная на лексіку беларуская паэзія набыла ў кнігах Барадуліна агромністы пласт своеасаблівай ушацкай гаворкі, якая ў яго зазззяла новымі прывабнымі фарбамі.

Вельмі народная, у шмат якіх адносінах нават язычніцкая паэзія Рыгора Барадуліна ў сваім сціплым пафасе ўзнімаецца вышэй за палітыку, за сілу ўлады, разлік. Яна імкне ў свет, дзе ціха дажывае свой век некалі цудоўная наша прырода, дзе тлее жыццё даўніны і мроіцца святло дабрыні і чалавечае годнасці. Да непазбежнага фіналу «босага лёсу» стаўленне ў Барадуліна зусім філасофскае, без ценю

шкадавання, болей з гумарам: «Здаецца, учора я выйшаў з дому, а ужо дадому пара
вяртацца».

Заўжды загадкавы сэнс жыцця, вяртанне да яго вытокаў — матыў, які ўсё болей гучыць у вершах Барадуліна апошніх гадоў. Застаючыся прынцыповым прыхільнікам амаль дзіцячай непасрэднасці ўспрымання свету, Бараулін не стамляецца пільна прыглядацца да ягоных
праяў і не спяшаецца даваць адказы на ягоныя парадоксы-загадкі Ён і цяпер, як, мусіць, калісь у дзяцінстве, здольны збянтэжыць прастадушным пытаннем:

*За што трымаецца ластаўка,*
*Як лепіць сабе гняздо?*

Так у нашай паэзіі можа напісаць хіба адзін Бараду лін з ягоным самабытным талентам, на шостым дзесятку год здольны прыкінуцца хлапчуком. Зрэшты, тое зразумела. Барадуліну не трэба станавіцца на дыбачкі, за ягоную сталасць гаворыць яго яркая, змястоўная, надта сумленная паэзія, якая, несумненна, адносіць яго да ліку паэтаў, што «нараджаюцца ў карчме, каб іх пасля
аплаквалі саборы».

ВАСІЛЬ БЫКАЎ,
народны пісьменнік Беларусі

* * *

Чуйна спіць ваколле.
Поўнач
Долы абняла.
Поўня лье з даёнкі поўнай
Малако святла...
1954

ПАСТУХ

За дзень забегаецца да знямогі,
Як загізуе статак — упасі!
І увечары ісці не хочуць ногі,
Хоць іх бяры на плечы
Ды нясі.
Сынок маленькі конаўку затое
Аберуч ледзь падыме
Ягамосць,
З шыпучай гіенай выпʼе сырадою,
Спытае ў маці:
— А ці вусы ёсць?
1954

ЗЯЛЁНЫ МОХ

Уверсе высока-высока
Шумяць векавыя хвоі,
Пад снегам дол зледзянелы,—
Ды ўсё ж ён прабіцца змог:
Рукой яго возьмеш — азяблы,
А пахне зямлёй, вясною
І леташнім лісцем прэлым
Зялёны-зялёны мох.

Далёка струной парванай
Піньпінькне зрэдчас сініца,
Крумкач праплыве ўрачыста —
Зусім пад вясну ахрып.
Наводзіць жаўрук жалейку.

А моху скалеламу сніцца:
...Прасунуўся раннем імжыстым
Упарта-лабаты грыб.

Маланка спрабуе арэхі.
Рассыпаным жарам — брусніцы.
На сонца вужы выпаўзаюць
Набраць на зіму цяпла.
На мяккіх, ірховых лапах
Падкрадваецца лісіца,
Нервова падскоквае заяц.
Вавёрка сочыць з дупла...

А стане ваколле зялёнае —
Не ўспомняць,
Хто зяб зімою,
Шаптаў праз снягі пра лета
У хвояў узнёслых ля ног,
Зямлю ратаваў ад марозу...
З кашолкамі прыйдуць гурмою
І смела наступяць на гэты
Зялёны-зялёны мох...
1955

## НА АЗЯРЫНАХ

Палаюць вогнішчы азёр —
Ад іх агню смялей блакіту.
І вечар — электраманцёр
Нябеснага энергазбыту
Уключыць зоры.
Будзе ноч
Асакавольтная
Цадзіцца.
І сэрца рушыць басанож,
Дзе пахне раніцай іглiца.
1955

## СВІНУХА

Гербарыяў ніколі не збіраў.
Да тэрмінаў лацінскіх глуха вуха.
Запомніў добра са шматлікіх траў
Адну, з пацешнай назваю —
свінуха.

У горле перасядзе ветру ком, —
Заперхае ўранні восень суха.
Ляжыць узмежак кормным вепруком,
На хібе шчэццю шэжыцца свінуха.

Пакуль мяцеліц белыя вужы
Не папаўзлі па хібе — у светлы вечар
Скубі густую, пэндзлікі вяжы,
Мачы ў пабелку ды нявесці печы.

А пастушкі назябнуцца за дзень,
Свінуху паляць, чмыхаюць насамі.
Як старац невідушчы,
дым брыдзе,
За корч спаткнецца, заклубіцца ў яме.

Мароз не браў ляйчыны ў дзве рукі,
Хлеў рохкае паважнасцю свіною,
Ды закурэлі ўзмежкавы бакі,
І смылень пахне першай свежыною.
Дамоў вячэраць прыйдуць пастушкі,
Пакрэплыя далоні бульбай паляць.
Свінухаю не толькі армячкі
Прапахлі — хлеб, і соль,
і стол, і пальцы.

Пакуль з сакоўнай муравой вясна
Прытупае сцяжынай баравою,
Свінуха пазніцелая адна
Праз снег праб'ецца першаю травою.
1956

## КАЛАЎРОТЫ

— Калаўроты! Калаўроты!
Найадменнейшай работы,—
Заклікае добры дзед.
— Не знайсці нідзе ім роўных —
Робяць з воўны шоўк чароўны...
Падыходзяць паглядзець.

— Экспанат свой гэткі рэдкі
У музей ты здаў бы, дзедка,—
Кінуў жару жартаўнік.
Уздыхнулася бабулі —
Калаўрот яе расчуліў.
А натоўп раптоўна знік.

Толькі жэўжыкі наўкола —
Крутануць ім рупіць кола.
Дзед выкрыквае радзей:
— Не знайсці нідзе ім роўных —
Робяць з воўны шоўк чароўны.
Пакупнік ніяк не йдзе...

— Налятайце! Калаўроты!
Налятаць няма ахвоты.
Разыходзіцца базар.
І стаяць, нібы сіроты,
Новенькія калаўроты.
Позна, дзед, прывёз тавар...
1956

## ЛІСТ З ДОМУ

Бурты кладуцца, як барханы.
Лапатам не даём астыць.
Ды што за шум?..
Прыйшлі лісты,
Лісты ад родных, ад каханых.

І мне ж тут нешта быць павінна...

Матулін почырк пазнаю.
І ніша пра бяду сваю,
Пра радасць і пра ўсе навіны:

«Сусед наш справіў наваселле.
Ну а у бары па верасу
Грыбоў — хоць закладай касу,
І ужо арэхі палыселі...

Вуголле з печы ўранні скача,
Кот мыцца на вакне пачне,—
І верыцца, што ты ка мне
Паспееш на пірог гарачы».

Я сёмы раз, забыўшы стому,
Чытаю гэты ліст,
            нібы
Я на Ўшаччыне пабыў,
Пагутарыў з усімі дома...

І зноўку зерне з-пад лапаты
Уверх ляціць ва ўсе бакі
І падае. (А так шпакі
На луг садзяцца там, за хатай...)
1956

ДОБРАЙ РАНІЦЫ!

А птушкі расстанне прарочаць.
Зара маладая займаецца...
Кажу я табе:
            — Добрай ночы!
Хоць трэба казаць:
            — Добрай раніцы!

І вочы ўглядаюцца ў вочы,
Вясёлыя, шчыра ўсміхаюцца.
І кажуць яны:
            — Добрай ночы!
Хоць трэба казаць:

— Добрай раніцы!

І рукі разняцца не хочуць —
Мацней яшчэ толькі сціскаюцца.
І кажуць яны:
— Добрай ночы!
Хоць трэба казаць:
— Добрай раніцы!
1957

## ЗАЗІМАК

А вецер вуліцы расчысціў.
Бухматы,
пухкі снег пасыпаў,
І кулачкі засохлых лісцяў
Сціскаюць маладыя ліпы.

Мароз здароўкаецца палка —
Зіма ўжо тупае старая.
На Свіслачы пранырлы-галкі
Трываласць лёду правяраюць...
1957

* * *

Як захлынуўся ад радасці жаўранак,
Славячы сонца вясновага дня,
Як па куп'і на балотных выжарынах
Мякка хрумсціць пад нагою сушняк;

Як па-над ярам пад ветравым подыхам
Вольха сухая рыпіць і рыпіць,
Як адвячоркам над соннымі водамі
Кнігаўка ўсё не дапросіцца піць,—
Тры гады я не чуў.

Як засінелася возера чыстае,
Бо маладая красуня-вясна,
Каб падсініць хмар касынкі пушыстыя,

Сінькі ў ваду сыпанула спаўна;

Як палахлівым дзіцём устрывожаным
Хмель каля вольхі абвіўся вакол,
Як у бары, бы маленькія вожыкі,
Шышкі хваёвыя ўсыпалі дол,—
Тры гады я не бачыў.

Як над бруістаю шустраю рэчкаю
Пахнуць лілеі, аер і чарот,
І першацвет далікатны парэчкавы,
І чарназём той, што вывернуў крот,—
Тры гады не ўдыхаў.

Зноўку ступаю знаёмымі сцежкамі,
Босай нагой паўтараю сляды.
Кветкі мне ўслед пазіраюць з усмешкамі,
З тымі ж, з якімі глядзелі тады...

І крапіва маладая стрыкаецца,
Быццам пяшчотны, прыемны ўспамін.
Ем я капусту трыгубую зайцаву,
Гладжу змарожаны ліст журавін.

Ясны блакіт вам, прасторы зялёныя,
Хай жа над вамі з зары да зары
Радасна жаўранкі звоняць натхнёныя,
Сонца гарыць!
1957

* * *

Світанняў я з табой не сустракаў,
Не рассякаў вяслом азёрнай хвалі.
І толькі шморгаў носам аб рукаў,
Калі цябе да дошкі выклікалі.

Здавалася, што бачыць увесь клас,
Калі ў твой бок глядзеў я ўнезнароку.
Каб аб сабе напомніць лішні раз,
Па пяць заўваг я зарабляў на ўроку.

Што стала мне ты нейкаю другой,
Баяўся і сабе прызнацца ў гэтым.
Ды толькі ўсе чамусьці нас з табой
На кніжках плюсавалі без сакрэту.

Ну, а калі кілометры за два
Дамоў з аднавяскоўцамі ішла ты,
Як крыўдна мне было, як я злаваў,
Што каля самай школы наша хата.

Гады прайшлі. У кожнага свой шлях.
І апынуўся я не ў роднай хаце.
...З усмешкай палахлівай на губах
Я сніў цябе ў студэнцкім інтэрнаце.

І вось нарэшце на лістах шасці
Прызнаўся я табе ў сваім каханні.
З трывогай «заказное» апусціў
І атрымаў адказ — тваё маўчанне.

Дамоў прыехаў.
Кажуць, трэці дзень
Грыміць тваё вяселле (я ж не веру).
Вянок з гароху хочуць мне надзець
Сябры, як адстаўному кавалеру.

Хай надзяюць — мне невялікі страх,
Я з гора пацягну з кілішка троху.
Дык пасядзім з табою мы ў вянках,
Твой з красак палявых, а мой —
з гароху.

...Хай снег гадоў асядзе ў вал асах,
Хай будзе мне хоць пяць разоў па дваццаць —
Усмешкай палахлівай на губах
Ты школьніцай мне будзеш усміхацца...

1957

## БАЦЬКУ

Не выйшаў ты і у гэты раз
Мяне спаткаць, паднесці рэчы...
Ля весніц толькі зноў твой вяз
Крануў галінамі за плечы.

Ты мне не падасі рукі,
Глядзіш удаль з-за шкла партрэта...
Ці бачыш, вырас сын які?
Скажы хоць слова для прывета.

А я... чакаў з усіх дарог
Цябе ў сорак чацвёртым... летам.
Калоны ні адной не мог
Я прапусціць з ахапкам кветак.

Хацелася пачуць: «Сынок...»
І крыкнуць радаснае: «Тата!»
Бацькоўскім быў мне кожны крок...
Усё ішлі, ішлі салдаты...

Каторы раз сыходзіў снег...
Дамоў вярталіся суседзі.
Я кожнаму насустрач бег
І чуў кароткае: «Прыедзе...»

Калі ж у крыўдзе мне сябры
Гразіліся падчас бацькамі,
Тады хацелася наўзрыд
Заплакаць шчырымі слязамі.

Не плакаў я — усім на злосць,
Бо ў хаце быў адзін — мужчына.
Не йшоў ты...
Маці маладосць
Глыбей заворвалі маршчыны.

І зараз — еду я здалёк,
Чакаю ўсё — зайду, а маці
Мне скажа: «Пазнаеш, сынок?

Вось наша ўся сямейка ў хаце...»

Паверыць цяжка мне таму,
Што больш не прыйдзеш ты дадому.
А шапку я заўжды здыму
Перад магілай невядомай...
1958

## ПА ЗЯЛЁНЫЯ ВЕНІКІ

Прыйшоў пятрок — сарваў лісток...
Прыказка

Пакуль пятрок гаямі не прайшоў
І не сарваў лісток з бярозы,
Ідзём у лес ламаць вішшо.
Пад пожняй стракацяць стракозы.

Як парыць!
Конікі пілуюць ціш.
Ступаеш босаю нагою.
Залез на дрэва —
ўніз ляціш,
Бяроза выгнецца дугою.

Куды ні паглядзіш — з усіх бакоў
Ураз цябе ўсяго акрыла
Зялёнай хмарай матылькоў,
Трапёткіх,
клейкіх,
аднакрылых.

Яны дрыжаць і хочуць паляцець
Туды,
дзе гуд стаіць чмяліны
І дзе з мядзведзіцай мядзведзь
Збіраюць дзетухнам маліну.

Дык венікі зялёныя ламай,
Галінку выбірай любую!

Бярозку адпускай —
няхай
Кналецщю больш вішша гадуе.

А сонца нізка.
У дарогу час!
Вішша ляжыць у кучы многа.
Як мёд, такі салодкі квас
І луста хлеба аржанога.

Ад злых мурашак ды ад крапівы
Усё смыліць, гарыць без дыму.
Дадому крочыш, ледзь жывы,
З ахапкам лета за плячыма...
1958

* * *

Між абвалаў,
Стромых скалаў
Сцежка пакручастая.
А у далінах
Па галінах
Дзікі вецер шастае.

А у гуралкі
Позірк палкі,
Вусны са спакусінкай.
Маладая,
З плеч спадаюць
Два патокі русыя.

Б'юць вясёлкі
На асколкі
Вадаспады горныя.
Зачаруюць,
Завіруюць
Вочы ноччу чорнаю.

Уцякае
Ды гукае.

Пікі гор туманяцца.
З правадніцай
Заблудзіцца
Хочацца да раніцы!..
1958

* * *

У верасня — свой, асаблівы пах:
Курыць сівец — плыве дымок гаркавы.
Зямлёю пахне бульба ў капцах,
Антонаўкамі — зоры па начах
І туманы — ляжалаю атавай.

А гарбузы пралежалі бакі
І абвіліся павучынай пражай.
Здавалася — за хмарай хлапчукі
Разрэзалі гарбуз на два кускі
І уночы Млечны Шлях
на семкі пражуць.

Радоўку адбываць гатоў заўжды.
Ступаеш золкай, колкаю расою —
Дымяцца ўсцяж зялёныя сляды.
Адбілася цялё ад чарады,
А пыса пахне цёплым сырадоем.

У верасня ёсць самы светлы дзень,
Заўсёды ён душу маю трывожыць,
Хоць зноў штаны кароткія надзень
І, гледзячы на свой цыбаты цень,
Пусціся басанож у падарожжа

У край, дзе раніцай салодкі сон,
Дзе ў сумцы агурок, аловак, сцёрка
(А вочы расцвілі, як сіні лён!),
Дзе пяцярнёй махае кожны клён —
Жадае зарабляць адны пяцёркі;

Дзе ў калідоры цяжка сцішыць бег,
Сядзець у класе гэткая нудота.

Ля вокан вераб'і лятуць з-пад страх.
І, як у кут паставілі за смех,
Ты дома ўсім паказваеш з ахвотай.

У верасня — свой, асаблівы пах:
Курыць сівец — плыве дымок гаркавы,
Зямлёю пахне бульба ў капцах,
Антонаўкамі — зоры па начах
І туманы — ляжалаю атавай.
1959

## ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЦЕЙ...

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою не ачарсцвець,
Каб не страціць святое штосьці.

Не забыць, як пад вялы аер
На памытай падлозе пахне,
Як у студню цыбаты асвер
Запускае руку да пахі.

Не забыць сцежкі той, што цябе
На дарогу выводзіла з дому,
Што ў хаце там быў рубель
У цане і па курсу старому.

Не забыць, як марозам злым
Клямка пальцы пячэ балюча
І адкуль на стале тваім
Бохан свежага хлеба пахучы.

Помніць свой на іржышчы цень,
Не забыць, як завуць суседа,
Не забыць, як пяе пад дзень
За вясёлым сталом бяседа.

Помніць кожнай масніцы спеў,

Кожны кут у прыціхлай хаце.
Лесу дзякаваць, што паспеў
Ты пачуць блаславенне маці.

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою ты стаў чысцей
І не страціў святое штосьці.
1960

* * *

Заспаная раніца мжыстая,
На фарбы і гукі скупая.
Нібыта сцяжынаю мшыстаю,
Прыціхлай зямлёю ступаеш.

І вёдры прыглушана бразгаюць
Каля адсырэлае студні,
Лісцёваю дыхае брагаю,
Пакутуе восень застудай.

Цыбатай нагой жураўлінаю
Імшарамі верасень крочыць.
Ад кіслых прысмак журавінавых
Заплюшчыла сонца вочы...
1960

СКРЫПАЧЫ

Зноў піла пад пахаю ў чахле,
Бы ў футляры скрыпка.
Пэўна, самі
Не згадаюць, хто іх на сяле
Ахрысціў вясёла скрыпачамі.

Так і засталіся скрыпачы
У вясны ды ў лета прымакамі
І не маюць часу адпачыць:
Ходзяць, граюць вострымі смыкамі.

А смыкі ўвап'юцца ў круглякі —
Ніякой не трэба каніфолі,—
Добра ўсмоляць крохкія сукі,
У сярдзітай елкі іх даволі.

Закурыцца — жах зірнуць ажно —
Белай завірухай пілавінне.
Скрыпачы любое бервяно
Абкантуюць, перапалавіняць.

І шчырэе з рання да цямна
Дружная скрыпачая капэла.
Пахне баравінаю сасна,
П'яная асіна — лісцем прэлым.

Выразай цымбалы з той сасны —
Бор застогне, ледзь кручкамі ўдарыш.
З дубу зробіш кадзі — як званы,
Загудуць працяжна на базары.

А з бярозы выгнеш палазы —
Запяюць на стылым снезе сані.
Не дагоняць санак маразы,
Вецер, захлынуўшыся, адстане.

Будзе новы дом стаяць вякі
І звінець над зацішшу аселіц
З лёгкае скрыпачае рукі
Пад смыкамі ветру і мяцеліц.
1960

## ПАЛАТА МІНЁРАЎ

Руку аднагодак працягвае мне,
Пацісну я куксу ў шрамах,
            бы ў разорах,
І порахам ды марганцоўкай дыхне
З раённай бальніцы
«палата мінёраў».

Далёка на захад адкочваўся гром.
Гулялі ў вайну мы —
у нашых і немцаў,
Вайна ж,
пазалёгшы за кожным кустом,
Глядзела навокал
позіркам немым.

Мы рана сталелі
ў зямлянках сырых,
Але забываліся цацкі няскора.
І рваліся «цацкі»...
І урач гаварыў:
— Яшчэ папаўненне
ў палату мінёраў...

Здавалася, у цішы рыпела зямля
На восі,— нібы на пратэзе,—
у зморы.
Пасля перавязкі (ой, раны смыляць!)
Спявала «Арлёнка»
палата мінёраў.

Вятрыска лісты нам на шыбіну клаў,
Рабіны рукамі здаровымі гойдаў.
І доўга не мог нас даклікацца ў клас
Той верасень
сорак чацвёртага года...

З пустым рукавом
сын вярнуўся дамоў,
А маці, як яблыня, белая з гора...
Хай порахам толькі запахне ізноў,
Вы ўчуеце, хлопцы,
з палаты мінёраў!

Ты помніш:
асколак абвугліла кроў,
Ты ведаеш міны здрадлівы нораў...
Белабілетная ў дваццаць гадоў,—

Ты ў першым запасе,
палата мінёраў!
1960

ТРУБА

Казалі маці галавы не вешаць,—
Суседкі спачувалі як маглі.
Прыкурвалі салдаты з галавешак,
Што сёння ноччу
сцэнамі былі.

Было нязвыклым слова «кватаранты»,
Сусед чамусьці стаў «гаспадаром».
Я не стыкаўся ў хаце гэтым ранкам,
Я бегаў з квартай,
бразгатаў вядром.

— Расці вялікі!..
— За ваду, брат, дзякуй!..—
Адзін салдат з блакітнымі вачмі,
Нібыта ў таты...
Дужа добры дзядзька
Мне працягнуў трубу:
— Сынок, вазьмі!

Ты перамог — трымай, герой, трафеі,
Трубі гучней,
а Гітлеру — труба.
Я ў шчасці бег гародам утравелым,
Ад радасці і сон і сум прапаў.
Павышчарбіў ушчэнт я нож апошні,
Пакуль садраў глюгатага арла...
Я крокам страявым хадзіў на пожні
На зайздрасць сябрукам труба раўла.

Плылі ў вачах кругі —
стараўся шчыра,
Аж водгулле ішло за паплавы.
І адгукаўся жураўліны вырай,

І на двары суседскім Лыска выў.

Ды неўпрыкмет па вуліцах ушацкіх
Прайшоў мароз —
          пакінуў стылы след.
І за трубу вялікую вушанку
У сівер злы прапанаваў сусед.

Вайсковая вушанка з футры мяккай.
Здавалася, пагладзь яе рукой —
Яна, як кот, пачне мурчэць і мяўкаць.
Мароз круціў за вушы раніцой.

Сцвярджаў я маці:
          — Шапка малавата,
Я прахаджу і у летняй, не бяда!
Халодная вушанка, мала ваты...
Ды ўсё ж трубу прыйшлося мне аддаць.

Сусед трубою Лыску клікаў потым,
Кал і збіраўся паляваць куды.
Трубу зачуўшы,
          плакаў доўга ўпотай...

...Даўно знасіў вушанку,
Ды заўжды
Трывогай успаміны сэрца сціснуць,
Кал і салдацкі горн раўняе строй.

Трывожны год звінеў
          майму дзяцінству
Нямецкаю трафейнаю трубой.
1960

ЦЯЛУШКА

I

Звідна
          відна палазня,
          як шляк,
На пухкай хусціне
          снежнай роўнядзі.
Рассыпаны просам Млечны Шлях.
Пільнуйся слядоў капытоў
          і у роў не йдзі.

...Жанчына брыдзе,
цялушку вядзе.
Рагуля свеціць
          белай залысінкай.
Дзе
пысу цялушцы
          змачыць у вадзе?
А да наступнага хутара —
          не блізенька.
Ідзе сорак пяты...
Мароз пячэ,
Ад замеці цёмна —
ступае вобмацкам.
Жанчына цялушку
Купіла ў яшчэ
Некалектывізаванай вобласці.

Прыйшлося машыну прадаць.
Да вайны ж
Была жанчына
          краўчыхай Яніхай.
Муж мёртвы.
Сын хворы.
Каго вініць?
Будзе лыжка смятаны
          свая няхай!..

II

Мама!
Я помню — у хату ты
Прынесла мароз
            і усмешку цёплую.
А потым намёрзлыя капыты
Па слізкаму ганку
            спалохана топалі.

У сенцах стаяла цялушка.
Сцяна
Нас раздзяляла
            з рахманай Лысоняю.
Мы чулі,
            як дыхала цёпла яна,
Як жваку жвала,
            ціхая, сонная.
Рагамі пагруквала ў сценку:
Час
Свайго абеду дакладна ведала.
Калі хто, бывала, заходзіў да нас —
Яна галавою махала ветліва.

Сябе дазваляла часаць між рог.
Глядзела разумна
            вачыма сумнымі.
І я ля вазоў сабіраў мурог —
І частаваў яе гэтым ласункам.

Ніяк я не мог малака дачакаць...
Праз год — нарэшце! —
            з залысінкай белаю
Каля шчаслівай Лысоні —
Дачка
На хісткіх ножках,
            нязграбная, бегала.

У холад Лысоню ўкрывалі
Рудой
Пасцілкай,

дачушку — аўчынкай мяккаю.
...Я помню,
як мама на першы надой
Ксцілася,
плакала,
Богу дзякавала.

У сенцах зацішна.
Лысоні няма.
Не кліча сумна дачушку мілую.
А мне сырадоем
пахне зіма
І снег рыпіць
капытамі настылымі...
1960

## ВЯСНОВАЯ ЗАМАЛЁЎКА НА БЕРАЗЕ ВАЎЧЭНСКАГА ВОЗЕРА

Возера стаіць, не зварухнецца,
Бо агеньчыкам надкручнай хаты
Аж да дна, нібы цвіком, прыбіта —
Каб не ссунулася анікуды.

Быццам купінка з сухой ігліцы,
Недаверлівы спяшае вожык,
Чмыхае лычком сваім кірпатым,
Нюхае — ці не прайшла палёўка?..

Драч на непадмазаных калёсах
Туманы сушыць вязе на тоні.
Кнігаўка (за дзень не дакрычала!),
Як з хвастом ушчэмленым, галосіць.

Пахнуць туманы аернай рыбай.
Точыцца з зямлі адталай мята...
От і ты зайшоўся ў шчырым спеве.
Добры вечар,
салавей знаёмы!

Ты ці помніш пра старога Іцку?
Ён жа ў вёску вёз у бочцы дзёгаць,
Чорт падскочыў,
            з бочкі шпунт адторкнуў —
І закапаў на дарогу дзёгаць.
Гэта ж ты яму крычаў з бярозы,
Папярэджваў дзегцяра старога:
— Іцак, Іцак!
Дзёгаць выцек —
Кап, кап,
Ццюрр-руру!..
Выбеглі ў сяле суседзі нашы
З вёдрамі — Максіміха, Казліха,
Ну а у Іцкі — ані кроплі дзёгцю.
Як жа мне шкада было старога.

Дзякуй за ўспамін табе, залётны!..
1961

ЦЫМБАЛЫ

Матылёк на калені прысеў,
раскрыліў крылы:
два заспаныя лугі ў расе,
дзве аблачынкі-крыгі;
дзве
            на ляпы заснежаныя,
дзе,
            як бежанцы,
як пагарэльцы,
асіны,
            ад холаду сінія,
не могуць пагрэцца,
дзе старонкі разгорнутай кнігі
стагоддзяў,
            сівых, як туманы,
над якой лямантуюць кнігаўкі,
яе маланкі пішуць,
            чытаюць яе
            перуны.

Па звонкіх промнях,
па ліўнях тугіх
ударыў кручок —
і умомант,
як рэчка на досвітку ў берагі,
у сэрца грукнула
песня знаёмая...

Вятры!
Я вас заклінаю,
прашу, як братоў,
слухайце ўсе,
слухайце ўсе!
Не асыпце расу лугоў,
якую песня
да сонца нясе...
1961

## СТЭАРЫНАВАЯ СВЕЧКА

Яна ка мне прыйшла не з добрай казкі,
Не з ёлкі ў агнях пад Новы год,
Гарачыя аладкі з ейнай ласкі

З патэльні я хапаў хутчэй у рот.
Сорак чацвёрты ўспомніцца заўсёды
На павуцінні жоўклы ліст трымціць.
Заўзята мы лапацім агароды,
Каб леташнюю бульбіну знайсці.

І з гэтай бульбы з дзіўнай назвай «рулі»
Для нас такіх прысмакаў напячэ
Назаўтра клапатлівая матуля,
Ясі — баішся, каб было яшчэ.

Яна ка мне прыйшла не з добрай казкі,
Бо нельга так было — ні даць ні ўзяць
Без гэтай стэарынавай падмазкі
«Прысмакі» ад патэльні адарваць.

Яе не дакраналіся запалкай
І ад ката хавалі па начах.
Я смак таго трафейнага асмалка
Яшчэ і зараз чую на губах...
1961

МАТЫЛЁК

Б'ецца, уецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.
Максім Багдановіч

Лілею
млявы
плёс
люляе,
З-пад злежаных
аблок
здалёк
Ляціць віхлясты і бялявы,
Пялёстак лёгкі —
матылёк.

Ён кліча ў блакіт лілею,
Каб не любіла
больш
да слёз
Бліскучы ад лускі і глею,
Самлелы,
абмялелы
плёс,

Дзе лашчыць цёплай ласкай хваля
Лінёў — злянелых цельпукоў,
Паблісквае
няблізка
далеч,
Дзе ў іле
не злічыць малькоў,
Дзе глыб

угнеўлена шыпела,
Калі
на хвалі
лівень
лёг...
Засумавалы,
белы,
белы,
Ляціць удалеч
матылёк...
1961

* * *

Драч крычыць у густым тумане,
Быццам хто яго, дурня, рэжа.
Я прыслухаўся —
праз мяне
Прарасла Белавежа.
Аплялі мяне карані -
Працавітыя вязні зямныя.
Ты галіну адну крані —
Пушча ўся
ува мне заные.
Мне зязюлі не злічаць вякоў,
Дзяцел грукае —
мне ў грудзі.
А вятры, карагодам, вакол
Ходзяць-ходзяць
і сон мой будзяць.
Быстрай ластаўкай,
як стралой,
Ў мяне вырай далёкі стрэліць —
Сонца
з песняй зялёнай, старой
Узніму на зялёных арэлях.
У крыніцах крутых завару
Хмель вясновы з зялёнай пенай.
Пад вірамі нямых завірух
Ува мне
навальніцы спеюць.

1962

* * *

Мохам зязюльчыным
ідуць маладзіцы,
губы засмяглыя
ў спелых суніцах —
на сонцы ягады
спакойна вымлелі.
Холадам ногі
рачулка вымыла.
Ляціць
над звонкімі баравінамі
песня
дзяўчынанькаю
нявіннаю:
— А я ў бару
Грыбы бяру,
Каля межы —
Сураежы!..
Ах кладка зыбкая,
рачулка мелкая!
Адкуль жа вымкнула
усмешка смелая:
— Кавалішанька,
Мая вішанька,
Не кажы ты кавалю,
Што я цябе павалю.
— А хоць на мяжы
Палажы,
Толькі майму кавалю
Не кажы!
На мох паваляцца
на сцежцы вузкай,
думкі,
што саладзей за вусны...
Як тут гукаецца,
ды ўжо змяркаецца...
Туга ўдоўя дамоў вяртаецца. 1962

## БУСЕЛ

*Васілю Быкаву*

Непаседа,
даўгацыбы бусел —
Даўняе вясны
забыты сон.
...Я злавіць яго
за хвост цягнуся,
Дражніцца
і уцякае ён.
Зморany,
я доўга плачу потым.
Суцяшаць
стараюцца ўсе:
— Бусел ходзіць
у чырвоных ботах
І табе
такія ж
прынясе...
Горбіць плечы гора,
горбіць праца.
Усяго спаўна
мне лёс паслаў...
Вось ужо і скроні серабрацца.
Ды яшчэ й цяпер
лаўлю бусла.

Ну, на гэты раз
вярнуся з птахам —
Я ж за ім прайшоў
багата вёрст!
Нада мною —
крылы белым дахам.
Паспрабуй
злаві
бусла за хвост...
1962

## ПАРОМ

Пагоднай сенакоснаю парой,
Нагружаны бухматымі вазамі,
Зялёнай хмарай сунецца паром.
Каб не адбеглі берагі ў бакі —
Канатам мокрым моцна іх звязалі.
І злосна ўсталі стромы на дыбкі.
Але прымаюць берагі паром —
У берагоў з паромам свой пароль.
Сам Чэрвень за паромшчыка стаіць.
Плывуць вазы — няма затрымкі руху,—
Здаецца, уброд з лугоў пайшлі стагі.
Спацеў паромшчык, замарыўся ўшчэнт.
Балюча шыю рэжа пацяруха,
Ды пад'язджае воз,
яшчэ,
яшчэ...
Як спёка,
дыхае ля вуха конь.
Ад мурагу пазеляыелі цуглі.
Гарыць агнём у Чэрвеня далонь —
Канат сціскае сёння ад ведна.
Ды воз за возам валакуцца цугам.
Рака прапахла мурагом да дна.
А сонца пазірае з неба скоса —
Ой, не абгоніць Чэрвень Сенакоса.
Гэй, Чэрвень,
ты адзін запарышся —
Бяры мяне к сабе ў таварышы...
1962

## ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

*Валянціне*

Хоць дзень ідзе на спад,
але
У вачах смяшынкі-д'яблікі.
У абрасельм падале
Ты мне падносіш яблыкі.

Тугія грудзі аблягла
Сукенка абмакрэлая.
А Месяц
зырыць з-за вугла
На ікры загарэлыя.

Яшчэ не звіслі над табой
Клапоты хмурай навіссю,
І яблынькаю маладой
Стаіш ты з першай завяззю...
1962

## ПАЛЯЦЬ БУЛЬБОЎНІК

Калі разыходзяцца
лета з восенню палюбоўна,
а бульбянішча на зіму
яшчэ не пераворана,
зграбаюць у кучы,
паляць бульбоўнік.
Іскры лятуць і бляkнуць
патухлымі зорамі.
Дым спачатку рвецца ўгару,
ды перадумвае неўзабаве,—
мабыць, лагчынай
прайсці захацелася.
Барана,
што ляжыць дагары зубамі,
як вожык той,
абчаплялася
лісцем зжаўцелым.
Сланечнік галаву цяжкую
праз частакол прасунуў,
грэецца —
холад даймае патрошку.
Лятуць журавы над Ушачай
з курлыканнем сумным,
ляціць наўздагон ім

ціхае:
«Пуцём-дарожкай!»
На возе едзе мох баравы,
запалы лістам,
іглiцай,
дым следам ідзе,
і конь галавою
матляе стомлена.
З раніцы хмурыцца,
хмарыцца,
над вечар — імгліцца.
Журавель над студня й прыгнуўся —
нізка над восеньскай столлю.
Я гэты ціхі дым
на смак
і навобмацак
ведаю
яго я ні з чым не паблытаю,
любой парою,
дзе б ні быў,
адусюль
па ім, як ганчак па следу,
дарогу дадому знайду,
да матчынага парога.
1962

* * *

*Міколу Прашковічу*

«На Беларусі
Пчолы, як гусі»,—
Прыгадваў зямляк
у выраі.

Зоры спелі,
зоры гаслі,
Мох зязюльчын
рос на вываратнях.
«Ем сырую зайчыну
Ды люблю Айчыну!» —

Прысягаў паўстанец
нябёсам.
Дзверы
дню маладому
расчынены —
Расой ішла песня босая:
«Я здыму парчу,
Ножкі абвярчу...
Песню азяблую
Сагрэць хачу...»
Торкнецца ў крыгу
лыч карасіны,
Сонную роўнядзь успеніць.
Згару я
на вейцы тваёй
расінкай,
Беларусь —
мая мова
і песня.
1962

НАГБОМ

Падталі памалу глыжы,
сонца пагляд
у яры скіраваны.
Ралля ляжыць
нядоенай каровай.
Песня жаўранка,
як пароль
трэцяй партызанскай вясны.
Дзень малады
пераступіў парог...
Малады сувязны
цягне са студні вядро,
ваду спакойную
ставіць на зруб
(лясны раён —
зацішна ад вятроў),
вядро рыбінай цяжкай

вырываецца з рук.
Рыпіць перасохлы вочап.
Сувязны лакцём
засланяе вочы:
у поўным вядры
ільдзінкі і сонца.
Цішыня за ўсім
насцярожана сочыць.
Паветра ўдыхнуўшы,
хлопец дзьме
на ільдзінкі —
б'юцца ў клёпкі са звонам,
яшчэ адзін уздых ягоны —
сонца, як перагрэтая медзь,
у сценку драўляную стукае мякка.
Нагбом
з поўнага
п'е партызан са смакам —
толькі ходзіць кадык.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Тады
хлопцу ўшацкаму столькі год
было,
колькі сёння мне.
Па вясне,
калі адгрыміць крыгаход,
аб наступленні цяпла
папярэдзіць гром —
і сонца смех,
і аблачынак апошні снег
п'ю з неба,
як з поўнага кубка,
нагбом,
б о сувязны не дапіў...
1962

АРЦЕЛЬ ІНВАЛІДАЎ

Нож спатыкаецца. Малаток картавіць.
У пярэстрыкі ходзіць дратва.

Арцель інвалідаў у кожным квартале
Перавышае графік.

Прысмеркі вочы. Скручэлі пальцы.
Некалі сумаваць за работай.
Успаміны «казіную ножку»
          прыпальваюць,
Выціраюць слязіну ўпотай.

За вокнамі ходзяць цыбатыя ліўні,
Град буйнакаліберны шчапае гонту.
Прыхваткамі шые бацька шчаслівы
На абедзве нагі
          сыну
Новыя боты.
1962

## ПАМЫТАЯ ПАДЛОГА

Толькі што намытая падлога
Пачынае пахнуць борам густа.
Зноў, здаецца, слухаеш падоўгу,
Як звіняць галін сасновых гуслі.

Млосна ад малін у расцяробах.
Дзяцел грукне ў цішыні чмялінай.
Выцірайце ногі.
Асцярожна!
Вы ступаеце па вершалінах!..
1962

## ВЕЧНАСЦЬ

Мне ясным сонцам лёс наканаваны —
Не ведаць змрочных лёхаў нематы.
З табою кожным нервам знітаваны,
Не, Вечнасць, я ў цябе не паняты!
Зязюлямі гадоў пракукаваны,
Бор галавы маёй аснежыш ты

І уладна пакладзеш на лоб круты
Зямныя, упартыя мерыдыяны,—
Мяне не ўстрашыць захад залаты.
Да зор скірую думак караваны,
Арлы іх прывітаюць, як браты.
Не знікну так, як цень, як гук пусты.
Не адцвітуць вачэй маіх паляны,
Прабіўшы жвіру мокрага пласты.
1962

* * *

Слаўлю чысты абрус,
толькі што пакачаны качалкай,
каляны,
калі яго маці ў нядзелю раніцай
засцілае на стол шырокі.
Нетаропка рагі распраўляе —
па парадку ўсе чатыры,
потым махры разблытвае,
і яны, ільляныя, мяккія.
чапляюцца за шурпатыя пальцы.
Нарэшце пачэснае месца
зямным і надзённым Богам
займае жытнёвы бохан.
І абрус, як кляновы ліст
з пражылкамі складак,
бо чакаўся ў чатыры столкі,
настольнікам робіцца...
1963

* * *

Касцёр,
        што грэе азяблы вечар,—
Нібы касцёл
        сярэднявечча,
Які
        шпіляў чырвоныя языкі
Узносіць у вышыню.

Яліны
          хіляць галіны —
Моляцца Богу агню.
1963

ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ

Успаміны вяртаюцца з выраю
на паляну роднага краю,
дзе зноўку зацвіў
          забыты сунічнік.
Усіх, хто радзімы выракся,
карае
Забэйда-Суміцкі.
За-бэй-й-да-Сумі-і-цкі!
Гэй—й,— да-
          лёкае рэха коціцца.
Песня матчына
лашчыцца
лапкай
          вярбовага коціка.
Калыханкай
Забэйда-Суміцкі калыша
смутак свой і усіхні.
І зноўку пагодзіцца колішні
веснавы, без ніводнай хмурынкі,
блакіт летуценняў сінютка-сіні.
Самотная песня
          Забэйды-Суміцкага
сумуе па Беларусі,—
яна ж не беларучка.
Яна ж прывыкла араць
і сеяць
у кожным сэрцы зярняты надзеі.
Спявае Забэйда-Суміцкі.
Раніца.
Сумненне з сумленнем раяцца.
А смешны на лузе сумнік
лічыць сумна
свае дукаты.

Зямны паклон Вам,
Забэйда-Суміцкі.
Вярнулася песня дахаты...
1963

## ВАРШАВА

Панна Варшава
не раз вырашала,
якія туфелькі ёй даспадобы,
якой дарогай ісці да свабоды.
Плыла між чаротамі
льдзінкай падталай,
зачароўвала
Напалеона таліяй.
Як Елена з Парысам,
панна Варшава
какетавала з Парыжам.
Падымала кілішак
на ножцы гранёнай,
цягнік варожы перакуліўшы,
гладзіла ствол варанёны...
Вайна адгрымела —
пані Варшава
Стаяла каля варштата.
Меней у супе
стала мяса,
затое з-пад броў насупленых
зноў усміхалася Старэ-Място...
Лютуе Шапэн у Лазеньках
пад хмарай навіслай.
Травою трывога пазарасла.
І хоць сірэны сышлі з арэны —
са шчытом і мечам выйшла
на бераг Віслы
русалка вайсковапавінная —
Сірэнка.
У паненкі выстрачана дзявочая сукня
радком міцкевічаўскім вершаваным.
У тужурцы

будзіла планету сумную
дачка яснавокая —
«Варшавянка ».
Мне плыць бы па Вісле ўспамінаў чоўнам!
Як Варш нарачоны,
шапчу ёй:
«Сава...»
Нех мі дарує
панна Варшава.
1963

САКАВІК

Павук па промню
спускаецца ўніз,
верыць хачу я ў старую прыкмету:
спускаецца —
значыць, будзе мне ліст.
Толькі ад каго б гэта?

Напэўна,
будзе ён ад вясны,
ад той,
што ў касынцы сіняй.
У позірку хмель
і спакой лясны,
на губах —
сівер...

Скрылеўе ў лядоўні вязуць.
Пагодзіцца.
Са стрэх ледзякі дзінькаюць.
Сакавік,
як школьнік,—
аж зубы заходзяцца! —
хрумстае
крохкай ільдзінкай.
1963

## ЛОДКІ

*Міхасю Стральцову*

Прыбіўшы да берага
чарот патрушчаны,
Засынае возера,
ад сіверу сіняе.
Стамлёна дыхаюць хвалі,
як грузчыкі,—
На плячах
гарачае сонца
насілі.
Нерастуюць ільдзінкі
халоднымі плоткамі,
Азябламу поўдню
ў хмарах не ўгрэцца.
З возера пад паветку
плывуць на калёсах лодкі,
Як даўна іх сёстры далёкія
«з вараг у грэкі».
Азалелую песню
зацягнулі вятры-музыкі.
А заплывалі ж лодкі
за далягляд невядомы.
Зараз плысці ім
па возеры нецярпення зыбкім
Ад берага ледаставу
да берага крыгалому...
1963

## МАЯ МОВА

Сцвярджаюць гісторыкі і мовазнаўцы,
Што паступова сціраюцца грані нацый
І, нібыта як перажытак,
аджыць павінна абавязкова
Мова маці маёй — беларуская мова,
Што мне, як імя ўласнае, блізкая і знаёмая,
Што на жылах маіх цячэ
і сонным Сажом і Нёманам.
Я чакаю часіну сябрыны людской,

Але не згаджуся, што родныя мовы луской
Былі на рыбіне чалавецтва,
Якая ў вечнасць плыве акіянам вечнасці.
Галеюць увосень гаі-касмачы,
Па вясне расціскаюць лісты
Свае кулачкі маладыя.
І калі нават мова мая замаўчыць,
То не зробіцца мёртвай латынню.
Словы, дзе кожны гук
Азяблай сінічкай цінькае,
Не стануць тэрмінамі медыцынскімі.
Гэтыя словы
Павінны вывучыць будуць нанова,
Каб даведацца,
    Як Русь мая, белая
    Ад веснавое наквеці
    І ад касцей няпрошанай набрыдзі,
    Вольнай воляй сваёй даражыла,
    Як з братамі і сёстрамі
    Шчыра дружыла.
Калі мова мая
Уліецца ў агульны людскі акіян,—
Пацячэ ў ім, стрыманая,
Цёплым Гальфстрымам.
І будзе мне сэрца грэць
Кожным ашчаджаным словам,
Бо як жыта спрадвечная
Беларуская мова!
1963

## РУМ

Асабіста мне падабаецца зборнік лірыкі — рум,
дзе пахнуць смалой і марозам радкі сасновыя.
Крумкач аблянелы для рыфмы кідае
    зычна лясное — «крум».
Паміж радкамі лясныя сны, як малыя, сноўдаюцца.
Паляўцы — тых вёсак, дзе лесу няма, жыхары —
да лесаўцоў абозам скрыпучым едуць на пастаянку.
У бары ад піл і сякер перагрэтых

прыкурваюць кастры —
тут ствалы радкоў
падганяюцца да класічнага ямба.

Перуноў крыгалому цярпліва чакаюць радкі.
Нарэшце ў слупкі плытоў збіваюць іх плытагоны.
Каб напісацца хутчэй на развінутым рулоне ракі,
адзін аднаго абганяючы,
з падскокам імчыцца з адхону.

І звонкія вершы плывуць па быстры на прастор.
Аб іх арыгінальнасці можаце ў мяне даведацца.
Для пераймання трэба не многа —
гумовыя боты і доўгі багор,
колькі трэба радкоў, падчапляй
і валачы ў часопіс ці ў выдавецтва —
навяжуць плытоў...
1963

* * *

Яшчэ гетэры старажытнай Грэцыі,
З начнога промыслу прыйшоўшы ўранні,
Хацелі ціхай калыханкай грэцца,
Хоць трошкі хатняга хацелі раю.

О мацярынства мацярык нязнаны:
Як ні гукай — ніхто не адгукнецца.
Яго заўсёды адкрываюць занава,
Калі пад сэрцам нешта зварухнецца.

А у сэрцы страх і слодыч тлеюць вугалем —
Усходзіцца пажар з малой іскрынкі.
У млоснасці саскі цяжэюць, смуглыя,
Гатовыя пупышкамі раскрыцца.

І зацвілі пралескі вачанят,
Зазелянела лісце ручанят...
О мацярынства мацярык нязнаны.
Яго заўсёды адкрываюць занава.
1963

## ВЕРАСОВАЧКА

Іду. Лагчынка перасохлая
Ледзь папярхнулася расой.
Ці прымеш госця,
Верасовачка —
Дачка вясёлых верасоў?

Тут, помніш,
Нам ва ўсім паверыўшы,
Жылі суседзямі лясы.
Цвілі ў бацькі вочы верасам
Ад слова ранішняга — «сын».

Прыйшла пад хату грушка дзікая,
Ледзь я свой год другі сустрэў.
А ходзікі на сценцы цікалі,
І падалі дажджы са стрэх.

Тут, як у казцы, у лядах восенню
Карову пасвіў кот Мірон,
Лісіца пеўня з дому зносіла
І вечар глух ад камароў.

Мяне купал і у ліповачках,
У бацькаў торкалі рукаў.
Калыску маладзік да поўначы
На вострых рожках калыхаў.

Ноч, як малога, хутар хутала
Аўчынай жнівеньскай імжы.
...А сёння грушына без хутара
Стаіць бабылкай на мяжы.

А сёння зацвіла ігрушына
За трыццаць год упершыню...
Чым гэта вока запарушана?
Хто там парушыў цішыню?..

Схіляю галаву з пашанаю,
Адсюль нясу ў трывожны шлях

На кожнай далані па жаўранку
І па хмурынцы
на плячах...
1964

## ГОД

I
Заспаныя прачнуліся грымоты —
І кнігаўкай спявае лазіна,
Самлелая ад леташняй спякоты,
Абложная дыміцца баразна.
Шчэ гнёзды стылыя, пустыя соты,
А ужо ад слоў хмялее давідна
І ні пра што не думае вясна —
Дачка гарачай ласкі і пяшчоты.

У вочы зазірні — не ўбачыш дна.
Далёка недзе прыпар і турботы.
Гуляе дзеўчына, пакуль адна...
Цяжарнее калоссем цаліна.
З гнязда глядзіць пухнацік жаўтароты —
Клапоты ад цямна і да цямна.

II
З далёкага цяплыньскага павета,
Пакінуўшы ржавець з'араны плуг,
Спатнелае, расхрыстанае лета
Прыйшло — і луг ад конікаў аглух.
Смугою ахінулася планета.
Займае дых гарачы кменны дух.
Дзе воблачка, дзе дзьмухаўцовы пух?
І просінь просіць шырыні ў прасвета.

Ад завірух калючых пацярух
Наскрозь дарога ўезджаная ўгрэта.
Шчырэе летні дзень адзін за двух.
Пал воч вясновых чыстых не патух,
Нібы агонь далёкіх зор Сусвета,
Падлетак над стагамі робіць круг.

III
У Белавежы — лосьна, язьна ў Шчары.
З лясной крыніцы агнявы глыток.
Узважлівая яснасць дзёрзкай мары
І стрыманасці першы халадок.
Сігае ястраб думкі праз гушчары
Над зброснелаю зацішшу заток.
Перакідае восень жоўты ўток
І, па традыцыі, згушчае хмары.

Разблытаць хоча бліскавіц маток
Рабінавая ноч. Рабін стажары.
Лядком на лузе шкліцца капыток.
Сівее ржэўе. Звонка стыне ток.
Пяро раняе вырай на абшары.
Рунь прагавіта цягне зябкі сок.

IV
Зажмурылася смачна аканіца.
Спіць на пярынах белых цішыня.
Ад сіверу ссінелая сініца
Ніяк не можа дачакацца дня.
Рацэ, як рыбаку стараму, сніцца
Прыцмок саміны, стылы лёд ліня.
У дуба-ведуна з-пад караня
Прабілася бруістая крыніца.

Ляціць адліжны каркат варання
З яліны, што стаіць, нібы званіца.
Сядлае ўсход гарачага каня,
Штораз вышэе ў сонца вышыня.
І першапутак неба рэжа ніца
Палосак рэактыўных палазня.
1964

## ДЗЯТЛІНКА

*Уладзіміру Караткевічу*

Дасвецце займаецца ціхае.
На лістах раса халодае.

Узбегла на ўзмежак,
задыхалася
Дзятлінка белагаловая —

Пляменніца дзятла белагрудага,
Унучка завеі ўскудлачанай.
Сукню, што зелянееццa рутаю,
З канюшынай купіла ў складчыну.

Ля дзяўчынанькі шчырэюць з раніцы
Чмялі —
сваты басавітыя.
Адвячоркам туман стараецца
Ногі ўхутаць світкаю...

Навальніца прасторы вымые —
І дзятлінка зноўку клявае.
На чужыне асветліць сны мае
Сваёй галавой бялявaю.

Дзятлінка снежнарутая,
Як сляза па Радзіме,
чыстая...
Таксама і Беларусь мая
На ўзмежках цвіла
і выстаяла.
1964

ШАПКА

Усю зіму з апраткаю забытай,
Як у глухім бярлогу, у шафе спіць —
Не маладая ўжо аладка-шапка,
Саперніцу вушанку ненавідзячы.
І толькі аднаго яна баіцца,
Каб гаспадар вясною не надумаўся
Аддаць яе вароне на гняздо,—
Не паўтарыць бы сумны лес бабулі.

...Зайшоў з марозам гаспадар у хату

І моўчкі, стомлены, за стол садзіцца.

Калі, бывала, летам ён палуднаваў,
Ляжала на краі шырокай лавы,
А гаспадарскі сын яе прымерваў.
З-пад доўгага брылька ружовашчокі
Глядзеў малы, як яблык з-пад лістка.
Свяціўся бацька ўсмешкаю шчаслівай.

Чаму брылёк так напал надламаны?
На золку гаспадар устаў, каб сеяць.
Шчырэў уночы дождж — і, як вашчыны,
У соты ўсю раллю парашаціў.
Было на ўскоце сонца. У кішэню
Яе паклаў таропка гаспадар
І прывітаў з пашанаю Ярылу
Ды папрасіў, каб ярыне спрыяў ён.

А што вушанка? Апусціўшы вушы,
Усю зіму праходзіць. Незайздросна!
Лютуе Люты, сцюжыць Студзень. Снежань
І той гады ў рады бывае ціхі...

Зух-Сакавік яе цярпець не можа,
Хоць ён па дыме вушы гэтай соні.
Ледзь сонца ласкавейшым вокам гляне,
Аладку-шапку ўсторкне на хапку.

Ну, а у Красавіка па-кавалерску
Яна ляжыць — на чубе і на вуху.
Май ветраны — штоноч чакай у хаце,
Пакуль яму кудлаціць чуб каханка.

... Выходзіць гаспадар, і дзверы ціўкаюць.

Ну, як не ўспомніць Чэрвень загарэлы!
Дакошвае лугі — знаходзіць гнёзды,
Кладзе ў яе цяплюткіх птушанят.

Брылёк
сасмяглы Ліпень перакручвае

І нагінаецца крыніцу выпіць.
Не спіць у шапку, носіць яе радасны
Вусаты Жнівень ледзь не на патыліцы.

Праводзячы вачыма вырай сумны,
Яе рукой прытрымлівае Верасень,
Нідзе не забываецца Кастрычнік,
Нацягвае на вушы Лістапад.

Яна прапахла вапнай і зямлёю.
Зрабілася ад ліўняў і ад сонца
Якраз як сівагракава крыло...

Што апроч снегу бачыла вушанка?

Апошні раз ішлі з гаспадаром,
І на яе лісток чырванацыбы
Апаў, як той падлётак на буслянку,
Азяблы, кволы і такі дурненькі...

Апрыкла ўсё, хутчэй бы Сакавік,
І, безумоўна, ён па даўняй дружбе
Гаспадару напомніць пра яе.
Якія ж дні ў вушанцы непаваротлівыя!
1964

* * *

Ішла над ціхім лесам поўня.
Расы чакалі верасы.
Пад вербамі ў нагрэтым чоўне
Дзяўчына мыла валасы.

Яшчэ худзенькімі рукамі
Вязала, мокрыя, вузлом.
Усмешка на вадзе блукала.
Хмурынкі возера вязло.

Прасілася ў косы стрыжка.
Шаптала з берагам карма.
А косак не хапала крышку,

Каб дзве лілеі ўтрымаць.

Ледзь-ледзь хавалі зайздрасць хвалі,
Аж закіпелі ў трысці,—
Мяне і човен падмывалі
Далёка з юнай заплысці...
1964

## МАРАЛУ ЗРАЗАЮЦЬ ПАНТЫ

Дрыжыкі па целе,
Марал пацее
У тры паты.
Панты
Зразаюць
Нажоўкай.
Капыты
Б'юцца на жоўклай
Траве...
Трывае...
Рэжце ж!
Ці нажоўка тупая?!
Нарэшце!..
На свежым пяньку выступае
Жывіца чырвоная...
Выпусцілі
З загона!
Грукнулі
Усе закладзіны суха.
Рвануўся...
Замёр...
Прыслухаўся...
Страх яшчэ казыча
Пахвіны.
Трасянуў галавой па звычцы,
Што рогі там быць павінны,—
Няма іх!
На міг
Нямая
Цішыня.

Толькі кедры шумяць.
Больш
Не суняць!
Раскручваецца пружынай напятай —
Увесь балючы,
Безабаронны,
Лабаты...

Ад абразы заб'ецца
Пад кедры густыя.
І покуль
Боль не
Астыне —
Не зварухнецца, не тропнецца,
Каб не ўпала
На свежы пянёк ані кроплі...
Адстоіцца
Сум у вачах,
Як змрок у цесных прагалах.
Нават пысы гарачай
Не астудзіць вадою крыніц...
А побач
Яго сябры
З маладымі
Рагамі
будуць гнаць маладых аляніц...
1964

## ЛІСТОК УШАЦКАЙ ВОСЕНІ

Раўчук заспаны вёў лагчынкай,
Залелі камянькі на дне.
Павесялеў мой шлях.
Ляшчыннік
Заднеў у сінім тумане.
Расой, раскідзісты, апырскаў —
Злую.
Ды тут, як сябруку,
Лісток
цялячай мокрай пыскай

З даверам торкнуўся ў руку.
Раўчук
          ужо звініць рачулкай,
Дарую мокрым верасам.
Так па-цялячаму расчулены,
Што замычу, здаецца, сам...
1965

## ЛЯСНАЯ ДАРОГА

А лес туманом затоплены.
Не дужа спяшаецца дзень.
Рэха ў мяккіх пантопліках
Падмоклым мохам ідзе.

Рабынечка-арабіначка,
Нібы з падлёднага тхла,
З заглушы летняй прабілася,
Вырвалася да святла.

Сівер здалёку дыхае,
Ашчэрыў сто дваццаць зяп.
Стынуць выбоіны ціхія,
І ліст пеpажоўклы азяб.

Дарога знянацку заломіцца,
Выгнецца палазком,—
Дрыжыць на яловай далоні
Саломінка
З абмалочаным каласком...
1965

## АДАМ І ЕВА

Пакуль далёка спіць залева
І сопкі песцяцца ў смузе,
Яны ўдваіх,
          Адам і Ева,
Капаюць бульбу

у тайзе.
Конь пасвіцца,
бялее грыва
З перастаялае травы.
Спрадвечны сум апаў тужліва —
Лятуць у вырай журавы.
Услед махаюць крыллем кволым
Кусты, лімонніцы, чмялі.
Спрадвечных дрэў
спрадвечны кворум,
Спакой спрадвечны на зямлі.
На момант сэрца ён асіліць,
І здасца, што няма трывог,
Што з недалёкай Хірасімы
Не паскубуць вятры мурог,
А толькі ціхія павевы
Хвалююць ільмакі ў тузе.
Яны ўдваіх,
Адам і Ева,
Капаюць бульбу
у тайзе.

*

А раніцай туман над сопкай —
Густая пара над катлом:
Знаёма пахла
бульбай сопкай,
Сялом,
пакінутым жытлом.
Там на страсе пяе салома,
Як чарацінка ў крыгаход.
І песня родная і слова
Былі раднейшыя штогод.
Вякі...
Прыморскія размах!...

Забыўся чорны хлеб,
але,
Як незабыўныя прысмакі,
Гасціла бульба на стале.
І зазімкам,

калі на тоні
Ішло дасвецце ў туманах,
Яна згрубелыя далоні
Кабетам халадзіла ў снах.
Хаціны,
што ў лясных паветах
Замёў каторы ліставей,—
На шчодрай далані планеты
Былі ад бульбінак драбней...

*

Крычу на ўсё прымор'е:
— Бульба!
Прымі паклон ад земляка.
Расці,
з гарачых снежак гурба,
Што маці сыпле з саганка.
Ні дождж,
ні град цябе не песціць,
Надзейны хлеб маёй зямлі.
Не грэбвалі табой і песняй —
З сабою землякі ўзялі.
А покуль недзе спідзь залева,
Тайфун вятры ў мяхах вязе,—
Яны ўдваіх,
Адам і Ева,
Капаюць бульбу
У тайзе
1965

ПОРТ

Уладзівастоцкія нявесты
Сустрэнуць ветла і нявет ла:
Ты не рыбак, не кітабой,
Праходзь спакойна, сам сабой;
Паплаваў досыць у «загранцы»,
Хай не хапаеш з неба зор,—
Пяшчотай позіркі ўзгарацца,
Ідзі на іх,

як на касцёр.
Год палюляла
у Брыстолі —
Жаніх ужо зусім прыстойны.
Ці кітабой ты, ці рыбак,
Спяшайся заказаць «кабак» —
Тут рэстаран завецца так,
Прывыклі дзверы да атак —
Гуляй, рыбак,
куляй, рыбак,
Шыкуй,
шчырэй кладзі «на бак»!
Забудзь на час тугу кают,
Пуцінным грошыкам — каюк!
...Упарта познія нявесты
Чакаюць
норда,
оста,
веста.
Усе вятры з усіх шляхоў
Для іх прыносяць жаніхоў.
Не з карабля —
дык топай міма,
Хоць паравозам галасі.
...Глядзяць зялёнымі вачыма,
Як незанятыя таксі...
1965

## ДЗЕД І МОРА

Пахне далонь Залатога Рога
Нафтай,
далёкімі катастрофамі.
Змоўк акіяна насмешлівы рогат.
Цішыня тут,
Як дзеўка-пярэстарак, строгая.
Быццам на кухні агульнай,
грызуцца
Хвалі —
таксама з племя жаночага.

Глянеш:
Нептун пасівелы з трохзубцам
Выйшаў на бераг,
гнецца пад ношаю,—
Гэта ловіць багром аскабалкі
Дзед,
што разлучаны з морам знямогаю.
Усё ж каля мора старому забава.
Цягне дадому дровы намоклыя...
Дошкі цяжкія,
мачтаў абломкі,
Будуць трашчэць яны
ноччу завейнаю.
Спусцяцца нізка
ўспамінаў аблокі,
Дні маладыя на момант вернуцца.
Зноўку тайфунам
насунуцца бровы,
Борт затрашчыць —
грукне хваля шалёная...
Салёныя дровы...
Слязіна салёная...
1965

* * *

Ад
«не трэба, не трэба»
Да
«святло патушы»,
Як да сёмага неба,
Як да шчырай душы,
Як ад бліску маланкі
Да абложных грымот...
З вёраснёвай палянкі
Хмеліць вераснем мёд.
Ліўнем стомленым стыну
На захмарнай градзе...
Прага
смаглай пустыні,
Спёка

спелых грудзей.
Толькі змроку густога
Захмялелы мурог,
Толькі светлая стома,
Толькі месячка рог...
Можа, дзень пачакае.
Маладзік, пасвяці...
Ноч бывае такая
Толькі раз у жыцці...
Знелюбелы, нямілы
Дзень з-за мора ўстае.
Мне б вякоў не хапіла
Слухаць вочы твае...
1965

## ПАНЯДЗЕЛАК

Ён не багаты на падзеі.
На свет глядзіць, нібы праз сон.
Здае пасуду панядзелак
І, хмурачыся, п'е расол.

Няяснай яснасцю надзелены,
Хацеў бы ён паўсюль паспець.
А у галаве яшчэ нядзеля
Варочаецца, як мядзведзь.

Адвыкла глушыць цэх кавальскі.
І, як чаляднік, хмуры дзень
На гулкі дол балванку валіць,
Здаецца, вобмацкам ідзе.

Ах, панядзелак, панядзелак.
Хмурынка смутная сплыла.
А можа, не было нядзелі.
Не, усё-такі яна была!..
1965

## ГНЯЗДО ШЭРАЙ ЧАПЛІ

Паплавы
        цішынёй мурожнай стрыножаны,
Учарашнія сны рака даганяе.
Нізіцца сонца.
Ад заходу трывожнага
Вочы бор засланіў даланямі.
Асмуглыя пальцы
        праменнем прасвечвае.
Ноч недалёка.
Блізка да вечара.
Драчы неўзабаве кінуць жэрабя,
Каму рэзаць бляху тупымі нажнамі.
Кружыць над борам чапля шэрая,
Над паплавамі, цішынёй стрыножанымі.
Птушка трывожная,
        як яе высачыш?
Недзе гняздо на яліне высока...
Цень мільгануў
        над дрымотнымі плёсамі.
Шэрая чапля знікае сумна.
Пяро раняе перапялёсае
На сіні вечар,
На ціхія думы...
1966

* * *

Калі б усе вятры Беларусі
Курган намяталі,—
Ён быў бы пылінкай
Ля падножжа захмарнай вяршыні
Славы тваёй;

Калі б усе гаі Беларусі
Хацелі сцяжыны ўслаць,
Дзе ногі твае ступалі,—
У іх бы лістоў не хапіла;

Калі б усе навальніцы плакалі,—

Іхнія слёзы
Былі б драбнюткай расінкай
На вейцы тугі па Табе,
Іван Дамінікавіч,
Дзядзька Янка,
Купала...
1966

* * *

Чаканы міг спакою.
І — паварот ключа.
Світае ў пакоі
Ад смуглага пляча.

Трывожнага дыхання
Трывожны сухавей,
Трывожныя ў тумане
Пагляды ласкавей...

Прачнулася світанне —
Пакінулі пакой
Пачэснымі сватамі
І цішыня й спакой.

Прыцішаныя крокі.
І — паварот ключа.
Нырае ў сон таропка
Маладзічок пляча...
1966

* * *

Ты —
мой трывожны ўспамін,
Шчыміш і не даеш спакою,
Нібыта ўдар тугіх галін,
Адпушчаных чужой рукою...
Наноў не зашумець лясам,
Туга на лядах гаспадарыць.
Я дрэвы ўсе павысек сам —

Галіны больш не ўдараць.
1966

* * *

Аб адным я цябе прашу:
Хоць гады ў рады прысніся —
Спадзявання майго парашут
Хай раскрыецца хоць унізе.

Нецярпення скачок зацяжны.
Блізка дол, парашут не раскрыты.
Ходзяць незразумелыя сны,
Як старонкі старога санскрыту...
1966

## ЛЯСНЫЯ КЛАДЫ

Галін старэчыя рухі.
Глушэюць у лесе клады.
Крыжы распасцерлі рукі -
Заўчасна не пусцяць сюды.

Павук нешта тчэ на кроснах
Маўчыць цішыня штодня.
І толькі ў борцях на соснах
Прамыслых пчол сумятня...
1966

## СТАРАЯ ЛАТВІЯ

*На выстаўку*
*мастака Зэберыньша*
Адчынены дзверы ў адрыне.
Вячэрняя ціш прыдрамала.
На прызбе сядзяць старыя.
Заходзіць сонца памалу.

Прыціхлі вязы ў пашане
Зялёнаю талакою.

Кот, растаўсцелы птушатнік,
Ступае па частаколу.

Галовы задралі свінні:
Чакаюць, а ці пяройдзе?
Пасвіцца прыцемак сіні
На пераспелым гародзе.

За дзень жываты ўгрэлі
У цёплых барознах дыні.
...Высока ўзляцелі арэлі —
Са смехам лятуць маладыя.

Унізе і вяз караністы,
І прызбы смалістая тоўшча.
А певень, як захад агністы,
Удумліва курыцу топча...
1967

## НОЧ

Так хораша басанож
Ступаць у пясок неастылы!
У сне пасміхаецца ноч —
Прыемнае нешта прысніла.

У сонныя берагі
Вярнуліся хрэсьбіны нават.
Як леташнія стагі,
Спяць коні ў падсохлых канавах.

І гэткі настрой ляны,
Што хочацца ў смешным парыве
Прысніць вараныя сны
На ўвітай дзядоўнікам грыве:

Таксама ўбачыць сябе
На ранніх лугах без аброці,
Аб ворыве, аб сяўбе
Забыцца ў начной адзіноце...

Стаілася ціша савой.
Чуваць,
Як ад Лельчыц да Хойнік
Гадзіннік пясочны свой
Паціху варочае конік.
1967

## СУБТРАПІЧНАЯ РАНІЦА

Хоць з любой гарой
          туман жані!
Мутная,
          бяжыць рака Калдобня.
Прашчурам пастой у цішыні
І адчуй—
          свет сустракае добра.
Хай шумяць высока трыснягі.
Ліўні йшлі —
спаўзае бераг стромкі.
Ліўні шчодрыя,
          нібы Багі
(Хмарам незнаёма слова
          «стронцый»),
Ластаўка ля самае вады.
Б'ецца рыба
          слізкая, цяжкая
(Тол глухі,
          з капрону невады —
Гэта ўсё яшчэ яе чакае).
Студзіць ногі ранішняя твань.
Расхінай трыснёг заспаны,
          млявы,—
І сустрэнеш сонца шчодры твар
(Потым і на ім заўважаць плямы).
Лесуном далёкім
          ходзіць грэх.
А зямля зялёна-маладая.
(Шар зямны,
          як грэцкі той арэх,

Скальпаваць ніхто шчэ не жадае.)

Вырай скінуў мокрае пяро.
Як Адам,
            чакаю, перазяблы,
Ну, калі Ўсявышні мне рабро
Выламіць?
Калі ж даспее яблык?..
1967

* * *

*Мая Радзіма — гэта гам,*
*дзе праплываюць самыя*
*прыгожыя аблокі.*
*Жуль Рэнар*

З-пад нахмураных броваў
даспелага жыта
палыхае блакіт азёр.
Край прыветлівы,
сэрцамі продкаў абжыты,
зноў спазніўся —
            прымаю дакор.
Васільковы спакой.
Смутак верасу сіні.
Палыновая памяць тугі.
Без мяне на лугах
мурагі пакасілі.
Без мяне стагавалі стагі.
Без мяне да Пятра
венікаў навязалі —
узялі зялёны аброк
з бяроз.
Адгуло,
адплыло мае лета вазамі —
звонкарэхае, я не збярог.
Партызанскага бору
распагоджаны вырыс.
Нізка дзікія гусі ляцяць.
Толькі дзіву даешся,—
калі гэта вырас

з камізэлькі сваёй бацян.
Засынае аер,
шлях курыцца далёкі.
Слонку хочацца клікнуць:
— Вуць вуць!..
Нават страшна дыхнуць —
маладыя аблокі
над Ушаччынай ціха плывуць.
1968

* * *

*Івану Бурсаву*

У лес прыціхлы
ноч уваходзіць зноў,
Вядзе за сабой
страх паганскі і лесуноў.
Возера на прагаліне
па вачах разане —
Ад зары гарачае,
дагарае на кожнай сасне.
П'яны ад багуну,
ступаю за страхам услед.
Можна на момант забыцца
на свет
Далёкіх планет.
...Бары знікаюць,
уцякаюць вадзянікі.
Бабры ўцалелыя плачуць
ля перасохлай ракі.
У дубоў векавых
адстае ад цела кара.
І поўня на небе стыне
апошняй слязой бабра.
Планета над прорвай сусвету
вісіць, як над студняй вядро,
Ад адчаю ядзернага
халадзее ядра нутро.
Я запаведнік зрабіў бы,
дзе б жылі вясновыя сны,
Вадзянікі і чэрці,

русалкі і лесуны.
Нашчадкі некалі вернуцца
з самых далёкіх шляхоў,
Чыстыя ад пылу зямнога
і ад зямных грахоў,—
Ім будзе незразумела,
што такое зялёная цішыня,
Адкуль была ў сэрцах прапрадзедаў
наіўная дабрыня?..
1968

## СМЕРЦЬ ІГРУШЫНЫ

Упала з па горка
галавою на захад,
і асірацела
роднае котлішча —
Верасовачка.
Патухла
майго маленства
зялёнае полымя.

Калі я ў калысцы плакаў,
прынёс яе з лесу бацька
і папрасіў,
каб шумела мне ля вакна.

Не стала хаты,
бацька дамоў не вярнуўся,
а яна
так і не зацвіла ні разу.

Вартавала мае гняздо,
стамлёныя выраі
адпачывалі ў яе на плячы.
І толькі зусім нядаўна
паспытаў я першы гарчак
(не быў і ўспамін салодкі).
...Я так хацеў сёння
ўчуць яе шум.

Няма ігрушыны —
упала галавою на захад.
Жыта пажалі:
 куды ні зірні —
іржышча,
сарамлівыя пчолкі,
нахрапісты свінакроп,
бяссмертнік (яго бабуля Малання
звала хораша «цымян»),
пад галінамі некалькі каласкоў
(ледзь дакрануўся — пырснулі слёзы)
і засохлыя гарчакі.

Начлежнікі некалі
 разводзілі вогнішча,
і не вытрымала сарцавіна.

Здымаю шапку
перад патухлым
 полымем.

Адзін валун у латоцы
даляжыць да другога ледавіка.
Калі ён і зазелянее,
дык толькі ад моху.
Бывай, ігрушына,
бывай,
 зялёнае полымя...

1968

## ЗАІНЕЛАЯ УШАЧЧЫНА

*Петрусю Броўку*

Што хукаеш, раніца,
 рукі пакрэплі?
Ачахлым вуглаем на бальшаку
Снег лёгка вызваньвае.
 Крэкчацца грэблі
Смачна,

як свацці пасля" першаку.
Аглухлі бары ад зімовай сумоты.
Кігіканне кнігаўкі
сніць сенажаць.
Алешнік?
А можа, аленяў сумёты
Прыспалі?
З'інелыя рогі дрыжаць.
Збляднелы, стаміўся
ў набегах на бераг
Завеі ўчарашняй
адчайны прыліў.
Дымяцца вярбіны
на вогнішчах белых,
Нібыта іх заяц бяляк падпаліў.

Як зарыва ўспыхне,
на вуліцах белых
Міліцыянера барвовы твар.
Спавіты вяроўкамі,
белы кубелак
На белых развалках
вязуць на базар.
Валёнкі не грэюць.
Кажэрка злубела —
На торг сабіралася цётка да дня.
Хоць вочы заплюшчы —
так холадна-бела,
І белыя-белыя вейкі ў каня.
Пытаецца аб надзеле ў нядзелі,
Ці многа ёй выдзеляць сонца, зямля.
На яблынях галкі
азябла датлелі.
У чорных праталках
бяроз аралля.
Базар не чакае —
пасёлку не спіцца,
Дзень ціха ступае
сцяжынай глухой.
І ластавак гнёзды,
нібы рукавіцы

Забытыя,
стынуць пад белай страхой.
Пад полазам белым,
з'інелай падковай
Галінкай азяблаю
крохне —
хрусь,
Як яблык, крамянае і хрупаткое
Слова марознае:
«Беларусь».
1968

* * *

У звечарэлай цішыні
Паверыць снегу хрупаткому,
Глядзець на сонныя агні —
І не зайздросціць анікому.

Згадаць, нібы далёкі сон,
Слупоў здранцвелых перагуды,
Пагляд спагадлівых вакон —
І не спяшацца анікуды.

Забыць згрызню турбот пустых,
Успомніць,
Што табе за трыццаць,
І шкадаваць,
Што гэты міг
Не зможа болей паўтарыцца.

1968

* * *

Рэчка з возера ўцякае,
А на возеры стогне лёд.
Завіруха сляды шукае,
Не знаходзіць каторы год.

З завірухі выходзяць коні

(Глуха стукаюць капыты).
Нахіляюцца над ракою,
Анямелай ад глухаты.

Раздзімаюць
цёплыя храпы,
Не даюць застаяцца ільду —
Быццам ім захацелася раптам
Пастудзіць густую ваду.

І таго не ведаюць самі,
Што прыйшлі яны да ракі,
Каб напомніць
пра лёгкія сані,
Пра кажух,
пра званцы-шаргункі.
1968

## ЭСКІЗ

Пераабуваюцца афіцыянткі.
Знімаюць з ахвотаю хвартухі.
Цягнецца ў парк позні тралейбус,
На шыбах яго,
як з вады,
Выплывае і зыбаецца
слова: «Кафэ».

І захмялелы вечар
Спяшаецца ўпіцца
У мякаць цёплую чорнай
Белымі зубамі рафінаду
1968

* * *

Зводніца-ноч
Сарамліва ў вочы глядзіць
Разлучніку-дню...
Прыколкамі-невідзімкамі,

Як сцежка іглiцай
У бары пасля спёкі,
Падлога ўсыпана...
1968

* * *

Аплакалі вырай совы
Пад Полацкам,
Знаеш, Падуя,
Узлеску ў прыпол верасовы
Ліст пеpажоўклы падае.

Раздолле туpоваму рыку —
Над змоўклымі нетрамі плавае.
Чаўны бласлаўляе ў Рыгу
Сафія залатаглавая.

Даверыцца снегу полаз,
Загурбяцца весяў весніцы,—
У світцы марознай Полацк
Вачыма сінімі весніцца.

Па граю першыя
Тужаць
Прataліны белабрысыя,
Ведаюць гнёзды птушкі,
І рыбы чуюць віры свае.

Да скону сэрца скарыла
Чароту гаворка картавая.
З выраю
Доктар Скарына,
Як драч, дадому вяртаецца...
1969

* * *

Раённыя аэрадромы -
Заложнікі неба пагоднага...
Паветраныя паромы

Надвор'е злянела пагойдвае.

Высока ўзлятаюць стракозы —
З аэрафлотам дражняцца.
Пасуцца бязрогія козы —
Каровы малалітражныя.

Раённыя аэрадромы.
Мокнуць спакойна дровы,
Запашаныя самой
Дыспетчарскай строгай
Зімой.

Дзядзька гасцей праводзіць,
Валачэ чамадан з «данінаю».
Пахне яблыкамі пад восень.
Зазімкамі — свежанінаю...

Кабета цярэбіць касынку
(Адразу не супакоішся),
На хрэсьбіны ляціць да сына,
Уніз пазірае з бояззю.

Воблакі, як успаміны...
Матор, як конік, пілікае...
...Самалёт з той паляны сына
Вёз на зямлю Вялікую...
1969

ШЧАВУЛЬНІЦЫ

Дуб не прыдбаў
Ані лісціначкі.
Стаіць,
Нібы Кашчэй кашчавы.
А ўжо стракатыя хусціначкі
Збіраюць маладое шчаўе.

Смута дрымотная,
Злянелая

Пагоднее ад іх усмешак.
І пальчыкі,
Узелянелыя,
Халодзіць козытна
Узмежак.

На поплаве
Агонь уздрыгвае:
Пячы вячэру
Будзе прысак,
У дыме коні —
Дымнагрывыя.
Дым сцелецца
Па ўзлобках лысых.

Арэхаўна,
Замошша,
Плігаўкі —
Прыціхлі вёскі ў веснім гудзе.
Дзяўчаткі ў тумане,
Як кнігаўкі,
Стамлёны адвячорак будзяць.
1970

* * *

Я твой нявольнік,
Твой прыгонны,
Я вольную ў цябе прашу.
Адчайнай радасці адхоны
Я снегам смеху спарушу.

Для іншых —
Вагі раўнавагі!
З вар'яцтвам,
Сэрца, парадні,
На паншчыне тваёй увагі
Гарбець абрыдла дзень пры дні.
Упартага чакання хвалі,
Прыліву міру ці вайны,
Мяне ўсяго спаласавалі

Твайго дакору цівуны.

Ці ж мне
Маліцца на старое,
Чакаць,
Каб толькі ён не знік,—
На небе здрадлівым настрою
Тваёй усмешкі маладзік?

Імчыце,
Вольнасці фургоны!
Лашак тугі траву скубе.
Я твой нявольнік,
Твой прыгонны.
Нашто мне воля
Без цябе?!
1970

## РАНІШНІ ВЕРШ

Скрогат марознай раніцы.
Жудасна правадам.
Снегірамі —
Школьнікаў ранцы,
Віссельнікамі —
Сумачкі дам.

Шпілек
Нервовыя кропкі.
Замшы
Халёны спакой.
Цішу працялі крокі.
Сыплецца іней луской.

Позіркі бліснуць сінія,
Быццам з патайніка.
Машыны за ноч заінелі,
Як бровы адстаўніка.

Шыферным дахам —

Ватнік.
Трубы прарванай
Цвярдзее флюс.
На рэгуліроўшчыка
Глядзіць прыватнік,
Як на удава трус.

Рэгуліроўшчык
Носа не вешае.
Фігура,
Што й гаварыць!
Ультрасучаснаю галавешкаю
Жазло накіроўча гарыць.

Апрануты не па сезону
(Таму вось сядзі і дубей!),
Хоча пагрэцца
Каля неону
Апуджаны верабей.

Няма з марозам
У графіка блату.
Думка адна —
Не спазніцца б ад но ж...
Дольку лімонную цыферблата
Рэжа стрэлкі секунднай поле...
1970

## СВЯТА ПЧАЛЫ

А ластаўкі белымі грудкамі
Высвечваюць рэчку да дна...
...А мне б да цябе пагрукацца...
...А ты ўжо даўно не адна...
Дарэмна я ахкаю, айкаю
У маладой журбе!
Русалка русявая,
Вайкаю
Не мне называць цябе.

... Пагоднела неба спрадвечнае,
Аглухлае ад грымот.
І, нібы бурштын,
Прасвечвала
Праменне іскрысты мёд.

Зялёны мурог —
Настольнікам.
Навошта нам з дубу сталы?
Ваколле на мёдзе настоена:
Сягоння свята пчалы!

Эстонія сонца выслала,
Каб раніца дзень пачала,
Шчырэла пчала прамыслая,
Са святам цябе, пчала!

Тваё незамужняе прозвішча
Забыўся я — так ляпей!
А мужняе — пад пагрозаю...
А слова — не верабей!

Туга двухвясёлкавай лодкаю
Плыве ў дзень,
Наўмысна малы.
Чаму ж ты з гаркотай салодкаю,
Шчымлівае
Свята пчалы?!
1970

## САКОЛЬНІК

Успыхнула роднае слова падлёткам
З цёплых далоняў матчынай песні.
Падлётка прыціхлага і нясмелага
Прылашчыў за пазухай
          хлопчык Максімка.

Вучыў яго вышыні не баяцца,
Крылы свае давяраць

Хмарам, вятрам сустрэчным...

Падлётак смялеў і лётаў
У вырай, у край сінявокі,
Што Белаю Руссю зваўся.
Вяртаўся ў горад над Волгай —
І пахлі ўздужалыя крылы
Самлелым аерам Наддзвіння,
Трывожнай зарой Наднямоння
І косамі свіцязянак...
Як здзіўлены быў блакіт,
Калі з пляча юнака Максіма
Да сонца вольны птах ускрыліў
З ім цяжка было сагнацца
І ўладарам захмар'я.
Паклон табе, горды Сакольнік
Беларускага крэўнага слова,
Беларускага вечнага слова,
Што ты заручыў яго з небам.
Дзякуй,
Максім Багдановіч!
1971

## САЛОДКАЯ ПІЛА

Зары — нямы агонь.
Асіны холад — сіні.
Белакапыты конь —
Цягнуў сумёты сівер.

Сумёт куліўся ў роў.
Рыпелі дрэў арэлі.
І жарам снегіроў
Завеі рукі грэлі.

У комін вецер лез,
Ляцеў,
Як чорт мурзаты.
Паехаў бацька ў лес,
Не дачакацца таты.

Даваў дзвярам прастор,
Заходзіў нечакана
З'інелабровы бор,
Пілой падпе            разаны.

След стылай палазні
У цемрадзі знікае.
— А ты пілу лізні —
Салодкая якая!..

Язык піла пякла,
І жмурыў бацька вочы.
Салодкая піла
Была завейнай ноччу.
...Завея прывяла
У бор гадоў забыты.

Салодкая піла.
І конь белакапыты...
1971

СТАРЫ САД

Халодных сузор'яў
Позірк сляпы —
У веснавы карагод
Не збягуцца.

У сонным садзе
Трашчаць чарапы
Яблыкаў-самазагубцаў.

Ад зімавею
Хмурыны лахман
Не абароніць
Вырай картавы.

Прыслухайся,
Як белагубы туман

Фыркае на атаву...
1971

## СОН

Заржавелай рысорай
Качка крача.
Трохтонкай
З адною фараю поўні
Буксуе ноч...
З галавы галаўня,
Як з галавешкі гарачай,
Сыплюцца іскры воч.

Трохтонка вырвалася
З цішыні шчыльнай —
Прастуе па бальшаку,
Толькі абапал
Костачкамі лічыльнікаў
Ляскаюць хаты
У насцярожаным халадку...

1971

**МАТЧЫНЫ ПЕСНІ**

* * *

Удава —
Бяроза без верху.
Адной бедаваць
Да веку.
Удавіная —
Доля савіная:
Што ўхопіць,
Тое ейнае.
За ельнікам,
За бярэзнікам частым
Абначавала шчасце.
На ўдаву —
Бедную галаву,
Толькі злая слава.
Без сакала пава.
Кожная,
Як скала,
Хмары густыя.
Якая яснага сакала
Пахавала, не знае.
Стыне
Пасцель пухавая,
Вячэра сахарная...
Поле ўдоўчына
Мядзведзь
Карчом арэць,
Барануець воўчанька...
Зялёнае поле
Засяваецца болем,
Родзіць лебядою,
Жнецца бядою...

* * *

Верабеечкі
Чы-чы, чы-чы.
А я, молада, ўсё плачучы.

Ці харты пацямне́
Бяды наяхкалі,
Што свякроў у мяне
Ніякая!
Аблачынка падталая —
Белая плотка.
Свякроў загадала
Рабіць работку.
Рабіць работку,
Ды не ў ахвотку —
Сэрца баліць:

На моры бяліць
палатно,
На лесе сушыць,
каб было ладно.
На небе качаць —
да зары канчаць.
У арэшак складаць,
як пачне халадаць...
Палатно, лайно
Ад слёз намокла,
я ж не качачка плысці па моры.
Не лютуй, не злуй, свёкар-сівер,
я ж не сонейка хадзіць небам сінім.
Зашумі, дубровачка, як шумела ў маі,
я ж не вавёрачка — арэшкаў не маю.
Сама пайду дарогаю,
Голас путчу дуброваю.
Няхай голас галасуе,
Няхай мяне мамка чуе.

* * *

Абняла вясёлка
Сем сёл
З прысёлкамі.
— Чаму, селязень,
Смуцен, невясёл,
Хіба лета золкае?
— А як жа мне быць

Вясёламу,
Не магу пазбыць
Свайго сораму.
Учора
Звячора
На моры быў,
Качачку сачыў,
Глыбіні злеціла
Лецейка.
На моры быў,
Качачку сачыў.
Сягоння рана злёцела.
Хваля белая
У бераг плёхкала,
Холадам абдало
Крыло.
Каб далёкая —
Жалю б не было.
А то ж качачка ад мяне
На трэцім кусце
Купаецца,
Ныраецца,
Мне, селязеньку,
Наругаецца.
Выграбалі весляры
Мора ў сто вясёл.
— Чаму, хлопча, гавары,
Смуцен, невясёл?
— А як жа мне быць
Вясёламу,
Не магу пазбыць
Свайго сораму.
Учора
Звячора
У сватах быў —
Дзяўчыну запіў.
Заходзіла сонейка —
Суліла ясны дзень.
А мая заранначка сёння
За другога йдзе.
Нездарма ўначы

Сава галёкала,
Гуло
Дупло.
Каб далёкая —
Жалю б не было.
А то ж дзяўчына ад мяне
На трэцім дварэ
Умываецца, выціраецца,
Мне, маладому,
Наругаецца...

* * *

На куце,
Як на пакуце.
Хмель, што за стал ом цвіце,
З радасцю пакумце!
Сяду я на куце,
Рукі закасаўшы.
Стаіць мілы на парозе,
Ён шапачку зняўшы.
«Дзякуй табе, мая міла,
Што не дужа біла.
Куплю табе гарчык мёду,
Конавачку піва...»
Я ўпілася на мяду,
Дамовачкі не дайду...
Ёсць у мяне маладзец,
Ён дадому завядзець...
Малады табе не роўня...
І не знойдзеш горшага.
Дай жа Бог яму здароўя
З жабіны прыгоршчыкі!..
А з цябе такой карысці!
Пачакай — пацешу...
Шапкай боцікі мне чысці,
Размятай сцежкі.
Ды старайся, чорт рагаты,
Падмятай чыста.
Сцежка колькі дзён да хаты
Западае лістам...

* * *

Воды збеглі з гор.
Расталі гурбы.
Я ў цёмны бор
Пайшла ў грыбы.
Пахла апенькамі
У трох кашалях.
Я, маладзенькая,
У пір зайшла.
У пірушачцы
Смаляныя лавы ўсе.
А хай яго паляруш —
Загулялася!
У страху вочы па яблыку.
Дамоў ісці пабаялася.
П'янае піва.
Госці памоўклі.
Пяе певень —
Не йду дамоўкі.
Брага ў берагі
Б'е, мядовая.
Пяе другі —
І не думае.
Заняўся золак —
Я
Іду вясёлая.
Каб не рыпнуць,
Адчыняю вароцечкі.
Мілы ў пярыне
Варочаецца.
Не падымае воч,
Пытаецца:
— Дзе была ўсю ноч,
Шалтаіца?
— Мой міленькі,
Пад лавай
Шукаеш тапор.
Усю ноч спала
За табой.
Ці ты па вясне
Адурачыўся,

Што ўсю ночку ка мне
Не абарачваўся?..
1971

ЛЕТА

Брывей сіло
Звяло дзяўчо.
Правей сяло,
Сяло Ваўчо...

Счубацеў хмель.
Сухмень аглух.
Хмялее чмель.
Чмялее луг...
1972

* * *

Сезона важная персона —
Асенні дождж,
Як півавар.
Пад абажурам парасона
Цьмянееццa
Дзявочы твар.

Залее ззелянела замша,
І хвартушок
Ледзь-ледзь намок.
Як курганкі вясновых замчышч,
Цяплееццa
Грудзей намёк...
1972

СПЯКОТА

Гром перасмяглы
Нашча
Злуецца на дзень прапашчы:

Хмары
Зноў не ўзялі з азёр ясака́.
З пабурэлай расколіны
Мядзведжай пашчы
Вырваўся вадаспад языка...
1972

## ТРЫПЦІХ УШАЧЧЫНЫ

1
Пацягнуўся певень,
выгнуў зацёклую шыю і
таропка крыламі залапатаў.
Так разведняк
пасля бурнай начы ляпае
сябе па кішэнях,
спадзеючыся знайсці на піва.
Мнагажэнец і валацуга,
пявун галаву закінуў,
каб песняй, сівейшай
за туманы, уславіць
наложніц, і грэбнем
гарачым, як цыркулярка́й,
неба распалавініў —
сонца з захмар'я выпала
костачкай пераспелага персіка...
Уласнага голасу
не можа наслухацца певень,
хваліцца,
што сонца вызваліў,
і сам сабе пляскае.
Ну што ж, няхай пацешыцца,
покуль ягоным крылом
прыпечак не замятуць
пасля таго, як засмажаць
яечню для госця...
Сінічка пасялілася ў садзе,
сінім званочкам звініць:
- Ці ты спіш, ці ты спіш?..
Уставай, уставай!..

Белы ручнік
перакідваю цераз плячо
і, як сват,— маладых
вітаю:
сонца і раніцу.

2

Сені расчынены.
Стаю на парозе. Бяруся
рукой за вушак. Выхінаюся.
З гнязда пад страхой
вытыркнуўся падлётак.
Здзіўлена на мяне паглядзеў
вялізным спалоханым вокам.
Яшчэ імгненне —
пырхнуў, у бульбенніку знік.
Вярнулася ластаўка і пытае:
— Вы не бачылі, дзе мой неслух?
Ды тут спахапілася:
— Даруйце, вылецела
з галавы, што па-ластаўчынаму
не разумееце...
Хацеў запярэчыць —
няма... паляцела...
Толькі гранёны келіх —
цвет гарбузоўніку — ціха
пазваньвае.
У ім прасвечваецца
калматы заклапочаны
чмель...

3

Якія толькі стагоддзі
цябе ні хрысцілі
ў сваіх Дняпрах, а ты
язычнікам
так і застаўся, Човен.
Каб сустрэліся пальцы ў малітве,
ты рукі выцягнуў перад сабой,
славячы Бога вады,
перш чым нырнуць у хвалі.

Стары паганец,
        сцісні прасмоленыя далоні
        і мяне напаі з прыгоршчаў...
Не пускаюць на волю.
        Прыцугляны, ты мокрым носам
        торкаешся ў крыссе зялёнага берага...
1972

* * *

Віцебшчына!
Ты лесам
Не выпешчана —
Ты войнамі
Выпесчана.
Вораг
Крыжачыў
Твой небасхіл,
Спакой твой
Нішчыў.
...пясок магіл...
...пясок папялішчаў...
1972

* * *

Зноў тлее ля ціхіх стрэх
Маладзічковы лучнік.
З даверлівай ласкай снег,
Як з матчыных рук ручнік.

Забыты санет саней
Звініць,
Не зважае на спех.

Не дыхай,
Як вяз з'іней,—
Абы не спалохаць снег!..

Сарвуцца зоры з арбіт,
Папросяцца на начлег.

І боязна
Крок зрабіць,
Вачыма абразіць снег...
1973

## АДАМУ МІЦКЕВІЧУ

*Litwo! Ojczyzno moja! ty jesteś jak zdrowie...*
*Adam Mickiewicz*

Паэты нараджаюцца ў карчме,
Каб іх пасля
Аплаквалі саборы.
Выгнанніку
Не ў спіну вецер дзьме,—
Ён носіць край абражаны
З сабою.

Хмар вырай
Свіцязі слязу страсе,
Як пава з песні,
Што праз сад ляцела.
На саркафагу ружы,
У расе,
Паэту —
Не пыхлівасці злюцелай!

Маўчы, ўсыпальня каралёў...
Вякі
Прыціхлі
Над геральдыкай нямою.
Спытае нехта:
— Быў кароль які,
Калі пісаў паэт,—
Ojczyzno moja?..
1973

## ВЫКЛАДЧЫЦЫ РОДНАЕ МОВЫ

Выкладчыцы роднае мовы,
Настаўніцы сельскіх школ,
На вас і каровы, і дровы,
Нагрузак няўдзячны пазол.

Гатовы
Падставіць плячо вы
Пад зруба вянец цяжкі.
Нясеце крывіцкія словы,
Нібы вугалькі,
У вякі.

У кожнай хаціне —
Вы дома.
Жыццё ваша ўсё на вачах:
Любому вяскоўцу вядома,
Што ў печы у вас,
Што на плячах.

Люстэрка?
Калі ў яго глянуць?
Клапоты, турботы штодня...
Каравыя рукі сялянак
І ўзнёслых вачэй чысціня...
1973

## <u>БЯРОЗА З ЛІСТАМ ГАВАРЫЛА</u>...

* * *

Веюць ласкай
Вятры заходнія.
На яблыні майскай
Шпак заходзіцца.
Сплылі, як крыўды,
Зялёныя крыгі.
Шпак з асалодаю
Сушыць крылы.
Вяз зацвітае
Цветам спалоханым.
Дом на ўсе дзверы
Уздыхнуў з палёгкаю.
Сцежка да кладак
Травой пазначана.

...Дзень добры,
мама!
Паклон,
Ушаччына...

* * *

Травы
Зялёныя правы
Здаўна
Ярыла гарантуе.
Шпак,
Быццам хлопец паравы,
Прастуе ў чысціню густую.

Ільсніцца сілай сакаўной
Зямлі абнова маладая.
І шпак паблісквае спіной,
Сабе сняданак выбірае.

Прыціх
Зрунелы небакрай —
Трава з вадой загаварыла.

А мятлік,
Як анёл, што ў рай
Хацеў,
Ды не пускаюць крылы.

Праз небыццё,
Вякоў равы
Трава
Праб'ецца вастракрыла,
Бо мае ўладныя правы
Вогнебародага Ярылы.

Трава паўторыцца травой:
Чупрынай зашуміць густою
І над адчайнай галавой,
І над знямоглай нематою...

* * *

Што смуцен,
 родны бор?
Даўно цябе не бачыў.
Ну, як твой смалазбор,
Падсочаны бядача?

А дзяцел хай дзяўбе,
Тут клопат невялікі —
Выслухвае цябе,
Як кажуць, для прылікі.

І захлынае дух
Малліннікам гарачым.
Мы зноў з табою ўдвух.
Цяпер мы болей бачым.

Да сівізны змала
Згадаў свае шляхі я.
І сочыцца смала
У набіркі глухія.

Цецеруку-царку

Хай такавішча сніцца.
А я згадаў царкву
І тую ашчадніцу.

Цяклі там медзякі,
Цяклі на адбудову.
Званы, нібы дзякі,
Пабомквалі часова.

Цякла смала,
Цякла
У набіркі нявінна.
Была царква,
Была,—
Засталіся руіны...

Ты нервы ўсе напні,
Як трэба перад сконам.
А потым
Будуць пні
Ахоўвацца законам!..

...Дакорам не крану,
Падзякай не зазначу,
Што дошак на труну
Для мамы даў,
        зямляча.

Згарбела баразна.
Навек засмяглі губы.
Над ёй шуміць сасна —
Дачка твая,
        мой любы.

Ты з лесам не хітрун,
Вястун зеленачубы,
Паменей ведай трун,
Часцей кладзіся ў зрубы!...

* * *

Падае,
Падае лісце...
Час — малады нігіліст.
І сам ападу калісьці,
Як пераспелы ліст.

Адсякае далоні
Клянам
Лістабой.
А калі нам
З табой
Сустрэцца там,
Дзе сустрэч няма,
Дзе не выгукнеш нават:
— Ма...
Мама,
Не скажаш
«Сынок»
Таксама.

...Без просу заходзіла
Восень у сені.
Я помню голас
Песні асенняй:
«Бяроза з лістам
Усю восень гаварыла:
— А мой лісточак,
А мой зялёненькі,

Ты ж мяне пакідаеш...
— Нябось, бяроза,
Нябось, белая,
Я к табе вясной буду,
З табою шумець буду,
Цябе зеляніць буду...»

...Сёння.
Было гэта ўсё
Калісьці...
...Падае лісце...

* * *

Спіць могільнік
У духаце.
Хто часты дождж разленіць?
У нагах матулі зацвіце
Разгублены ядленец.

Абначаваць на паплавах
Грамам за ціхай рэчкай.
І матылёк у галавах
Усхліпне
Кволай свечкай.

Касой зазвоніць сенакос,
Ад палыну прагорклай.
І жылкі сінія стракоз
Заб'юцца над пагоркам.

А восень дагарыць
Датла —
Чакай завейных чаіц.
Вачніца ўпалая дупла
Напоўніцца адчаем...

* * *

Прамень,
Гасподу займай!
Дзень самапасам падрос.
Сонца на лета,
Зіма —
На мароз.

Зімовы сонцазварот
Сонцу дае правы.
За справу бярэцца
Год...
Закасвае рукавы.

Рупіцца
Юны год,

Год без цябе другі.
Год
Маіх злых нягод,
Год
Спалынелай тугі.

Мама...
Пад сэрцам лядзень.
Мама...
Тугу не суроч.
Мне
Самы кароткі дзень.
Мне
Самая доўгая ноч...

* * *

Шчодры голас твой
Чуў паўсюль я,
Баравін ушацкіх
Зязюля.

Што ж ты сёлета
Зычыш мала
У дзень нараджэння мамы?

Невяліка
Тваё вялічча.
Ты гадоў
Нават тых не злічыш,
Што забрала бяда-пабіруха,
Што адкрала чорная скруха.
А гадоў тых было замнога
Не за морамі, не за барамі.

Не схацела дзяліцца са мною,
Мама
Гора з сабой забрала.

Мама звала цябе
Кукулка...

Мякка сцелеш ты,
Спаць ёй мулка.

...Грабовы дошкі
Сціснулі ножкі...
Сырая зямля
На сэрца лягла...

Сляза гаручая
Пяску адчаю намые.
Песня сірочая
Не адчыніць дзверы нямыя:
Няма ў іх клямак.
І няма тых крамак,
Дзе прадаюць мамак...

Хатуль свайго смутку,
Болю
Забіраюць матулі з сабою.
Нам яны пакідаюць
Свет белы,
Каб зязюлі гады
Нам лічылі.

Зямля наша пагарбела —
Магіл хатулі за плячыма...

* * *

Абнашчылася вясна
Дожджыкам мглістым,
Свістам.
Шчадрэе вясны казна

Гоманам зеленалістым.
Дзумкае хрушч-нелюдзім.
Гром справіў
Зялёныя ксціны.
На ганку з мамай сядзім.
Зімовая ў мамы хусціна.

На ганках
Драмалі суботы.
А наш
Пераступалі турботы.
На людскіх
Гавелі нядзелі,
На нашым —
Зрэдчас сядзелі.

Дзумкае хрушч-нелюдзім.
Трывожна з мамай сядзім.

Кажа,
Не ўзняўшы воч,
Здаецца, сябе не чуе:
— А нехта ж
Першую ноч
На могільніку начуе...
1973

* * *

У зажураным садзе
п'юць сінічкі гарбату.
Звоняць лыжачкі
ў ценькія сценкі шклянак.
Зноў адзін пакідаю
матчыну хату,
Ганак самотны,
журботны ранак.
З утрапёным даверам
гляджу навакола:
Серп сагнуўся,
ржавее пагбаная міска...
Надпіс прыгадваецца
на браме касцёла:
«Ціха, Бог блізка...»
1973

## ІНТЭРВ'Ю

Пазелянелі
Ікры ў коніка,
Пакуль скакаў
Ля мікрафоніка.
Але хапіла й салаўю,
Пакуль даваў ён
Інтэрв'ю.

— І ў інтэрв'ю
Я не ўтаю:
Нялёгка салаўю.
Гняздоўе ўю,
Кармлю сям'ю.
Не да тугі —
Растуць даўгі.
Сям'я расце,
Гняздо ў кусце.
Расу трасу —
Сям'ю паю,
Пяю,
А працы — у-ю-ю-ю!

А ты паслухай
Голас з плёнкі —
Ні пра сям'ю,
Ні пра пялёнкі...
1973

* * *

Паабымшэў валун,
Абыржавеў калун.
На печы кот-вуркун,
За печкаю — цвыркун.
Для ўсіх вякоў адны —
Няхітрыя даніны.
Нам дадзены яны
Маркоціць успаміны...
1974

## З ГАРЫ

Цяпер —
Ці ў радасці згары,
Ці счахні ад адчаю,
Адчуй адно:
Ідзеш з гары.
Твой смутак залачае...

Ужо заняўся веташок
На макаўцы віхрастай.
Забудзь стажок
І муражок
І ў сад чужы не шастай!

І сам сваім гадам
Гадзі,
Яны — як тыя госці.
А вёскі ўсё часцей,
Глядзі:
Пагосцішча,
Пагосце.

Яшчэ тваю сасну
Шла
Не кроіць на цалёўкі.
Узмах вясла,
Узмах крыла.
Чакае ўзмах рыдлёўкі...
Зняверцу-роспач пратуры:
Азёрна,
Борна,
Гойна!

Далёка бачыў на гары —
Ідзе з гары спакойна.
1974

* * *

Заціхла мора,
Ды шэпча ў скалы
Купальскай песні
Прыбой ласкавы:

На моры жабка
Красенцы ткала,
Падол кароценькі
Падтыкала.

Прыйшоў арачак
Да жабкі ў сваты,
Не чырванее,
Вахлакаваты;

Дае ёй ганьбу,
Не ломіць шапкі:
— У цябе, ў жабкі,
Кароткі лапкі!

Абраз не церпіць
Гонар дзявочы:
— А ў цябе, рачак,
У срачцы вочы!

Ані заручын,
Ані запоін.
Жывуць дагэтуль
Самі сабою...

А ці не беліць
Туман той кужаль,
Што ткала жабка
Ды для замужжа?

А хвалі б'юцца,
Як бёрды, ў скалы.
На моры жабка
Красенцы ткала...
1974

## У ЗАДАБРОЦЦІ

Азарылі неба азярыны.
Азярная зоркая вада.
Ручаёў лясных глухія рыны,
І дупла аглухлая бяда.

Вечалле — спрадвечным цыферблатам.
Стрэлкаю секунднай — страказа.
Зорка ранняя сплыла — была там,—
Як сляза па вайстраку ляза.

Дзе травіца Брацетка й Сястрыца?
З песні муравой заняўся б роў!
Доль мне, лёс?ва ўнуку паўтарыцца,
Затрымацца ў памяці сяброў...

Вам, дубкі-пушчаны, распушчацца.
Лёду не баіцца яшчэ мель.
Іць, як ніць, звініць якраз па-ўшацку:
Брыка едзіць і гудзіць шчамель.

Не спяшайся зрэзаць день мой сынні
(Час, забудзь на час на маразы!)
З цыферблата азяровай сіні
Сіняй стрэлкай сіняй страказы...
1974

## ЛАЗНЯ БЛАКАДНАГА ГОДА

Пасам маланкі лясне,
Забурчыць раззлавана гром.
Няўжо гэта зноў у лазню
Ісці з пагбаным вядром?..

Хоць аглушы цалёўкай,
Хоць розгай азадак ксці,
Мужчынам,
Нам дужа нялоўка
З бабамі ў лазню йсці.

Абапал дзядоўнік і быльнік
Марацъ аб уцекачах...
Змушае счарцелы прымыльнік
Раздзявацца на злых вачах.

Васілка спуджана бразне.
Ахопіць перапалох.
Хаваеш сваё падрабяззе,
Пакуль не схавае палок...

Не ведаючы благога,
Кідае смех пад шум,
Анекдот смяецца з глухота:
Як варам лінулі —
Пачуў!..

Няма тут ні просьбы, ні грозьбы,
Ні педагогікі —
Чорт вазьмі!
Гаворыць канкрэтна розга.
І мыешся ўволю слязьмі.

А Мельнікава брыгада
У Глыбачцы акурат,—
Там бацька...
Ён даў бы рады,
Навёў бы ад разу лад...

Пасля вайны не зайздросціў,
Хто з бацькам у лазню ішоў:
Дурасці поўныя косці —
Венік, як жмук вужоў!

Як сам —
То дарослы нібыта,
Вяртаешся горда адзін.
Хоць шыя і вушы не мытыя —
З мужчынамі
Ў лазню хадзіў!..
1974

* * *

А шчодра я сябе растрачваў.
Была раллёю ўдзячнай ты.
І яхкалі ў крыві гарачай
Жадання прагныя харты.

Былі яны сабой заняты,
Асцерагаліся радзей
Даверлівыя птушаняты
Тваіх спалоханых грудзей...
1974

ДАФНІС І ХЛОЯ

I
Залева не расплятае кос:
Схоў —
Пад скалою!

Дафніс шукае коз.
Коз
Падганяе Хлоя.

Уздрыгваюць вейкамі
Крылы стракоз:
Раскошна ў даліне згоды
Спакою...

...Хлою —
Недаткнёнку-сасонку
Нарадзіла зялёная Хвоя,
Спавівала Хлою
Імглою...

...Багоўка
На пальцы ў Хлоі
Знічкай малою,
Бочкам пярсцёнка:
Не суроч,
Нарачонка!..

...Сарамяжлівасці дзявочай
Палоннік —
За пазухай Хлоі стракоча
Конік.
Божа,
Як Дафнісу
Да яго дакрануцца?
Хлоя можа
Прачнуцца...

...Дафніс!!!
...Падае
          неба дах
                    ніц

Зорамі...
          неба вачэе.
— Што на вячэру?
— Яглі...
          (Пацалаваліся
          і спаць ляглі...)

          II
— Халодная коўдра,
Хоўра!
— Чаго ваўкамі маўчым?
Бульбу смажыць на чым,
На лою?..
          (Хлоя?)

— Спруцяней,
Дарахвей!
          (Дафніс?)
Дыхні,
          с-сабака!
Цягне як з бензабака.
Мокнеш у гаражы!
...Хоць варажы
На мігатлівых пялёстках
Газавай пліткі...

(Высах з лёстак
раўчук плыткі...)

...Горбіцца
Сантыменту правізар,
Празорлівы тэлевізар:

—Хэло! Я
Цябе чакаю,
Хлоя...

...І рэха
пагасла
ахне:
Дафн-
ні-
сс!
1974

ХАВАЮЦЬ ГАЛАВУ КАНЯ...

*Конскую галаву ратуй...*
*Беларуская прыказка*
Глухой труною — ЦІШЫНЯ.
Бархан, што века.
Хаваюць галаву каня,
Як чалавека.

Вядома, конскую ратуй —
Яна ўратуе.
У Каракумы забінтуй
Бяду крутую!

Барханачуйна помніць слых
Крык
І сык кулі,
Схавалі жах пажараў злых
Воч Ісык-Кулі.

Зямля жанчынай чуе боль,

Сама чакае.
На спіне праступае соль
Саланчакамі.

Мы звязаны спакон вякоў
Адной паслугай:
Шматуе цішу скон падкоў —
Зямлю паслухай!

Начы глушэе ваўкаўня.
Бархан, што века.
Хаваюць галаву каня,
Як чалавека...

1974

* * *

Выходзячы з хаты:
Печ засланіць,—
Каб людзі не разяваліся,
Пасядзець маўчком,—
Каб пашанцавала,
Першага сустрэць чалавека —
На ўдачу,
Маладзіцу —
Непажадана.

Заслонка бразнула,
Мама выбегла
І закрычала —
Ішла
вайна...
1974

* * *

Нам перадаць імкнецца час
Усе свае прыкметы,
Пакуль пад сонцам
Круціць нас
Ганчарны круг планеты.
1974

* * *

Пераходзяць цяляты асфальт пацямне.
Паваротак на Ушачу!
Шчаслівая хвіля.
І да статка бычка,
І да хаты мяне
Падганяе бадлівае слова:
«Аксыля!»
1975

* * *

«Тут я заначую —
Журбы не пачую...»
Мерклася застолле,
Як туга, густое.
А журба — начніцай,
Неба — абажурынай,
Журыцца крыніца,
Бор сыры зажураны.
Голас падупалы —
Скруха жаўрукова.
Ты абначавала,
Мама,
За ракою...
Ды не да спакою
І за той ракою.
Хвоя над табою —
Сынавай журбою...
1975

* * *

Перунамі жагнаныя абразы —
Перастылі азёры прадонна.
Выспу смутку майго
Ледзяняць маразы:
Маме ў зямлі сцюдзёна...
1975

## ПАД ВЕЧНЫМІ СОСНАМІ

Мана вясновай гаманы
Не ашукае болей.
Спыніўся твой адлік зямны,
Пераджагнаны болем.

Мой цень —
Працяг тваёй вярсты.
Не вечны ён таксама.
Цяпер мяне чакаеш ты,
А я старэю,
          мама...
1975

* * *

Я некалі свет з прысвёткам
Імкнуўся аб'ехаць,
А мама — дома, так быць павінна,
А мама, здавалася, вечнаю будзе.

Прахопліваюся цяпер з прысветкам,
Каб мясціны выхадзіць пехаць,
Дзе маміны ногі помняць сцяжыны,
Дзе жаўранак сэрца
          абрываецца ў перапудзе...
          1975

* * *

*Міхасю Стральцову*

Гады прывыклі
Да сваёй хады.
Няўцям гадам
Крыху прыстаць у скрусе.

Звыкаю
Да ўсвядомленай жуды,
Што могільнікам памяці
Раблюся.

Усё часцей кажу:
Тады,
Калі
... імгненню затрымацца
загадалі...
...Нагбом да рання
і каўшом пілі
не толькі мёд...
Спяшаю за гадамі.
Мне не сагнацца —
І тае бяды.
...Яшчэ паспее
запрасіць сырая...
Гады прывыклі
Да сваёй хады.
Я толькі ўслед
Удзячна пазіраю...
1975

* * *

Ластаўка —
Хата матчына,
Мне пад крыло страхі —
З д'яблам,
З анёлам у складчыну! —
Не надтачыць шляхі.

Зорамі не стлумачана:
Толькі — і больш нідзе! —
Ластаўка,
Хата матчына,
Добра ў тваім гняздзе.

Прэч злыбяда пашастае,
Хопіць святла начы,—
Ты аканіцай,
Ластаўка,
У сны мае свіргачы...
1975

## КРЫК КРЫГ

Раку-шчыруху
Разумею:
Ёй рупіць
Скруху
Зімавею
Скруціць хутчэй
У вір круты.
І — прэч з вачэй
Праз чараты,
Кусты,
Карчы
Да дня цячы —
Ад глухаты начы
Ўцячы.
Няхай сабе
Адчай сапе.
Страх
У ярах
Даволі
Дрых.

На волю
Просіцца
          крык
          крыг...
1975

* * *

Вогнішча ў лузе даходзіць дымліва,
Золь сарамліва праймае.
Лісцю,
Што верасень пусціць на мліва,
Вольна былося пры маі.

Сыдуцца ў крыўдзе —
У лютай карыдзе,
Зглухнуць вятрыскі ад гаму.

Жалем агорне,
Шчымліва адыдзе
Ціхая восень,
          як мама...
1975

## ПАД ВОСЕНЬСКІМ НЕБАМ

Востры локаць выраю —
Востры боль.
Лес яшчэ задзіраю —
Хвост трубой.

З восенню адносіны
Так сабе.
Хмар перапалосіны
Шпак саб'е.

Небасхіл, плячыма хоць
Шавялі.
Сталі немагчымыя
Шчамялі.

Ходзіць ненажэраю
Ветравей.
Неба, бросняй шэраю
Не травей!

Чым цябе, высокае,
Ацаліш?
А вавёрка цокае:
«Цот ці ліш?..»
1975

* * *

Закінь календары:
Дні — стахлаю саломай.
Бяры
кален дары,

Галіны рук заломвай!

Адчаю халахуп
Змяёй на юных сцёгнах.
Пал спалымнелых губ
Хай захлынецца ў стогнах!

Хай небасхіл калін
Світае над табою.

Ног жураўліны клін,
Вяслуй па лістабою!..
1975

* * *

Рукі заломвалі
Скразнякі.
Слухаў я,
Цішы палоннік,
Бяссоннік:
Плакалі ў ціхую ноч
Цягнікі.
Білася кропля
Аб падаконнік.

Вочы світалі твае
Нада мной.
Пальцы спагады
Перапляліся.
Трызнілі
Д'яблы даверу
Маной,
Шалу анёлы
Стаіліся ўвысі.

Ласка твая,
Як праз пальцы
Ручай:
То апячэ,
То сцюдзёна заные.

Не прыручыць іх,
Як ні прыручай,
Дзве недаткнёнкі —
Дзве дзічкі лясныя.

Ціша
Хмурынкай найшла праліўной.
Неба спрыяла
Нейкім там вегам.
Пахла адлегласць
Адлегай,
Вясной.
Снежань не мог
Адкупіцца снегам.

Прэч
Асцярога пайшла нацянькі,
Золак займаўся —
Адчаю паклоннік.
Вылі ў працяглую ноч
Цягнікі.
Білася кропля
Аб падаконнік.
1975

## ПАПРАСІЛІСЯ ЛІЎНІ Ў ВЕРШ

Сонца спее
жоўтай лотаццю,
ад нецярпення
пупышкі лопнулі.

Порстка раскручваюць
дубкі над кручамі,
у лагчынах ляшчынкі
першыя лісцінкі.

Працуе таропка
тэлеграф навальнічны:
працяжнік — кропка.

Маланка!
Клічнік!

Чуеш, у Тураве,
у Антопалі,
громам устураныя,
ліўні затопалі?!

Зірні, паслухай:
пад весялухай
ад Обаля ў пантоплях
патопамі
па-
то-
па-
лі…
1975

* * *

Мяне жагнала галадуха
У імя айца, святога духа
У дні вайны, пасля вайны.
Зіма ад холаду дубела,
Перасявала пышчель белы,
І кпіла казка пра бліны.
Жыццём духоўным жыў бадай,
Адно што не прасіў: «Падай…»

Я зрэдку дыхаў хлебным духам,
А болей духам жыў святым.
І галава хадзіла кругам
Ад голаду. Ды сэнс не ў тым.

З асноўных ісцін
Саматугам
Ад ну спасціг:
«Не падаць духам!»
І, чорны,
Родны небу,

Дораг
Надзённы хлеб
У кмене зорак.
1975

* * *

Лес над пажарышчам не плача,
Атожылле ідзе ў пагонь.
Зялёным — праз агонь гарачы —
Лістом паўторыцца агонь.
1975

## У ВЯНОК МАЦЕЮ БУРАЧКУ

Не дужкі ставіць —
Узводзіць куркі
Карцела пальцам.
Бывай, зацішак!
Для засцянковых францішак
Радкі
Напіша іншы які
Францішак!

Чытай, грамацей,—
Ён Мацей Бурачок.
А на Мацея
Дарога пацее
Спіной мужыка,
Што спазнала дручок
І на бізун
Яшчэ мае надзею.

На караністай дарозе
Вазак
Цябе растрасе,
Таўстазадая ода.
Паэт — ён гарыць,
Як балючы гузак
На лобе абражанага народа.

Знявага
Вялікадзяржаўна ўрачэ,
Паэта радкі —
Ад упуду замова.
Народ жа
Саромеецца яшчэ
І мовы сваёй,
І сябе самога.

Двукоссі пасля!
Косы і тапары
Без знакаў прыпынку
Гавораць панамі.
І дзецюкі Кастусёвы ў бары
Чакаюць тут жа,
За Жупранамі.

Хаця кароткія,
Ды святкі —
На Белай Русі
Днеюць белыя світкі.
...Нашчадкам паўстанцаў
Світайце, радкі.
...Бяроста бялей
За пергаменту звіткі...

1975

* * *

Смяёмся дасюль з першабытных людзей:
Іх прагнасць не мае карысці —
Пад старасць
грызуцца за костку люцей,
Бо косткі няма чым грызці!

1975

## ДЫМ СОРАК ЧАЦВЁРТАГА

Патыхаюць порахам аблокі.

Стала немагчымае магчымым:
Хоць замервай цішу на валокі,
Комін папярхнуўся першым дымам.

1975

* * *

Долі інакшай не трэба зямной,
Сэрца пагоднее ад суцяшэння:
Родная мова ступала за мной
Ад калыханкі
Да галашэння...

1975

СВЕТЛА

Памяць грукне ў шыбу ззяблай вішнінай,
Добры сон паўторыць
Той начлег:
Светла прачынацца ў хаце сцішанай,
Вестку чуць ад мамы:
— Выпаў снег...

1976

* * *

Бацькаўшчына,
Дзедзіна,
Вырай смутку — спадчына,
Доляю адведзена,
Злом пералапачана.

Дзён сівое прадзіва
Ніткаю суроваю
На сцяжыну прадзеда
Памяць выкіроўвае.

Пойдзеш той сцяжынаю,

Як рачулкай плытнаю,—
Родны край з чужынаю
Ані пераблытаеш!

1976

* * *

Хоць век твой — краец веташка,
Шлях людзям знач ты, жыцьмеш покі,
Каб не разбіцца, як машка,
Аб ветравое шкло эпохі!

1976

## 1863 ГОДА

Боб-гарох не малочаны,
На ток не валочаны.
Рэкі крывавыя —
Не малочныя.
Дзе дым,
Дзе туман,
Дзе хіб валоўчыкаў?

Гэта ўжо кульмінацыя
Нечуванага ўціску,
Калі
Гаворыць кулямі нацыя,
Барыкадна
Падклаўшы кулі...

1976

## ПЧОЛЫ Ў МОРЫ

З мора — змора.
Чаго вы, пчолы,
Паляцелі па дзікі мёд,
Дзе адрогам нагрэла чолы,
Вадаспад аглух ад грымот?

Вы з захмарнага лугу,
З логу
Неслі ношкі цяжкі спакой?

Стомлена
Да берага злога
Змоглых пчол
Прыбівае прыбой...

1976

* * *

Пах вечаровага жытла
На цішыні настоены.
Схіл паўтарае
Хіб вала.
Спакойны вол настрою.

Ён абагнаў загоны дня
І зараз на папасе.
Жаданы выган —
Цішыня
Прымае ўсіх па часе.

І двор, і кол —
Пасецца вол,
Спакою вол рахманы.
І свет, здаецца, ўвесь —
Наўкол,
І вышыня —
Ля хмары.

І саганок,
І таганок
Змрок
Свойтае паволі.
І толькі
Стомы ціхі крок
Яшчэ пыліць у полі...

1976

## НАЧНЫЯ АСТРАВЫ

А на шарэнніку хлусня
І мусіць быць салодкай.
Каб выплысці на бераг дня,
Хоць пасылай за лодкай.
Вясло развагі.
Спаласні.
Але душа абные
І зноў падасца да хлусні
На астравы начныя!

1976

## МАЛЕННЕ ДА ТВАЙГО ХАЛАЦІКА

Дзе зор,
Дзе радзімак галактыка?
Малю ў вечаровым запале,
Каб гузікі ўсе з халаціка,
Як знічкі,
З твайго апалі.

Вяселле ў нас паркалёвае.
Хай іншым —
Нуда залатога!
Тугу на зямлі ўсталёўвае
Вянчальнай сукенкі тога.

Як досвітак,
Пеўнік хахлаценькі
Клапоты абудзіць гарласта,—
Хай гузікі на халаціку
Узыдуць і густа,
І часта!

1976

* * *

Я заклаў свой спакой, душу,
А табе гэта ўсё — не замнога.
Адпусці мяне, я прашу,

Хоць на міг да сябе самога!
1976

Адчайнасцю атаў
Запахлі ледзяшы.
Я ўсё табе аддаў
З патайнікоў душы.

Як леташнік, адтаў
Па цёплым тумане.
Няўжо ўсяго аддаў
І больш няма мяне?!
1976

***

На досвітку абраць
Сабе сцяжыну дня,
Што падшукаць аброць
Для быстрага каня.

Паплечніцу абраць
Сабе да схілу дня,
Што поле абараць,
Дзе ў мінах цішыня...

1976

* * *

Забыць на ўсе напасці
У векавой сяўбе:
Прыпасці —
І прапасці,
І прарасці ў табе!
1976

* * *

Асенні халадок
Яшчэ не халадэча.
Не тузай павадок,
Апошняя сустрэча.

Куліцца пад адхон
Яшчэ не час калёсам.
Імчаць, бы на абгон,
Навыперадкі з лёсам!

Хай высветліць душу
Адчай, як май,
Святкамі.
Цярпенне май,
Прашу,
Апошняе спатканне!
1976

* * *

А снегапад напаў на сад.
Віднее на дварэ.
Хто сівізну маю назад
З вясною забярэ?

Святлею, як зімовы сад.
Вясновым быць не мне.
Іду, ўзімелы, наўпапад
Па белай цаліне.

А сад не ўзварухне галін,
Я сум не ўзварушу.
Хоць ласкай апячы ўспамін,
Як некалі душу!

Сняжок засведчыць,
Малады,
Што светла ўсё было.

Не май бяды —
Мае сляды
Завеяй замяло...
1976

* * *

Не трэба
З жанчыны рабіць святую.
Яна зямная, як сенажаць.
Няхай бунтуе,
Адчай бінтуе.
Ёй гора жаць і дзяцей раджаць.

Начэе смуткам,
Днее слязою.
Займаюцца на сенажаці ў цішы
Зняверу дзядоўе
І красак сузор'е —
Каб знічкамі падаць
У студню душы...
1976

* * *

Салёны пот здаўна,
Але
Спазнацьмеш на сваім чале.

Цябе мазоль твой знойдзе,
Ды
Адчуй, як ён свярбіць, цвярды.

Хоць ісціна адна,
Усё ж
Сам ёю думку растрывож!
1976

***

Хай хваля паспіць пад чаўнамі.
Блакіт, туманом палавей!
Ластаўка дзень пачынае,
Канчае дзень салавей.

Упрочкі ціша начная
Збіраецца.
Бор, не ўдавей!
Ластаўка дзень пачынае,

Канчае дзень салавей.

У песні аб сінім Дунаі
Усцешна, душа, ласкавей:
Ластаўка дзень пачынае,
Канчае дзень салавей...
1976

* * *

Свой сэнс мае звычай няўмольны, калі
Ён тлен чалавечы паліць
І попелу жменьку вяртае зямлі...
Каб узыходзіла памяць.
1976

* * *

У дошку цвік ідзе,
Ідзе ў сасну з палёгкай,
Чужы жудзе, бядзе,
Сагнецца —
Не спалохай!

І стаць сасне сцяной —
Спіной вясёлай хаты,
Ці вечнай той
Адной,
Дзе ўжо не страшны краты.

Хто
Зноў
Па чарадзе? —
Чакаюць смех і ліха.
Так гулка цвік ідзе —
Ажно наўколлю ціха.
1976

* * *

Чорны вол маёй трывогі,
Белы вол маёй надзеі
Цягнуць лямку да знямогі,

Змрок турбот ані радзее-.

Плыўныя аблокі,
Крыгі,
Маладыя снегапады,
Як заядлыя барагі,
Загрузіць на дышаль рады.

Да апошняе дарогі
Іх пасу па чарадзе я —

Чорны вол маёй трывогі,
Белы вол маёй надзеі.
1977

* * *

*...крыніца стаяла.*
*З народнай песні*

Яно ўсяго й было:
Вачэй з вачмі спатканне.
Ударыла святло
Крыніцаю з-пад каменя.

А з поўначы мяло,
Дажджыла апаўночы.
Успомнячы святло,
Любілі ростань вочы.

Піла святло імгла
Халоднымі глыткамі.
Крыніца выбегла.
Маўчаць вучыўся камень.
1977

* * *

*Васілю Быкаву*

Мы на агонь глядзім
Пры вогнішчы рудым.
Як схімнік-нелюдзім,
Знікае ў неба дым.

Гарыць агонь-багач
І цемру й ціш ірве.
Цень жудасці,
Пабач,—
Ступае па траве.

Няйнакш
І прашчур наш,
Укленчыўшы агню,
Узняў свой позірк
Аж
Да зор
Упершыню.

Зглыдаў агонь датла
Галля рудую медзь.

І нам пасля святла
Страшней у змрок глядзець...
1977

СВЕТЛАПАД

Снег злятае з неба —
          пад
Позіркамі мгліцца.
Вейкі веі.
Снегапад.
Белая іглiца.

Не хапае лапат
Дворнікам і —
Злосці.
Снегапад.
Светлапад.
Маладое штосьці.

І дзяўчына ў плашчыку,
Лёгкім не па часе,
У чырвоную шчаку

Яблыку ўпілася.
1977

## ВЫРЫС БЕЛАРУСКАГА ЛЕСУ

Партызанскага лесу вырыс,
Ён выразны ля ўсіх дарог.
Ці падлетак-падлесак не вырас,
Ці лясун свой аблог
Не ўбярог?

Поле помніць красу васількамі.
Лес нязломны ў густой дабраце.
Чым часцей
Яго страх высякае,
Тым часцейшы
Зялёна расце.
1977

* * *

Запрашаю цябе ў зіму,
Дзе ад снегу душна ялінам,
Нагадаюць няхай яны нам,
Мы шукалі сябе чаму.

Запрашаю цябе ў вясну,
Дзе ад квецені снежнай бела,
Дзе сцяжынка збегчы паспела
У нядаўнюю даўніну.
Запрашаю цябе адну
У хаціну маёй самоты.
Для цябе маладосць гукну,
Узаб'ю ў галавах сумёты.
Ад цябе журбы не ўтаю,
Той, што верыць дагэтуль маю.
Запрашаю ў восень сваю,
У зіму сваю
Не запрашаю!
1977

## З ГРЭКАЎ У ВАРАГІ

ФІНКА

Гоначнай плыве машынай
Малагабарытачка.
Кліпсы з лёзаў.
І на шыі
З суперсталі брытвачка.

Выстай
Тут перад агністай
Рудкай ці бландзінкаю!
І пытальнік разагне
У клічнік перад фінкаю.

Ува мне
Ці не
Ува мне,
Чую, нешта дзынкае.
Нешта дужа тахкае.
Блага стала з галавой,
Стаў асфальт муравой
Мяккаю.
Хлопец крыламі лапоча,
Быццам певень,
Ные.
А яна й глядзець не хоча,
Выдаюць цікаўнасць
Вочы
Сексуальна заклапоча-
н
ы
я.

Ёй каб што, кал і загінеш,
Сумны старт — самотны фініш.
Позіркам, як брытвачкай,

Жахнула:
— Are you a Finish?[1] —
Гэткай з Тэмзы брытачкай.

Чую, нешта задрыжэла,
З галавою паблажэла,
Зарыжэла
Уваччу.
Хочацца і колеща!
Боязі — ніколечкі!
Смешны, адказаць хачу:
— Я сусед,
З-пад Полацка...

Ланцужок залаты,
З суперсталі брытвачка.
Як не фін —
Не гні фінты!
Што там марна блытацца!

Думкамі адно гарнуся,
Закрычаць хачу:
— Га-ну-ся!
Я ж не пан той, сэр ці...
Сам сабе сказаць баюся,
Як жа я дамоў вярнуся
З фінкаю
У сэрцы?!

## ЗАБЫТЫ СНЯДАНАК

Ад лысін светла, як ад праталін,—
Уласную можна забыцца дома!
У рэстаране гатэля «Партален»
Усё ядома!

Сурвэткі інеюць, як толькі з марозу.
Рахунак вылечыць ад склерозу!

[1] Вы не фін? (англ)

Заказвай сабе на любую суму
Усмешак, суму...

Раптоўна гурба з белай спіною
Сагрэла вясновую халадзіну:
Дыміцца бульба перада мною,
Як з успаміну!

Так бульбінка кожная абабрана,
Здаецца, не кроілі клубні на ежу —
На карце абводзілі контур старанна
Дзяржаўных межаў.

Дыхнула пара дрыўмі сырымі:
Зноў бульбу чысціць
Мой нож таропкі,
Спадаюць нервова карункамі ў дыме
У кош цяробкі.

На досвітку мама пайшла на працу —
І з комінаў дым ахінае Ушачу.
Не хочуць дровы ў мяне разгарацца —
Ад дыму плачу.

Нам з мамай — бульба,
Цяробкі — Лысоні.
Да нас здалёку ідзе сняданак.
Мне распагодзіў «Партален» сёння
Забыты ранак.

За дзівам дзіва — адкуль самабранка?
На баравіне выспела лета!
Тлумачу, каб знала
Суседка-армянка:
Брусніцы гэта!

Да бульбы брусніцы?
Адменны сняданак!
Зязюльчын мох,
Ад брусніц сузор'я!

...Хіба ад нясмеласці меў я румянак
Ды быў пры форсе.

У нас далёка да сырадою.
Парохквае хлеў суседскі нявінна.
І трапіў гады, як на ліха тое,—
Па свежаніну.

Худнелі скваркі на лютай патэльні,
У тлуку гарачым бульба рудзела.
Суседзі якраз за сталом пацелі
Асалавела.

Мяне цягнулі за стол,
Насядалі:
«Скароміна ваша клымае з кульбай!»
Пярэчыў:
—« Не поснае ў нас сняданне —
Брусніцы з бульбай!..

## АДНОСНА ПАРНАГРАФІІ Ў ШВЕЦЫІ

Дэталі і падрабязнасці —
Дробязі,
Бо людзі ў прынцыпе — ўсе
Бязбожнікі.
Калі забываецца,
Як што робіцца,—
Напомняць
Наглядныя дапаможнікі.

1977

* * *

*Уладзіміру Някляеву*

Быў год,
Яшчэ з вайны галодны,
Стараўся кухар,
Мой сусед:

Ён скручваў пеўнікам галовы,
Клаў на калоду,
Клаў і сек.

Чакаў райрэстаран маўкліва.
А пеўні без галоў
Вакол
Яшчэ падскоквалі ў каліўі,
І кроў свістала з гарлякоў.

Наліпла на сякеру пер'е,
Кроў павыпальвала траву.
І ля суперніка супернік
Скакаў,
Згубіўшы галаву.

Туман зрабіўся саланейшы,
Ад перапуду сам не свой
Дабег да ўзмежка
Мой сланечнік
Са скручанаю галавой...

1977

* * *

Рабіў наіў,
Парыў
Музей фігур васковых?
Я свой даўно стварыў,
Як з гурб,
З фігур вясковых
Музей,

Каб рэй вялі,
Касілі,
Храп'е секлі
Сяўцы і кавалі —
Стахваны,
Зосі,
Тэклі.

Да іх у час цяжкі
Спяшаю за парадай.
Гады,
Як пастушкі,
Начуюць за барамі.

Як да суседзяў,
Зноў
Да іх іду ў пазыкі
За вугалькамі слоў,
Самотна без'языкі.

Далоні апячэ,
Каб высветліць наўколле,
Нячутае яшчэ,
Нязгаснае ніколі.

Іскрынкі,
          што кастра
Пяршаць вятрам у горле.
Ля крэўнага кастра
І дым цяплом агорне.

Хай неба не ўздае
За воблік
Маткі боскай,
Што бачу так яе,
Як маму ў лузе,
Босай.

Расце раса ў траве,
Сасна плыве да кручы.
Са мной
Музей жыве,
А з ім і я — жывучы.

Забытая радня,
Мае сябры, суседзі
Не ў невядомым недзе —
Усе ўва мне

Штодня.
1978

## КОЛЬКІ ГОД БЕЛАРУСІ?

Колькі год Беларусі?
Колькі дочкам, сынам,
Колькі радасці, скрусе,
Колькі снам, курганам;

Колькі зорцы дасвецця,
Што ўзышла для вякоў,
Колькі шумнаму вецці
Баравых бальшакоў;

Колькі крэўнаму слову,
Што вяшчуе святло,
Небу, што крутаброва
Маладзік узняло.

Твар крынічнаю вымый
Прыдарожнай журбой.
Ты спрадвечны Радзімай,
І Радзіма — табой.

Спёкай ці халадзінай
Чуцен голас яе.
Ты адзін без Адзінай,
Ей Цябе не стае!

1978

## ПАМЯЦЬ БОСЫХ НОГ

Ёсць памяць босых ног,
І ўеліся ў яе
З ракі жыцця трыснёг
І жвір, што стому п'е,
Сцяжын перапалох
І ўпартасці жарства.

Парог
З усіх дарог
Сталіцай хараства
Ад першых крокаў стаў
Для босых хадакоў,
Не шкадаваў атаў
Спадманны луг вякоў.

Трыпутніку далонь
Гаіла боль бяды,
Шчымлівасці агонь
Бярог надзей сляды.

Хай памяць босых ног
Не страціцца нідзе
І на чужы парог
Цябе не завядзе…
1978

## СВЯТЛО
(Ушацкае паданне)

Яны сядзелі каля агню,
Кармілі галодны агонь ламаччам.
І сын раптоўна схапіў галаўню
І торкнуў, гарачую,
Ў вочы матчыны.

Агонь ні на што не зважаў,
Балюючы,
Ды стала светла аслеплай начы
Ад крыку матчынага балючага:
— Сыночак, рукі не абпячы!..
1978

## БУТАЎШЧЫНА

Землякі мае

Спяць у зямлі —
Адышлі,
Засталіся ўспамінамі.
У зямлю ўсё сваё ўзялі,
Мне маё
На зямлі пакінулі.

З імі ціша і дабрыня,
Неспакой і згрызня
Са мной мае.
З-пад упірыстага караня
Шум прабіўся
У неба мройнае.

Ад журбы пасівела мудрэй.
Не спяшаецца вечнасць
З ад платаю.
Адскакаў сваё
Дзядзька Андрэй,
Цётка Вольга
Сваё адплакала.

Адпілікаў на скрыпцы
Піліп,
Засталася без Грышкі
Грышчыха.
Скрып вятроў
Ды адчаю ўсхліп
Над вяселлямі,
Над ігрышчамі...

Памянуўшы маму маю,
За сяброўкай пайшла Апёнчыха.
Быць спагадлівым
Сівер малю,
Не наблытаў хаця каб ён чаго.

Удава ля ўдавы.
Мужчын
Пагубляла па свеце
Войнамі.

Безыменны
Іхні спачын
Узышоў недзе зоркамі,
Хвоямі.

Боль жыве
Па Гайках, па Ваўчах —
Вытыркаюцца вёсак скабіны.
Разанула спакой на вачах
Павучынкаю
Лета бабіна.

Сцежкі лесу
Усіх звялі.
Крэўнасць
Склада трывалымі рэдзямі.

Нам ляжаць
У адной зямлі —
Будзем зноў, землякі,
Суседзямі.
1978

## ТУМАН ЯРАМ...

Спяваюць старыя Монічы,
Ласкава з песняй гамонячы,
То, як з надзейнай суседкаю,
Навіною дзеляцца рэдкаю,
То, як з жаданай нявесткаю,
Нашчацца, сумныя,
Радаснай весткаю.

А дзяўчына, як здаўна вядзецца,
упусціла залато вядзерца,
засмуціла казакова сэрца...
Зацвітае верасамі выдма —
за туманам нічога не відна,
за туманам, а ці за слязою?

Толькі песня ведае пра тое.
Ані слова не манячы,
Сонца молячы,
Слязу туманячы,
Спяваюць Монічы.

І дасвецце само ў начы
Ключы
Забірае,
Сонца адпірае,
Што тамілася за барамі...
1978

## СПОВЕДЗЬ КАЛОССЯ

*Арсеню Лісу*

Язэп Драздовіч выразаў кійкі,
Як посахі вяртання да вытокаў.
Намацаўшы карэння вузлякі,
Сягае вольна думка да аблокаў.
Разьбярства цвёрдасць трэба для рукі.
Не баючыся кпін, ані папрокаў,
Вандруюць мастакі, як жабракі,
Каб пасля смерці ўзняцца да прарокаў.

З засценка Пунькі — царства бацяна —
Відаць Сусвету зорная сцяна,
Трысцен, дзе скарб вякоў ляжыць забыта,
Руіны Крэва, дрэва таўсціна
Таго, якому жаліцца струна.
Для споведзі калосся спее жыта.

1978

## ЛЯ АГНЮ

А ты, як думка голая,
Што слоў чакала доўга.
Шугае ў неба полымя

Жаданне маладога.

Спрагнёнасцю азораны,
Дрыжыць трывогі холад.
Пачырванеў ад сораму
Агонь наіўна голы.

1978

* * *

Над высветленымі дубамі
Салодкімі смягне губамі
Пасека —
класіка.
Маладое сена
Расе на
Паспытак
Растрэсена —
экспрэсія.

Дыхае Белавеж
Спакойна, як
белы верш.
1978

* * *

З крыніцы піць і не напіцца,
Глядзець у дно — не ўбачыць дна.
Незамутнёная яна,
Бруіцца чыстая, бруіцца.
Са сном адыдзе і прысніцца
Неадаснёная адна.

Каб асвяціць душу,
Здаўна
Ідзе здалёку навальніца...

1978

## ПАМЯЦЬ

Галее чэрап —
З немых глыб
Схацеў на свет прабіцца.

Чмель,
Як забытай свечкі ўсхліп,
Асвойтаўся ў вачніцы.
1978

## ВОБЛІК ВАДЫ

Пакуль бяжыць вада,
Дакуль яна жывая.
Крывяніць дол руда,
Як рана нажавая.

Хоць двойчы не ўвайсці
Ў раку адну і тую,
Ды хваляю ў трысці
Яна блакіт нітуе.

Вада ад першых дзён —
Свянцоная, святая.
Бяду і добры плён
Вір забыцця глытае.

І, як на далані,
Я варажыў на плыні:
Ці высветляцца дні
У восеньскім нахлыне?

Між віраточных траў,
Як маладзік з-за воблак,
З прадоння пазіраў
Двайнік мой —
Смутны воблік.

Будзь светлым, твар вады,

Будзь лёгкай, хваля тая,
Што мрояў невады
На бераг дум вяртае.

Будзь вечнаю, вада,
Што ў снезе раставала,
З ласінага сляда
Ад смагі ратавала.

Няхай не ў меліне
Цячэ ў яры нямыя
І тая, што мяне
Ў апошні шлях абмые.
Вада, ў вякі плыві,
Няспыннасцю працятая.
Ты вучышся ў крыві
Ці наша кроў —
Працяг твой?
1978

СКАРБ

Былое варушы
Спаважліва, памалу.
Ёсць стомленасць душы
І стомленасць металу.

Метал — на пераплаў,
Душу — не пераплавіць.
З забытых пераправ
Сябе не пераправіць.

Не выправіць сцяжын,
Што зніклі ў даўнім ранні.
Вярнуць сябе з чужын —
Дарэмнае старанне.

Адксціся ад імшы —
Пакінь яе металу.
Аддзяч спаўна душы

За неадумнасць палу.
Металу — ці ў глушы,
Ці ў клопаце плаціны.
Ёсць стомленасць душы —
Твой светлы скарб адзіны.
1978

## МАТЧЫНЫ РУКІ

*Удару я ў ладоначкі,*
*У залаты пярсцёначкі,—*
Ад песні маладой дачкі
Святлела гора цёмначы.

Ладоначкі далонямі
Рабіліся шурпатымі,
Ля ручая халоднага
Азябла зрэб'е пpaтaлi.

І залатой саломаю
Сяннік калоўся восенню.
З салоўкам сны салодкія
Ішлі за статкам, босыя.

На мурагі зялёныя
Ланцуг гадоў раскручваўся,
Сціскаў ён пальцы звёнамі —
Пярсцёнкамі балючымі.

Нажнічак колцы
Мулкімі
Пярсцёнкамі пасля былі,
Вязалі пальцы мукамі
І вузел не паслабілі.

Былі вы, пальцы маміны,
У злога шціва вязнямі.
Як не хапала краміны —
Напарсткам долю яснілі.

А з песні ўсё татулечка,

Сон да падушкі тулячы,
Прасіў дачку лагодную:
*— Не бі, не бі ў ладоначкі...*

Гады, як пласкадоначкі,
Сплылі.
Шуміць трысцё ўначы:
*— Не бі, не бі ў ладоначкі,*
*Не псуй, не псуй пярсцёначкі*
1978

## ОДА ДЗВЯРЫНАМ

Бортам звяглівым былі
Пасляваеннай «палутаркі».
Але да завес пасваталіся
З вушака здаравілы крукі.
Былі ім пасля мацюгоў
Нязвычнымі мірныя гутаркі,
Лязгат звычайнай клямкі
І дотык малечай рукі.

Іх шаравалі гальнём —
Ад фарбы адмыць стараліся.
Ім у далонь уеліся
Пісягі ад абцасаў, мазут.
Першыя хрыпла здароўкаліся
Дзвярыны з сонцам штораніцы.
Перад сном іх з сябе выводзіў
Хвастом сваім кот-страхапуд.

Было і прыкладам білі,
І ў завіруху грукаліся.
Я іх заклінаў, каб дрыжэлі,
Як грукнецца бацька дамоў.
Яны намярзалі і стылі,
Нам цёпла было перад грубкай,
Грэў нас яшчэ рэпрадуктар
Патэтыкаю прамоў.

Маліў, каб штогод дзвярыны
Здымаліся перад Калядамі.
Свяшчэннадзейства тварылі —
Аж кот забываў на мышэй.
На іх парсюка смалілі
Паяльнай лямпай кудлатаю.
Патэльня чакала скваркі.
Рабілася харашэй.

Ад злосці аж склыгаталі,
Ад жалю балюча енчылі,
Ад абурэння грукалі,
Адводзілі ў цішы душу.
Брама ў святло і ў свет,
Дзвярыны пасляваенныя,
Апошні раз зачыніцца
Не спяшайце за мной —
Прашу.
1978

БАЛАДА ПРА АШЫЙНІК

Як не на ўвесь раён
Шчанюк быў спрытны змалку
Лавіў у лёце ён,
Валок на бераг палку.

Умеў гаспадару
У час паднесці тапкі,
Узняць свае ўгару
Усе чатыры лапкі.

Брахаць на продкаў грэх,
Што моцы не дадалі:
Шчанюк меў гэткі брэх —
Аж якаталі далі.

А іклы, як цвікі.
Не даравў нязгоду —
Любыя кумпякі

Нашпігаваць мог з ходу.

Дрыжыце, бараны,
Звыкайце да парадку!
Ашыйнік скураны
Ен выслужыў спачатку.

За пільны яшчэ нюх
Меў не адну падзяку.
Рос на вачах шчанюк
І вырас у сабаку.

Спасцігшы ўсе азы
Ў пакоях і на дачах,
Стаў забіраць прызы
На выстаўках сабачых.

На шыю медалі
За выжласць і адвагу
Ускокваць пачалі,
Як блохі на дварнягу.

На кім вастрыць клыкі?
Хвост закруцідь — не ў гонар.
Не возьмуць выжлякі
След ад заслуг ягоных!

Ні шыю пакасіць.
Хоць вый ваўком у яме.
Ні гаўкнуць, ні ўкусіць —
Ашыйнік з медалямі!
1978

* * *

Матчына песня,
Ты ў полі гарбела,
На маразах у чужыне гібела,
У баразёнцы на міг спачывала.
Болю не трэба было дабаўляць.
Рук ты не чула,

Але спачувала,
Што ў перапёлкі ножкі баляць...
1979

* * *

Як мая галава,
Пабялела трава пасля снегу.
Гэта прызімак толькі.
Яшчэ сваё возьме зіма.
Ні разбегу для бегу,
Ні цёплых аблок для начлегу.
Ёсць надзея адна на адлегу,
На кудлатай завеі кунегу,
На спагадлівасць веку,
На далёкую Бегу.
І веры марозу няма...
1979

ЗАГНЕТ

Шануеш дух, з якога хлеб надзённы,
Чысцец і пекла полымя — загнет.
Ты ў неба круціш дыму верацёны,
З цаглін радкоў кладу табе санет.

Дзікоў галовы, пеўневы кароны,
Як на алтар, клаў на цябе абед.
Трывалых страў разгалістыя кроны
Свой радаслоўны пакідалі след.

Ты, чорнай засланкай багаславёны,
Будзённых дзён разлучаныя звёны
Злучаў і добрых свят трымаў сакрэт.
І воблік мамы над табой — бяссонны -
Днеў маладым правобразам іконы,
Каб хатнім стаў неспасціжымы свет.
1979

* * *

Мама,
Я пастарэў без цябе,
Для сцен адзіноты вырас.
Мне зараз твой зразумелы выраз:
Адзін як вока ў ілбе...

Закачуся ў века з ілба я.
Калі —
Не задумвацца лепей.
Хмарыць крыўда любая,
Парушынка малая слепіць.
1979

* * *

Нам застаецца ад матуль
І шчырасць іхняя,
І ласка.
Наш лёс
З няўмольнага адтуль
Не пераняць ім,
Як пад паска.

І ў свята не задобрыць лёс
Ані скаромінай,
Ні сырам.
Шуміць спагадаю бяроз
Прачысты матчын свет
Над сынам.

Цяпер матуль жаданей снім,
Ад іх не тоім думкі нашы.
І крыўды,
Што чынілі ім,
Да нас саміх ідуць,
Як з пашы.
1979

## ЧОРНА-БЕЛЫ НАПАМІН

*Генадзю Бубнову*

Чорнагаловікам з-пад снегу
Выточваўся з паслявайны
Я, школьнік-вачапор спазнелы,
Грымот і цішы сувязны.
Яшчэ хапала галавешак,
Яшчэ хапала чарнаты,
І падаў
Белы снег на ўзмежак,
Чарнеючы ад нематы.
Ад згадак мама палатнела,

Чакала белага ліста
Штодня з няўмольнага аддзела.
Імжа люцела
Ці ляцела
У вочы маміны траста?
Багатаю для райпасёлка,
Для выпаленай стараны
Была на колеры вясёлка,
Нібыта крама да вайны.

На дамавіну дошкі столяр
Стругаў, бо аднагодак мой
На міну стаў.
І стружак колер
Зліваўся з белаю зімой.

На чорным фоне дошкі класнай
За крэйду быў я сам бялей.
Лядок неасмялелы клаўся
На адсмылелы след саней.

Балюча вочы кроў калола.
У дзірках зор
Начы радно.
Скупое ўсё было наўкола,
Як чорна-белае кіно.

Ён чорна-белы,

Колер волі.
Адпалымнею, адсмылю —
Белагаловым дай мне, доля,
У чорную сысці зямлю.
1979

* * *

Балаты на хаду асушылі,
Як вітальную чашу, да дна.
Перацялі лясам сухажыллі —
Перспектыва далёка відна.

Зім сняжыстых апошнія спадкі —
Гурбаў мэндлікі без каласоў.
На падталы асфальт курапаткі,
Як з блакады,
Выходзяць з лясоў.

Дзе квактух лесавых асцярога?
Дзе рассыпаны жар журавін?
Шынамі зашаптана дарога.
Мчыць усмылены статак машын.

Ні саней, ані сена трушыны,
Ані згубленай торбы з аўсом.
Ахінуў сум галодны птушыны
Дым
Цяжкім ад бензіну крысом.

Хіба ў госці да казкі прасіцца:
Там на ўхабах падскоквае воз,
Там частуецца рыбай лісіца,
Там у згубленай торбе авёс.
1979

## ОДА ХОДЗІКАМ

Ідуць няспынна ў цішыні на ўлонні,
Сваю дакладна службу несучы.

На ходзіках даступны
Час няўлоўны:
Навобмацак пазнаеш уначы.

Вагу з гадамі траціць нават гіра,
Нагрузкаю грамадскаю — замок.
На зное працуе ўся сістэма шчыра,
Пытлюе час заведзены млынок.

Каля млына не бойся запыліцца,
Мука гадоў — сваячка сівізне.
Лучынка,
Каганец
І запальнічка
Сузорны цыферблат свянцілі ў сне.

А на дванаццаць зводзяць стрэлкі,
Быццам
Бяруць за крылы пеўня, каб скарэй
Звязаць і на базар —
Абы пазбыцца
Гарластага заступніка курэй.

Без стрэлак,
Як бяскрылыя стракозы,
Не хочуць здацца ходзікі бядзе.
Ланцуг казычуць колцы
І стракочуць,
Напамінаючы, што час ідзе!

Спяшаюць колцы сцежкай ланцужковай,
Сляды
Зноў паўтараючы свае.
Гады
Імчацца вучнямі са школы.
Зязюля вылятае, гнёзд не ўе...
1979

## ДВА ВУЗЯЛКІ НА ПАМЯЦЬ

Хаваюся за паўзаю,
Пытаюся ў тугі я,
Нашто ў цябе за пазухай
Два вузялкі тугія.

Два вузялкі.
Хоць готыку
Кліч, каб глядзець у неба:
Ад аднаго іх дотыку
Успомніцца што трэба!
1979

## ЯШЧЭ АДНО ПРЫЗНАННЕ ПАЛЕССЮ

Неба,
Як чоўна varажскага днішча,
Трэба —
Прасмоліць імгла.
Зоры,
Як вершы Жэні Янішчыц,—
З суму і са святла.

Сум свой і ўцеху сумую,
Самую
Радасць адчуць хачу.
Зноў захварэў я табою,
Сумую,
Зноў ты ўвушшу і ўваччу.

Весняга смутку вугольчык,
Затлейся,
Полымем ахіні,
З громам прачніся,
Паліся,
Палессе,
Ліўнямі дабрыні.

Любіць-пакіне,

Убарць ці Піна,—
Хай паварожыць май.
Хай крапіва,
Як зялёная кпіна,
Пройме душы адчай.

Хай храбусцяць жалудамі
Нявінна
Кормныя дабракі,
Тыя, што势 стануць
Дрыгвой квашаніны,
Чорныя вепрукі.

Мы цябе так асушаем,
Палессе,
Потым ва ўсіх нябёс
Пыл перасохлы прыбіць
Хоць увесь твой,
Пэўна, не хопіць слёз.

Хай твой бацян
Над апошнім балотам,
Ад асакі рудым,
Перажагнае
Спагадліва ўзлётам
Сум мой, як сырадым...
1979

## КЫЗ ЯМШЧЭК [1]

Кыз ямшчэк —
          пагодныя пагоркі,
Смутная смута.
Кыз ямшчэк —
          палын палюча-горкі,
Як туга.
Кыз ямшчэк —
          нябуджаныя грудкі,

[1] Кыз ямшчэк (казахск.) — дзявочыя грудкі

Пудкія грудкі.
Кыз ямшчэк —
            сябе баіцца, прудкі,
Рух рукі.
Кыз ямшчэк —
            дыханне тоіць вечар
Спеўных аблачын.
Кыз ямшчэк —
            сябе баіцца вечнасць
Аблічыць.

І арлу з захмар'я ў подых пахкі
Ўпасці ўніз ямчэй.
Пырхнуць думак грэшных курапаткі
Кыз ямшчэк...
1979

* * *

Я падштурхнуў плячом
Хмару,
Як човен з ліўнем,—
Каб залілася плачом
Там, дзе дажджу малілі.

Човен мой плыў у гарах,
Бы ў снегавых кар'ерах,
Громам прачнецца страх —
Стукнецца толькі ў бераг.

Лёгка на вышыні,
Хочацца — нахініся
І навальніцу штурхні,
Хай адчуваюць унізе!
1979

* * *

Ляці са сваімі гадамі,
Пільнуйся сваёй чарады:
Ускрыліць і паспагадае,
Заслоніць свая ад бяды.

Няхай маладыя чароды
Іначаць і шлях, і прыбой,
Твой вырай і шлях твой —
Чароўныя,
Адкрытыя толькі табой.

Ні белай варонай між чорных,
Ні чорнай між белых гусей
Не будзь на разорынах зорных
Ні ў спёку, ані ў грыбасей.

Каб юныя не гагаталі
З цябе над захмарнай градой,
Лунай
Са сваімі гадамі,
Знікай
Са сваёй чарадой.
1979

* * *

Дзе тая зязюля,
Што мне вякі вешчавала?
Падавілася каласком.
Дзе шчыруха-матуля,
Што мяне сустракала?
Папярхнулася жоўтым пяском.

Дзе дарога дадому санная,
Нецярпенню доўгая самая?
Знікла з палазком,
Што спяваў баском.
Дзе сцяжынка беглая
За прымоўклым ляском?
Ногі босыя адпялегвала,
Часам сасватаная,
Цёмным асфальтавым
Падперазалася паяском.

А мне ўспаміны
Балюча паляцца,

Нібыта ў зямлі яліны
Замлела шавеляць пальцамі,
Апавітыя туманком.
Сэрца заходзіцца шаргунком.
1980

* * *

А жаўтароцікі-сланечнікі
Ад страху круглымі ратамі
Крычаць маўкліва,
Просяць нечага,
І вецер іх мальбу вяртае.

Іх сонца ў гнездзішчах пакінула,
Плыве адно ў блакіце высака.
Узляцеўшы над зямлёю,
Рызыка
Усё здзіўляецца,
Па кім яны...
1980

* * *

Дождж ідзе —
          чуваць,
Снег ідзе —
          відаць.
Змрок непрыкметна ступае.
Бяду адчуваць,
Радасць вітаць
Умее крыўда сляпая...

1980

ДА ПАРТРЭТА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Дзіця з вачыма празарліўца,
З душой, пакрыўджанай на свет,
Зірне — і будзе фраза ліцца,
Нібыта клёкат праз арліцу,

Як несупыннасць праз Тыбет.

Адчай з прарочымі вачыма,
Дзе ўзорацца шляхоў шлякі,
Дзе з небам раіцца Радзіма,
Дзе немагчымае магчыма,
Дзе дзівакуюць дзівакі.

Ахвярца верны неспакою
Над плынню крэўнае ракі.
І мова матчынай рукою
Яго сумленне трапяткое
Багаславіла на вякі.

1980

* * *

Мы ўсіх мужчын раўнавалі
Да нашых матуль аўдавелых.
Пасталелыя ранавата,
Мы іншых крыўдзілі смела.

З вайны мы махру курылі,
Бацькоў сваіх пераймалі.
Мы толькі ўласныя крыўды
Да сэрца блізка прымалі.

Баяліся — мамы ласку,
Што нам належыць,
Падзеляць.
Вось вырасцем — і палацы
Паставім з такой падзеі.

І мам забяром з сабою —
З упартасцю прысягалі.
Апошніх надзей забойцы,
Мы вольныя ў свет сягалі.

Маленькія эгаісты,
Што ведалі мы пра самоту?

Завейна
Адной галінцы
Застацца гібець зімою...

1980

* * *

Гадзіннікавы майстра
навобмацак чуе час,
Праз павелічальнае шкло
хоча высачыць бег
імклівы,
Каб хоць на міг запыніць імгненне.
А час праз пальцы цячэ і знікае.
Майстру падсвечвае,
павялічваючыся, лысіна.
У вакне Карадаг у застыглым спакоі.
Голы чэрап ягоны пасля ўтрапення
Абрастае паволі —
ўжо колькі стагоддзяў не злічыш.
Ластаўкі перад дажджом,
як аблудныя стрэлкі,
Не могуць знайсці свае цыферблаты,
Каб паказаць, колькі часу вечнасці.
1980

* * *

Загрузлі ў травах
Сноў грузавікі,
Што везлі ў дамавінах галашэнне.
А ў партызанскім краі павукі
Дагэтуль вяжуць сеткі,
Як мішэні.
1980

## НАСТРОЙ

Днём маладым ішоў немалады гаванец,
гітару нёс,
не, ён не нёс яе,—
прытрымліваў гітару,
ледзь дакранаўся да яе,
трымаў на ветры,
вёў далікатна подручкі,
нібы абранніцу каханую
ў апошні год кахання,
калі, нарэшце, зразумее чалавек,
што ён кахае
і неўзабаве ўсё павінен страціць.

З гітараю ішоў гаванец.
Дакладней,
гітара дазваляла з ёй ісці,
суправаджаць яе, аберагаць
ад слоў абразлівых
і ад вачэй нахабных,
яе апошні раз паслухаць
дазваляла.

Ішла дарога ў вечар.

Я ўспомніў жаўтароцікаў,
што на ашыйніках
каляных, каляровых
гітару цягнуць,
перасмыкнуўшы горла ганарліўцы.

Ішоў з гітараю гаванец.
Гітара адчувала,
хто,
дыханне затаіўшы,
пры ёй ідзе.
І гукі ласкі, смутку і ад чаю

гітары выкруглілі рот
і перасЕлі ў перасохлым горле.

Гаванец,
я табе зайздрошчу
да сённяшняга дня.

## КРАЯВІД З ГАВАНСКАЙ ПАЛЬМАЙ

*Юрыю Грэйдзінгу*

Глыні
Дыханне цёплай глыбіні,
Спытайся,
Выпешчаны халадамі,
Каго
Вякамі пальма выглядае
З-пад стомленай
Зялёнай далані.

Цані
Далёкіх караблёў агні.
Даўно забрала
Далячынь без краю,
Каго вякамі
Пальма выглядае
З-пад стомленай
Зялёнай далані.

Зірні,
А можа, ўбачыш тыя дні,
Калі вяртала
Скруха маладая,
Каго вякамі
Пальма выглядае
З-пад стомленай
Зялёнай далані...

* * *

Патрэбна мяняць нябёс цыферблаты,
Пераводзіць стрэлкі начэй,

Каб, гонячы праз акіян хутчэй
Па дарозе да матчынай хаты,
Сум —
Незгаворлівы паганяты —
Выкрасаў замілаванне з вачэй
Надазёрным спакоем
Вёсачкі Ціханяты...
1980

## ДРОВЫ

Сукаватыя, шчоглыя
У градах, у кастрах
Пацеюць смалою,
Як мёд у скрылях.
Лётаюць,
Петраюць на сівярах,
Каб ласы агонь
Зімавеям на страх
Смактаў смаляныя
Соты з калоды,
Па-мядзведжаму жмурачыся
Ад асалоды.
1980

## ВОСЕНЬ НА ВІТАШЫ

* * *

І вецер верасня абраў лагодны тон
Для дзён,
Што з цеплынёю засталіся.
Хадою маладой сагрэтая Сафія
З плячэй зрывае
Свой асенні палітон —
Аж падаюць
Каштанаў гузікі глухія
На неастылую аздобу жаўталісця...

КРЫПТА

...Рука замлела за пяць вякоў —
Баішся, што зараз выпусціць скрутак.
Стаміліся вочы пялегаваць смутак,
Стапталі ногі столькі пяскоў —
Распаўся прахам святы абутак.

...На вуліцы недзе стаяць вазы,
Апосталы ў кірмашовай турбоце.
Відаць, здабывалі свой хлеб у поце
І, ўзнесеныя на абразы,
Нязвыкла чуюцца ў пазалоце.

...Чакае пакутніц галодны роў.
За два стагоддзі да апраметнай,
Што потым назвалі другой сусветнай,
Трывогу чуе людская кроў.
Ён потым жудою свянціў, Асвенцім.

...Бялееецца на сцяне тэлефон —
Будзі Ўсявышняга просьбай людскою,
Каб на душу і на дол спакою
Не шкадаваў хоць на момант ён,
Калі раптоўна выйдзе з.пакою...

## БАЯНСКАЯ ЦАРКВА

*Георгію Вылчаву*

Да гэтых сцен гарачы лоб любы
Прыкласці след —
Астудзяць у імгненне.
Хоць храм
Узводзіць рукі для мальбы,
Але ў далоні ўелася каменне.

Бароніць чысціня сябе здаўна.
Трымае неба краска палявая.
Нібы вядро з калодзежа,
Са дна,
З сярэднявечча думка
Усплывае.

Глядзяць з-пад німбаў,
Як з-пад башлыкоў
На пашы ў дождж спрадвечныя сяляне.
Святымі іх назвалі для вякоў.
Яна святая — праца — мазалямі.

Вячэры тайнай высветлены змрок.
На сціплы стол
Сышліся стравы з дому.
Як для малітвы,
Пальцы склаў часнок,
І рэпа ў кулаках сціскае стому...

1980

* * *

Мы кожны дзень
Туды, туды
Вяртаемся ўспамінам,
Дзе хрыпне вырай малады,
Трымаюць небасхіл сады,
Здароўкаюцца халады,
Дзе ты
Завешся сынам.

Мы кожны дзень
Адтуль, адтуль
Ідзём хадой няхуткай,
Адтуль,
Дзе ніву помніць куль,
Дзе пахне сіверам хатуль,
Дзе развітальнае
Пакуль
Махае смутку
Хусткай.

Дакуль трываюць нашы дні,
А іх да жалю мала,
Вяртаемся на карані
Сваёй забытай дабрыні
Успомніць ласку далані,
Што клопат наш трымала...
1980

* * *

Суровая нітка жыцця
Не лезе ў шаршатку долі.
Ад часу-краўца
Ныцця
Ніхто не пачуў ніколі.

І выюць турбот ваўкі,
І золка ў зорнай паветцы.
Гарбее кравец вякі.
Суровая нітка ірвецца...

Не знойдзеш
У стозе сноў
Пранырлівую шаршатку.
І вузел завязвай —-
І зноў
Усё пачынай спачатку...

1980

* * *

З-за парога роднай хаты —
З запарожжа
Пачалося падарожжа
У запарожжа,
Дзе пароша запрашала
У заварожжа,
Дзе на шчасце варажыла
Раздарожжа...

1981

## ВОГНЕПАКЛОННІЦА

*Спакой нізінаю цячэ,*
*Увечар сцежка ў руце-мяце*
*А вогнішча гарыць яшчэ*
*Самаахвярнае, як маці...*
*З радкоў памяці*

Мама мая хрысціянкай зжыла,
З богабаязнай душою, іконніцай.
Ды, вернападдадзеная святла,
Болей была яна
Вогнепаклонніцай.

Звідна карміла агонь з рукі,
Яму выбірала кавалкі ласыя —
Бярoсту,
Крамяныя смалякі.
Ёй полымя пальцы лізала з ласкаю.

Пераважна звала агонь
Цяплом —
Гасіла цяпло,
Цяпельца разводзіла.
Назалеўшыся над бяззубым кублом,
Чакала цёплага снегу малодзіва.

Як гняўлівых суседзяў якіх
На куццю

Перуна,
Маланню
Запрашала велічна.
І, ўдзячная за неспакой жыццю,
Ахвярна
Лучынкі скіпала вечарам.

Іскрынкі раздзьмухвала на далані,
Нібы ад мякіны адвейвала зерняты.
Штодня да агню,
Да гарачыні
Былі і падумкі і вочы звернуты.

Ад дыму ў чалесніка цьмела чало,
Печ
Небу ўздавала пашану ахвярную.
І полымя болю маму ўзяло —
Растала, як папялінка, за хмарамі.

Каб на сівярах не марозна было,
Каб збілася з ног снегавеяў конніца,
Пакінула мне на зямлі
Цяпло
Акуліна Андрэеўна —
Вогнепаклонніца...
1981

* * *

Мне дома цяжка заснуць,
Пакуль ува мне засынаюць
Неба, ад жаўранкаў ажаўранелае,
Што для мяне іх раней разбудзіла;
Нечапаныя вішні ў цвеце,
Якім нецярпіцца зірнуць у студню;
Дзьмухаўцы-жаўтароцікі,
Ад вугольчыкаў пчолаў пякучыя;
Рэчка, дзе плёхае пранікам плотка,
Мыючы дзецям сваім кашулі;
Луг, дзе трава раскашуецца,
Як маладая чупрына мая даўно;
Мятлік гарачы, які раскрываў крылы,

Правяраючы недаверліва, ці ягоныя;
Лугавіна, штоператрасае пярыны з зімы,—
Аж завейна ад цёплага пер'я кнігавак;
І, вядома ж, абавязковы бусел —
Ён па традыцыі даўняй
Мусіць мой сон пераксціць,
Як некалі гэта рабіла мама,
А цяпер яе дома няма.
Я чакаю, пакуль яны ўсе заснуць,
А пасля іх прашу, заклінаю ласкай:
Сноў маіх не мінаць анідзе —
З імі ўсюдых я дома буду...
1981

* * *

*А над сном матулі асака...*
*Аляксей Пысін*

На вечны твой гарод
За плот глухі, жалезны
Паслы тваіх турбот
Няпрошана залезлі:
Асот і крапіва,
Трыпутнік і макрыца,
Сівая галава —
Рамон святлом іскрыцца.

І плача, змогшы тлен
Загону ўсёўладаркі,
Слязьмі сухімі кмен
З забытай гаспадаркі.

Саміх нябёс ганцы,
У памяць гаспадыні
Набожныя званцы
Прынеслі смутак сіні.
Дзядоўнік падысці
Наважыўся зароўя.
Усё як у жыцці —
Пяшчотна і сурова.

Сярпом і секачом,

Матыкаю крывою
Дзе з песняй,
Дзе з плачом
Ты білася з травою,
Старалася штодня.
А я чапаць баюся:
Зялёная радня,
Яна ў адным хаўрусе.
Стаў аблачынкай дым
З жыццёвага надзела.
Зайздросцячы жывым,
Трава пазелянела.

Узгорак у мальбе,
У яго таксама сёння,
Як некалі ў цябе,
Зялёныя далоні...
1981

ПІЛІП

Прасілі талакою:
— Піліпе, шавяліся,
Сыграй ты нам такое,
Каб грошы завяліся!

Нібыта з ганарлівай
Залёткай чубіў спрэчку,
З суседкай гаварыў ён,
А голас слаў за рэчку:

— Цераз рэчку жэрдачка,
На тым баку сэрдачка.
Клічу-клічу, не чуюць,
Няхай з Богам начуюць!..

Не спаў у футарале
Смык у яго ніколі.
Шляхцянкі-хутаранкі
Не спалі ў наваколлі.

І ў смаляной кабылкі
Ён мог дабіцца згоды.
Памылкі,
Як абмылкі,
Змывалі часу воды.

Красунь у лес ад плётак
Вёў смелы смык Піліпаў.
З гнязда не раз
Падлётак
Ягонай долі выпаў.

Нагамі чуў Еўропу,
Піліп ішоў з палону
Да маладога кропу,
Да ўшацкага булёну.

І зноў іграў вяселлі,
Вірыў-юрыў ігрышчы.
Як гусі, палі-селі
Снягі гадоў на ржышча
Жыццёвага загону,
Дзе ўсмак пасмычыў гора.
А спрыт ляцеў з адхону,
А стома лезла ўгору.

Бо йскрынка пасумуе
Не доўга, для парадку,
Дый пра сябе самую
Загадвае загадку:

— Авохці мне,
Пяць на мне,
Шосты строчыць.
Што ж ён хочаць?

А клопаты паслугай
Яго не абміналі.
Хадзіў па лузе з пугай
І ў небе камінарыў.

Ішлі паволі з поля
Звяздоні ды Букеткі,
Давалі скрусе волю
Ссівелыя суседкі.

На ўзлеску адшкадуе
Ялінку маладую —
І комін граў трубою,
Вітаў зіму журбою.

Чаму я пра Піліпа,
Веселуна з пасёлка,
Успомніў?
Смутак-клыпа
Ідзе здалёку золка.

Завея загалосіць
У незабытым краі,
Здаецца, спеў узносіць —
Піліп на йскрыпцы грае...
1981

* * *

Якія будуць сніцца сны
Нашчадкам нашым:
Ці дзень вясны,
Ці цень сасны,
Ці шум лясны,
Ці нашум?
Ці неба зорнае прыкмет
Для іх значэ —
І казак свет,
І след камет
Не будзе мець значэння?

Ці хопіць памяці званоў
Званіць у заўтра,
Прачнецца зноў
Трывога сноў
І мы, як дыназаўры? 1981

## БАЛАДА ЖАХУ

Жвірам асляпіць адчаю вока
Просьба малых да ката:
— Не засыпай зямлёю глыбока,
А то нас не знойдзе тата...
1981

## ВЕТРАЎ СОН

Паклаўшы мех пусты пад галаву,
Сніць вецер
Стог, завеяны снягамі.
У сена маладзік
Залез з рагамі,
Яму крычыць хмурынка:
— Я плыву!..

Перазалее вецер да касцей,
Пацягнецца пад ранне,
Пустадомак,—
Сняжок з галін
Пасыплецца гусцей,
Па сухадолах —
Выстылых ста дол ах.

І доўга вытрасае цішыня
Начной трывогі крошкі
З кішаня...
1981

* * *

Успомніш пра асцярогу,
Што верыць прыкметам вучыла,
Калі пераходзяць дарогу
З пустымі вачыма...
1981

* * *

Загадай, у сасны якой

Паляцела зялёная вейка.
Гэты зачаравала спакой
Чараўніца альбо чарадзейка?

Любіць вечнасць
На нейкі міг
Запыніцца над возерам слыхам.
І збаяцца сябе саміх
Хвал і патурбаваць ускалыхам.

З вершаліны да караня
Зарыпіць
Дрэва вечнага руху.
Перадасць цішыні цішыня
Ашчаджальніцу радасці —
Скруху.

І ўсплывуць адгалоскі віны
У душы пад сасной-векавухай.
Затанулых цэркваў званы
Чуе вечнасць.
І ты паслухай...
1981

## ЧАРСВЯДЫ

Далёка зязюля кукуе.
Чакаюць яблыні лісця.
Ігрушына цень прымярае.
Канец зімавой нудзе!
— Якую,
          якую,
          якую,—
З пытаннем кнігаўка вісне,—
Мне купіну выбраць з краю?
Блакіт да твару вадзе.

У садзе, яшчэ чарнарукім,
Карову пасе старая.
І сам сябе трактар цягне —

І чайкі ідуць баразной.
І сіверна гукам і рухам,
І песні самотна без гаю.
Чарцям не сядзіцца ў багне —
Шавеляцца пад рабрыной.

Магільнік вачыма сухімі
З пагорка на свет пазірае.
Кулік падсверыў калёсы
І цвеліць:
— Кулі! Кулі!
Магільнік чакае —
Ўздыме
Пагорка хваля сырая
Рыбацкія душы ў нябёсы
У вечных чаўнах —
Калі?
1981

## ЯГО ВЫСОКАСЦЬ

Яго Высокасць
Тэлеграфны слуп,
Адзервянелы ў аднастайным гудзе.
Ён з вышынёй узяў нябесны шлюб,
З лясной гушчарні выбіўся на людзі.

У доўгіх аксельбантах правадоў,
Ад чашачак заслуг увесь зіхоткі.
Там, на прагалах,
Лезуць аднагодкі
Да сонца,
Не шкадуючы сукоў.

З яго знялі
Карэлую кару.
Дазволілі стаяць насупраць лесу.
Гніе ў зямлі,
Ды цягнецца ўгару,
Як непасрэдны праваднік прагрэсу.

Крутая служба
У кадравіка:
Гудзе ў мароз,
Скіпаецца ў спякоту.
І ўспамінае, як, здаравяка,
Яго на руме ўскочвалі з пакоту.

Ад год маіх малых
Яму хвала!
Слуп тэлеграфны
У гарод калісьці
Прыйшоў — і нашу хату да святла
Ён прычасціў,
Каб прыцемкі звяліся.

Яго браты
Наш паднавілі зруб.
Ані забыць мне радасць маладую.
Яго Высокасць
Тэлеграфны слуп,
Высокіх слоў яму не пашкадую!
1981

## ЦЁТЧА

Лясы прымоўклі хутарамі —
Не ўсе іх
За вайну звялі.
У цвеце сосны
Алтарамі
Гараць на зраненай зямлі.

Дарогі выбітай узбочча,
Дзе каўняром
Скарэла гразь,
Вядзе памалу ў вёску Цётча.
Сталярыць нешта
Дзед Барнась.

Даўно за восемдзесят дзеду,
Вайна забрала
Двух сыноў.
А ўсё ж травець
Нязвыкла следу
Да перавернутых чаўноў,

Дзе ходзіць боссю
Барнасіха
Дасюль,
Ледзь толькі сыдзе снег.
І спіцца ліху,
Покуль ціха.
Аддыхаўся
Штодзённы спех.

І нейчы дах
За іх хацінай
Ляжыць,
Нібы той конь стары
З пераламанаю хрыбцінай,
Што ўпаў,
Не звёзшы воз з гары.

Жывёлка ёсць
Апроч ката ў іх.
І кажа,
Стоячы ў раллі,
Пра іх суседка,
Як пра даўніх
Людзей:
— Жывушчыя былі...

Двары суседскія
Трывала
Затуленыя ад вятроў.
Спагадных слоў
Ім трэба мала,
Як мала
Пад паветкай дроў.

І вечарамі
Алтарамі
Гараць сузор'і,
Нібы ўся
Зямля малітву паўтарае
За Барнасіху,
Барнася...
1981

## КАЎЧЭГ

Жыла чаканнем летняга цяпла,
Для ўсіх была
Прыветлівым начлегам,
З вайны,
З патопу попелу ўсплыла
Хаціна наша
Ноевым каўчэгам.

Каўчэг хістала часам ад вятроў.
Азяблых нас ад голаду вадзіла.
Да лесу, дзе шумела столькі дроў,
Было далей, чым да якога дзіва.

За печкай ціха грэлася цяля,
Вялікадне кудахтала ў падпечку.
Агонь, што закліналі з вугаля,
Надзею цепліў хліпкую, як свечку.

Жылі ў каўчэгу дым і дамавік,
Галодны кот і адпаведна мышы.
Ступаў мароз —
Лянотны ламавік —
Па бруку так,
Што чуў яго Ўсявышні.

У шыбіне ані прахукаць тхло.
І пара ледзянела на дзвярыне.
Нячысцік выў — і ў коміне гуло.
І пары кожнай не было тварыне.

Не голуб —
Іх звяла блакада ўсіх —
З аліўкавай галінкай,
А варона
Апавясціла, што патоп заціх,
Ад крапівы
Цвіло ў вачах зялёна...
1981

* * *

Цішэй вады,
Ніжэй травы —
Ад слоў да ісціны далёка:
Вада ў адчаі рве равы,
Глытае хваля астравы.

Трава над тым шуміць высока,
Хто, вечнай прагнасцю сляпы,
У свеце сеяў смерць і звады.
Жвір
Возьме ўсіх —
Ён не скупы.
Вір
Перамые чарапы
Вар'ятам,
П'яным ад улады.

Чакае,
Покуль спіць бяда,
Трывогачуйная вада.
Расце,
Забыўшы на гады,
Трава —
Хаўрусніца вады.

1981

ДАРОЖНЫ МАТЫЎ

Калі атуліць сон
Вагона шумны табар,
На доўгі перагон
Ідзі ў самотны тамбур.

У цішыні начы
Заслухайся лагодна,
Як колы уцячы
Не могуць з-пад вагона;

Як за сабой гудок
Бяжыць з-за паварота,
А месяца лядок
Смяецца жаўтарота.

Самім сабой на міг
Пабудзь далей ад тлуму.
Тут можна падыміць
І ўсё, што хочаш, думаць.

І пальцы скразнякам
Прыцiснуўшы дзвярыма,
У далечы знікай,
Як ціхі выдых дыму...
1981

* * *

Ёсць самазабыццё начы,
Асвечанае згодай цела.
Як потым сэрца б ні хацела,
Яму нікуды не ўцячы

З няволі радаснай тае,
Дзе толькі вочы,
Толькі рукі,
Дзе,
Покуль ціша растае,
Сябе саромеюцца гукі.

Хоць за сабою сам сачы
Люцей, чым наглядач астрожны,
У цемру светлую начы
Спяшацца будзе
Дзень твой кожны...
1981

## МАНАЛОГ ЛУГУ

Скубіце ўсе мяне,
Дратуйце капытамі —
На голым лахмане
Зноў зашчымлю атавай,

Упірыстай травой
Аброць цяпла прывечу,
Аседласці прабой
Сарву ў адчаі вечным —

І захлыну абшар
Зялёнаю крывёю.
Мне лівень-жыццядар
Ахвяраваў прыволле.

Хай туману ланцуг
Навязвае стагоддзі
Пасціся на выгодзе.
Насычу ўсіх.
Я — луг!
1981

## ТРЫПЦІХ

Трохкутнік
выраю
высока.
Трыпутнік ласкаю прыціх.
Трывога зеўрыцца трохвока.
Век чалавечы,

Як трыпціх.

Світанне,
          дзень
          і змрок вячэрні
Іх, трох,
Навечна час упрог.
Трыпціх насеянага зерня.
Трыпціх —
          дол,
          аралля,
          нарог.
Трыпціх крыжа,
Трыпціх жагнанняў,
Трыпціх расстайных
Трох дарог.
Трыпціх апошніх
Трох жаданняў.
Трыпціх —
          калыска,
          кут,
          парог..
1982

* * *

Не ведаючы тэорыі вольных вершаў,
Не чуўшы нічога
Пра факт існавання авангардызму,
Мама
Лісты мне пісала верлібрам
Без знакаў прыпынку,
Без абавязковых вялікіх літар.
Падчас у радок
Прарываліся самі рыфмы,
Як вецер зімовы ў комін
Ці восеньскі той,
Што далічваў лісты на яблыні.
А рыфмы не вытыркаліся вельмі,
Яны перагукваліся па сутнасці:
«Мой сынок, каласок, васілёк,

Баравое зеллейка,
Мой каласутанька...»
І ў кожным радку
Столькі было зямлі і неба,
Лесу і мурагу,
І столькі мне добрага напрарочана,
І кожны радок
Быў да сэрца прытулены,
Што Біблію слова матулінага
Берагу,
Каб не сурочылі!
1982

* * *

Паненка сцяжынка,
Цётка шаша,
Дзядзька бальшак,
Суседка чыгунка,
За вамі імкнецца
З маленства мая душа
Ад першых слядоў
Да апошняга пункта.
І толькі галінка,
Як тая ляўша,
У шыбу няўзнак
Грукне ззяблая гулка,
Паненка сцяжынка,
Цётка шаша,
Дзядзька балынак,
Суседка чыгунка,
Узнікнеце ўсе
У снягах, у расе,
Забраўшы спакой ціхутка.
1982

* * *

У мурах, камяніцах,
У парыўных вагонах
Сніцца сцежка-лісіца,

Што бяжыць па адхонах.

Гараджанін часовы,
Праз бетон, праз цагліны
Чую траў перазовы,
Сум засохлай галіны.

Хоць сваё галава гне,
Сэрца слухае стому.
Да апошняга цягне —
Да драўлянага дому...
1982

* * *

Наведвайце бацькоў,
пакуль яны жывыя,
Пакуль дымяцца коміны —
пагрэйцеся ў бацькоў.
Калі адчай вякоў
гайнёй ваўкоў завые,
Не трэба анікому ён,
сум ля сляпых слупкоў.
Пішыце ім часцей,
спакоем ахінайце,
Як ахіналі некалі
яны ўсе вашы сны.
Без бацькавых надзей,
без ціхай ласкі маці,
Куды б ані заехалі,
вы будзеце адны.
Вы маладыя ўсе,
пакуль бацькі старыя
Жывуць няўмольным клопатам,
каб вам лягчэй было.
А на глухой страсе,
якую вецер крые,
Бацян забытым клёкатам
нясе ў гняздо цяпло.
Бацькі глядзяць на свет
шпакоўнямі пустымі,
Адкуль у вырай вымкнулі

вясёлыя шпачкі.
А крылаў лёткі след
трывогай жалю стыне,
І выбягаюць дымкія
сцяжынкі нацянькі,
Спяшайцеся паспець
душою разгавецца,
Пакуль, спагады просячы,
на выстылым галлі
Трымціць лісток ледзь-ледзь
бяссонніцай на вейцы,
Пакуль завеі ў роспачы
шляхоў не замялі.
1982

* * *

Дрэвы за душой не носяць злосці,
Мы на іх з сякераю, з пілой.
А яны прытуляць на пагосце,
Плачучы па нас жывой смалой.

Мы іх папялілі, карчавалі,
Ворыву пакінуўшы прастор,
А яны за намі качавалі,
Не ўшчувалі, тоячы дакор...

Слыху не стае густога спеву,
Воку —
З пальцаў плота гладыша.
Як сабе,
З гадамі верыць дрэву
Неадзервянелая душа.
1982

З ВАЙНЫ
(Вечны абразок)

Пі горкую смела —
Вайна адгрымела.

Ный, скруха тупая,
На раны хапае
Чыгуначнага палатна.

Прыгрuквалі колы:
— Да д-дна!
І чулі магнаты:
— Дукаты — дукаты!..
І чулі салдаты:
— Дахаты — дахаты!..

Круціліся колы,
Быў кожны вясёлы.
Вайна адсмылела
Чарговая,
А новая
Порах прыхоўвае...
1982

СНЯДАННЕ

Світанак скрыпіць на сырой назе,
Раздзьмухвае мокрых лістоў іскрынкі.
Брылькі падымаючы па чарзе,
Паштарка корміць галодныя скрынкі.
1982

* * *

Смачна зяхае печка
і засланяе рот
(з языком агнявістым
і зубамі бярозавымі)
чорнаю даланёю засланкі.
Толькі згадаю —
і захочацца цёплага хлеба
з прамяцінамі
пальцаў аеравых...
1982

* * *

Быў амаль з іголачкі апрануты
І лічыў карміцелькай іголку,
Што з маёю мамаю стараннаю
Разам прачыналася на золку.

Бліскавіцай злоўленаю
Блізкаю
Пры святле газоўкі курадымнай,
З ноччу дзень сшываючы,
Паблісквала,
Завінілася без перадыху.

Дзеля жытняга кавалка ласага
Мама шыла ўсё ўсяму пасёлку,
Па краміне ды па зрэб'і
Пасвіла
На суровай прывязі іголку.

Са старога новае вымоджвала,
Толькі долю ніцаваць не ўмела.
Кужаль злыбяды ў слязе вымочвала,
Перастрочвала жыццё набела.

Караціла,
Сточвала,
Выстрэнчвала,
Падганяла ўсё ды прымярала.
Радасцю чаканаю не стрэчаная,
Сум з тугой па-ўдоўю прымірала.

З кончыка іголкі быў я ўскормлены,
Як з канца кап'я,
Часінай золкай.
Адрастаў са спаленага кораня,
Перакшчоны мамінай іголкай...
1982

## ТОЛЬКІ АДНО

Мы ўсмак наеліся эрзацу
І наслужыліся панам,
На мове роднай
Агрызацца —
Адно,
Што засталося нам!
1982

## ТАПАЛЁВАЯ ГОТЫКА

### НАПАМІН УСПАМІНУ

Машэкі,
Рогвалды,
Паліфемы,
Суседзі, крэўнікі, землякі,—
Мае разгубленыя паэмы,
Мае нязнойдзеныя радкі

Зямлёю сталі, ідуць травою,
Аддаўшы соснам сваю тугу.
Пакуль трывогу паю крывёю,
Я перад імі буду ў даўгу.

Адны пазычылі смагу слова,
Другія сказалі, як зваць траву,
Даверылі мову,
Нібы дуброву,
Дзе ў родным шуме душой жыву...

### БЕЗ СПЕШКІ

Чэх да чэшкі
Чэша пешкі,
Бо цягнік, і праўда,—
Vlak,
Валачэ марудна так,
Што сама знаходзіць чэшка
Чэха, як аколыш цэшка.
Быццам ластаўка з падстрэшка,
Выглядае чэха чэшка.
І да Ноя
У каўчэг
Не спяшаўся б надта
Чэх!

ПРАЖСКІ АДВЯЧОРАК

Пакуль сабака лапу задзірае,
Чакае спачувальна гаспадар.
З вакна, як з нішы статуя,
Старая
Узнікне,
З надвячоркам зліўшы твар.

Паверыш, на вячэру матацыклы
Са смакам рэжа Прага —
Дацямна
Не ціхне віск.
І розніць нюх прывыклы
Бензінны пах ад піва і віна.

Каб рана ўстаць,
Кладзецца Прага рана,
Сцяжэла мружачы павекі крам,
Каўнер смугі наставіўшы каляна,
Паспешна захінае крыссе брам.

І толькі ноч паненкаю-сялянкай
Ідзе,
Рукой трымаючы падол.
І ўявіць вуліца сябе палянкай,
Як груша глуха грукнецца на дол...

* * *

Спас на двары.
Не чыніць бяды запас.
У саду крамяны грэх
З душы здымаюць манашкі.

З-пад высвечаных далоняў
Яблыкам бачна якраз,
Як да іх набліжаюцца
Чорныя апранашкі.

Ці гэта Евы

У шатах жалобных, таму
Што яблыкі выспелі,
А недзе забавіліся Адамы?
Галінку заломвае вецер,
Як сват вясёлы куму.
Пахне вінам з вінарні,
А восенню з блізкае крамы.

Сад абгароджаны
Засяроджана слухае даўніну,
Лысагаловы яблыкамі
І лісцем падвялым ціхі.
А мне знаёмая прыказка
Коле пад рабрыну:
Пайшоў бы ў мніхі,
Дык думкі ліхі...

* * *

Зноў Прага з пальцамі дажджу.
Я чэшку высачыў, бы знічку,
Што над сабой нясе бажнічку
І ліўневую паранджу.

Як пылам,
Хмарамі прапах,
Сівым дзядоўнікам на ўзмежку
Стаю,
Бо чэшку, як усмешку,
Не затрымаеш на губах...
1982

* * *

Як там, у космасе,
Не ведаю,
Тут,
Нематы глухой каля,
Здаецца цеснай і няветлаю,
Маленькай — без цябе —
Зямля.
1982

* * *

Любуецца восень
Хусцінкай рудою.
Суседка ссівелая,
Як заінелая градка,
Мадоннай
Трымае перад сабою
Качанятка.
Нібы немаўлятка.
І мне, спавітая
Хрупаткаю смугою,
Падміргвае хітра
Загадка:
«Сорак насавоў,
А ўсе без рукавоў?»

Не з пустымі рукамі
Вуліцу пераходзіць
Сарочыха.

Ласка мяне сустракае,
Смутак дамоў варочае?..
1982

ПРЫЦЕМАК

Каза сама свой валачэ ланцуг,
Старая — мех з падвялаю травою.
Спыняюцца,
Каб перавесці дух.
Жывуць удзвюх
Турботаю жывою.
1983

* * *

Забытыя хутары —
Этымалагічныя слоўнікі,
Паз'ехалі гаспадары,

А словы, дасюль не злоўленыя,
Выжыўшы ў ліхалеццях,
Гнездзяцца ў пунях, клецях
Ластаўкамі легкакрылымі
У кожным проламе, выламе.
Стрыгуць цішыню стрыжамі
Над стрэхамі, над крыжамі.
Сняжэюць словы, і росяцца,
І ў сэрцы пагрэцца просяцца...
1983

МАЛАДЗІЧКОМ

Спіць яшчэ хмурына дажджавая,
Што прамые да касцей зямлю.
Мне касаваротку дашывае
Мама,
Покуль я салодка сплю.

Сцежка выбегла за плот,
Чакае,
Каб са мной падацца бальшаком.
Прапануе вяз ля хаты з краю
Ахінуць зялёным башлыком...

З-за плячэй гадоў
Ен потым гляне,
Сум,
І не адступіцца, відаць.
Каб пасля падаць руку вяртанню,
Трэба развітанне прывітаць...

Лёг спакой на халадок атавы,
Выпусціў трывогу з рукаўцоў.
Маладзік прарэзаўся танклявы,
Быццам малады Міхась Стральцоў...
1983

* * *

У ціхай восені душа

Даверам познім залатая.
Ліст
Пенай з хмельнага каўша
На роздум вечара злятае:

З бярозы —
Ссох на сівярах,
З асіны —
Надрыжэўся ўволю,
З рабіны —
Ад гаркоты ўсмяг,
З ляшчыны —
Прасвятлеў ад болю.

Залоцячы свой кожны след,
Да нас неразгаданым кумам
Падлашчыцца ў душу сусед,
Які завецца
Светлым сумам.
Пасля,—
Замена спарыша,
Ён стане двайнікам адчаю.
А ціхай восені душа
Яшчэ даверам залачае...
1983

## КОНІ

А вывезлі столькі эпох
І столькі аблог узаралі,
Што чуў недзе ў небе
Бог,
Як пахла ралля сырая.

Хацелася бынь на кані
І ратніку і аратаю.
Чакалі распрэжана дні,
Хто іхні галоп забрытае.

Імчаліся наўскапыта

Вякі —
І ад сталі коні.
— Дзе коннікі? —
Юр'я спытаў,
Не злезшы з каня на іконе.

Вязуць скакуноў,
Цягуноў,
Як некалі пеўня лісіца,
Машыны.
Няма цыганоў,
Украсці ці хоць прыцанідца.

А як сіўка-бурка на смак,
Абед чарнабурка чакае.
І грыва ў дзядоўі наўзмах
Да траў прыдарожных сцякае.

Не трэба натугі ляза,
Зацятасць імгненная ў тока.
І падае з конскага вока
Цяжкая ад болю
Сляза.
1983

* * *

Хто гэта спявае?
Птушка.
Хто гэта гамоніць?
Дрэва.
Хто гэта шуміць?
Трава.

Іхнія найменні ўсе забылі —
Птушак,
Дрэў,
Утуманелых траў.
Мы прымаем выдумкі за былі,
Іншых помніць нам не паднараў.

Тых няма, што як сям'ёй адною
З пушчамі, з разлогамі жылі.
Сталі разам з роднай стараною
Пястачкай балючае зямлі.

Памяць продкаў даўнасцю жывая.
Кожнаму наступніку знава
Птушка спаткаемнасці спявае,
Дол знямогі
Зеляніць трава.
1983

## ДОМА

Да цвіка апошняга
Прабрана вятрамі паветка.
Хата глядзіць на мяне
Вачыма сухімі.
Мне слязу нарэзала
Кастра ці павечка?
Мама, як некалі, з вока
Языком парушынку не выме...
1983

* * *

Не наталяй зайздрослівасць валля.
Луг неспатольнасці
Пакінь для ўкосаў.
Бо цела грэшнае, як і зямля.
Душа, яна —
Заложніца нябёсаў.

Не падстаўляй зайздроснасці ляўшу.
Твой дзень,
Як светлацень,
Перапялёсы,
Дол моўчкі прыме цела,
А душу
Ці схочуць за сваю

Прызнаць нябёсы?
1983

* * *

Як чорны хлеб,
Свой чорны дзень цані,
Бо чорным днём
Святло відаць выяўней.
Сваю бяду ні на якім кані
Не абагнаць —
Даверся праўдзе даўняй.

У змрочнай паняверцы не марней,
Чарнее дол,
Пакуль не заснягае.
Агонь зырчэйшы,
Чым вугаль чарней.
Яснейшы далягляд за саснякамі.

Асядуць перагорклыя пласты,
Душа паласкавее, адбалеўшы.
Ты атрасеш лахмонне чарнаты,
Свет пасвятлее,
Стане дзень бялейшы.
1983

## ВЯРТАННЕ

Паддаўшыся агульнаму настрою,
У прымаразкі, спёку, халады,
Пакінуўшы атойбішча старое,
Імкнуць звяры і птушкі ў гарады.
Нясуцца ў гарадскіх затоках
Качкі,
У гастраном заглядваюць ласі,
Ваверкі прывыкаюць да падачкі,
Чакаюць, што ім з далані дасі.

А трактары, камбайны —

Ў вёску, ў вёску,
Дзе для сталёвых душ
Надзейны сховў.
І коску некляпаную,
Як коску,
Сціраюць
На балонні паплавоў...
1983

## З ГАДАМІ

Дагэтуль смутак галадае,
Як змрок,
Не знашчаны святлом.
Часцей прыгадваю з гадамі,
Як ела мама.

За сталом
Яна падоўгу не сядзела,
А несла да стала,
Была
Каля стала.
Імгла радзела.
Дзень белы
Мыўся дабяла.

А на двары абрыдлы статак
Штодзённай пільніцы
Рыкаў,
Капрызна тузаў за рукаў,
Як той малеча, недастатак.

Падмазкай мазала аладку,
Бо масла згасла,
Малако
Далёка з'ехала.
Букатку
Пякуць спрадвеку па дастатку.

А ці аблуплена яйко,

Лянько чакае.
Жартам ласым
Засквараўся нішчымны дым,
Што з місы віўся самапасам,
І смех быў з жыватом пустым...
1983

## ФЕЛІЦЫЯ

Міклашэўская Феліцыя Антонаўна,
Матка хросная мая
(Па-ўшацку — Фэля),
Чарку поўніла, каб злоснікі затонулі,
І піла, каб і зайздроснікі ўхмялелі.

І ў гарод, нібы ў касцёл,
Ішла святочная.
Сын загінуў.
Муж памёр.
Не прышукаўся зяць.
Жартавала,
Хоць канцы з канцамі сточвала:
— Ёсць, было, і ведаю,
Адкуль узяць!

Бражку гнала,
Не давала ёй адстояцца,
Субяседніца,
Спагадніца,
Застольніца:
    Не пі куба да Якуба,
    Ані да Міхала.
    Ані ты, ані я —
    Кунпанія дала.

Быццам нітку баваўняную з ваўнянаю,
Слова польскае з ушацкім
    перасуквала.
Модлы ціхія
З паганскай песняй Янавай

Перамешвала,
Частушкай перагуквала.
        Выхадзіла пані Яні,
        Танцавала вальцы,
        Цалавала пані Яні
        Пану Яну ў пальцы.

І ражкі бялюткай хусткі ў смеху трэсліся,
На вузельчыкі пад барадой завязанай.
І гасцінца ў хусцінцы несла хрэсніку.
Не сварылася ні з крыўдай, ні з абразаю.

Урачыста-засмучоная,
Як Радаўніца,
Велікодна-захмялелая,
Як раніца,
Нагарбелася над лехамі, над кроснамі
Кшчоная няхітрай песняй
Матка хросная.
1983

* * *

Душа баліць
Зусім не так, як сэрца,
Той боль не ўтаймаваць нічым,
Няхай маўчым,
Няхай крычым —
Душу праверыць боль-зняверца.

Той светлы боль
Нічым не ашукаць:
Ні шэптам, ані гаманою,
Той боль
Не тушыцца маною,
Бо ўмее полымем шугаць.

А ў полымі бязлітасным згарыць
На прысак марната любая.
Душы, што боль упадабае,
Захочацца загаварыць

Як на духу
З другой пакутацерпцай,
Зноў боль адчуць,
Нібы спярша...

Пакуль баліць душа,
З надзеяй
Можа біцца сэрца.
1983

* * *

І толькі ў забыўлівым сне
І ў недаверлівым успаміне
Абраза цябе абміне,
Бяда хоць на момант пакіне.

Бо толькі ў забыўлівым сне
І ў недаверлівым успаміне
У страчанай старане
Матуля гаруе па сыне.

І там
Ты малы яшчэ,
І гора тваё малое,
І светла сляза цячэ
Па ціхай сасне смалою...
1983

## ЦЕНЬ КАТУЛА

### НА ВЫШЫНІ ЎЗНЕСЕНАСЦІ

Калі ты ўрэшце не адчуеш ног,
Прыслухайся, як вырастаюць крылы —
Раптоўна імі радасць адарыла,
Каб хоць на нейкі міг узняцца мог

Над тленам, над нікчэмнай марнатой
На вышыню Міланскага сабора,
Дзе прыгажосць — адзіная апора
Узнесенасці, ў рызыцы — святой.

Святыя, жабракі і дзівакі,
Пачвары, купідоны і мадонны
Трымаюць моўчкі небасхіл прадонны,
І толькі Бога бачаць праз вякі —

Яны адны ў падхмарнай вышыні
Замольваюць грахі зямныя нашы.
І зоры, ідучы з нябеснай пашы,
Саромеюцца іхняй чысціні.

### PIETA RONDANINI DI MICHELANGELO BUONARROTI

Іх зноў нітуе боль і смутак.
Рукі зламанае крыло,
Што ад пакут не адвяло,
Апала, як цяжэзны скрутак,
Дзе кон наканаваў прысуд,
Ды ацаліў душы закутак,
Каб радасць уваскрэсіў цуд.

Сляды разца — сляды тварэння.
Нібы з цяжкога туману,
Паверыўшы ў жыцця ману,
Праступіць з мармуру здзіўленне.

І тленам зробяцца цвікі.
І адшліфуюць ад малення
Усе шурпатасці вякі.

А вочы слёз — яны сухія.
І абапёршыся аб крыж
Балючай плоці, як спарыш,
Матуля ўсіх пакут — Марыя
Прарочыць чалавецтву сны,
Вядзе на сцежкі мук старыя,
З якіх вяртаюцца сыны.

## ЦЕНЬ КАТУЛА

Усіх астравоў і паўвостраваў свету
Жамчужынка, мой Сірміён[1],— хоць іх многа
Трымае Нептун і ў азёрах, і ў морах,
Як рады я шчасцю, што зноў цябе бачу...
Святкуй, Сірміён: гаспадар твой вярнуўся!
Зарагачыце ўсе, што ў доме ёсць, Смехі!
Валерый Катул

На водмел хваля ледзьве даплыве,
Далашчваючы слова алеандры.
Гарлачыкі ў зыбучай мураве
Зашыліся ў зялёныя скафандры.

Гадзіннікі на вежах па чарзе
Неадначасна паўтараюць:
— Гарда...
Тут асмялелым ямбам балазе —
Іх па-зямляцку абміне пагарда...

Як ад рыбацкіх скураных затул,
Ад сонных тоняў мусіць пахнуць цінай.

Безабаронна роспачны Катул
Выходзіць на спатканне да адзінай,

[1] Сірміён — паўвостраў на Бенакскім возеры (цяпер возера Гарда), дзе знаходзіўся дом Катула

Што застанецца вечнасцю пасля,
А напачатку Клодыяй завецца.
Мелодыяй зялёнага галля
Вятрам нагорным круціць разгавецца.
Туман выводзіць свой ініцыял,
Вірамі веры крута завіроны.

Рым пакараць ідзе правінцыял
З пакуль што невядомае Вероны.

Ён з Цэзарам памірыцца яшчэ
Прызнаны,
Потым на вякі забыты.
Ды ад вякоў нікуды не ўцячэ,
Капрызнай славе здаўшы ўсе іспыты.

Як новай эры хворае дзіця,
Сябе самога хоча ўчуць, упіра.
Верона не дазволіць забыцця
І пра сябе напомніць
Праз Шэкспіра.

З Катулам
Першарадасць, і дакор,
І смутку пажаданая прычына.
Ягоны цень
Плыве з бліжэйшых гор,
Каб ацяніць Еўропу аблачынна.
*Возера Гарда*
*1983*

ЧЫШЧУ БУЛЬБУ

Памалу чышчу бульбу з той зямлі,
Якую помню босымі нагамі,
Навобмацак рукамі пад снягамі
Зямлю пазнаю,
Бо на ёй былі
Усе мае, што сталі каранямі,
Пясчынкамі,

Лясных дарог краямі,
Што з тлумнымі паводкамі сплылі.

Там бульбай адбывалі
Святы ўсе:
На клёцкі бульбудралі на хаўтуры,
З душамі клёцкі
Дзень віталі хмуры
Ў кроплях пары,
Нібыта ў расе.
І на Дзяды таксама клёцкі елі,
Напаміналі,
Што не вечна ў целе
Душа святло дрыготкае нясе.

Вячэра будзе смачнай, як тады,
Калі цалкі скакалі ў рот са спрытам,
Калі з цяпер забытым апетытам
Нішчымніца чакала лебяды.
Я чышчу бульбу,
Пахнуць ацяробкі
Сцяжынкамі,
Што выбеглі на ўзлобкі.

Як мама,
Клічуць даўнія гады:
«З печы, з полу
Сабірайцеся к столу!..»
1983

## НАРЭШЦЕ

Маўчыць мудрэц — прыціх народ,
Маўчаць яго чарга.
Мудрэц раскрыў нарэшце рот,
І паўтарае ўвесь народ:
Мудрэц сказаў;
«Ага!»
1983

## МАЙСТЭРСТВА МАСТАЧЫЦЬ ВУДУ

Як добрую вуду звіць?
Для гэтага трэба спачатку
На лузе каня злавіць,
Дазволу ў яго спытацца
Валосся вырваць з хваста —
Пад'ехаць летам санямі —
Каб маладзічок капыта
На лобе тваім не заняўся.

У жмені воласу жмук,
Паклапаціся пра попел.
Любое майстэрства з мук,
На вопыт заўсёды попыт.
Як волас пачнеш сучыць,
Макаючы ў попел пальцы,
Патрэбна пільна сачыць,
Не перакруціць бы ў запале,

І ўрэшце звязаць вузлы,
І звесці канцы з канцамі.
Калі, нецярплівы і злы,
Удачы не абяцаю.

Кручок завузлуй пасля
І, выразаўшы ляшчыну,
У тумане з-за камля
Сваю не праспі хвіліну,
Калі ў дугу вудаўё
Сагнецца ад перапуду.
Праверыць рака тваё
Майстэрства мастачыць вуду!
1983

## ВЕДЫ

Малапісьменная
Паводле дадзеных глухіх анкет,
Мама смела

Ведала свет.
Дзіўлюся рознабаковасці ведаў
Маці —
Ведала, што да чаго
На небе,
У лузе,
У хаце.

Ведала тэалогію —
На памяць малітвы шаптала:
Абнясі, Божа, тынам
Ад зямлі да неба,
Сахрані мяне, Божа,
Адныні давеку.

Ведала астраномію —
Па зорках дарогу шукала,
Калі пад страхой нябеснай
Перапёлкаю начавала.

Ведала аграномію —
Што сеяць,
Калі і дзе.
Ведала магію светлую —
Як словам дапамагчы бядзе.

Была і ўрачом дзіцячым,
І цвёрдым на руку ветэрынарам
Цялят прымала,
Карову гарэлкай грэла,
Сына — адварам.

Ведала замовы
Ад вока злога,
Ведала,
Як нешта зварыць з нічога.

Калі ў печы ўсё дагарала,
Кацёл дакарала:
Чорт бы на цябе гаварыў,
Каб ты варыў

Заўсягды,
Як на Дзяды!

Была філолагам
З выключным слыхам —
Умела дзяліцца радасцю кволаю,
Цвяліцца з ліхам.

Умела ладзіць з ялінай калючай,
Са спёкай, з золлю.
Словы лушчыла,
Як у прыпол фасолю:
Новае сітца,
Пакуль навісіцца,
А як навісіцца,
Дык і пад лаўкай наляжыцца.

Ведала міфалогію
Паганскае даўніны,
Старых святых, а ўсе яны,
Як і суседзі,
Малацілі і веялі
Зярняты спагады, надзеі,
Заклапочаныя, ды не хмурыя
Міколы ды Юр'і,
Варвары ды Аўдакеі.
Хоць да Міколы,
Ні зімы, ні лета ніколі.
Нішто, што Варвары
Начы уварвалі.

Праўда, маме
Шмат чаго не ставала:
Спаць не магла да святла,
На шарэнніку ўставала.
П'янела ад лебяды, ад кропу.
Яшчэ заблытвала
Прагноз гараскопу:
Застаўшыся з вайны ўдавою,
І жаўранкам была,
І савою.

Калі і еменкай і семенкай —
Паранка,
Устанеш раней за жаўранка.
Не раскруціўшы турботаў сувоі,
І ўдзень паляціш
Бяссоннай савою.

Яшчэ не ўмела ў горы хіліцца,
Яшчэ не умела
Маці хваліцца.
Так і не спасцігла
Цяжкой навукі —
Стаяць рукі ў бокі,
Сядзець склаўшы рукі.

Пакуль рукі ёй не сашчапіла,
Пакуль адпачыць
Не ўзяла магіла.

Гэта і ў сшытку неба
Занатавана зорамі —
Каб чытаў я да скону ў сораме,
Што не ведаю нічога без мамы,
Што без мамы
Я — непісьменны самы!
1984

## АНЯМЕЛЫ РОЎ

Той роў
У неба
Нема
Роў,
Як горла жаху,
Ненажэрна.
Там паміралі акружэнцы,
Аж гліна не ўбірала кроў.

Кабеты назіркам ішлі,

Хто нёс апошнюю скарынку,
Хто неатухлую іскрынку
Убачыць родных не ў зямлі.

І гаспадарыла ў ірве
Карманіха,
Нібыта ў клеці.
Карцела згрэбці ўсё на свеце
З жывымі дзецьмі
Не ўдаве.

Калі яна здзірала бот
З чарговага,
Раптоўна стома:
— Піць! —
Папрасіла так, як дома,
Да маці пацягнуўся рот.

Счакала, покуль не заціх,
Сцягнула бот —
Патрэбна ж пара! —
Калі раса на травы пала,
Адна пайшла
Пазней за ўсіх.

Пасля вайны,
Пасля, пасля
У казённых ботах афіцэрам
Сын прыязджаў
У стахлы церам,
Яна маўчала, як зямля.

Здавалася, што неба кпіць
З яе ад рання да змяркання,
Калі ў лугах прасіла каня,
Нібы ў ірве жахлівым:
— Піць...
1984

АДЛЕГА

Чакае хмуры комін перакуру.
Дымок хмурынкі
Чэзне за лясамі.
Нацягнутая снегавеем скура
З цвікамі ледзяшоў
З страхі звісае.
1984

* * *

Над лесам поўня палае,
А ў прыгарадным вагоне
Спытала раптам малая:
— Мама, а дзе с я г о н н я?
Нямога змяркання знямога
Спакойна спіць на адхоне.
Міжволі сябе самога
Пытаю:
— А дзе с я г о н н я?
1984

* * *

Праз пакаленняў колькі
У індзейцаў гуляюць дзеці.
Падбіраюць асколкі,
Што ў мурагу гісторыі свецяцца.
Выклікаюць духаў вякоў
І вяртаюць наноў з нябыту
Чалавечых сваіх сваякоў,
З далоняў вечных пяскоў
Здзьмухнутых, змытых.
Дзе душы індзейцаў,
У раі ці ў пекле?
Няўжо гэта некалі
На нашых непадобныя дзеці,
Забыцця перамогшы зман,
Пасля
Намі выкліканых землятрусаў,

Як у індзейцаў,
Будуць гуляць у зямлян,
У літоўцаў, у беларусаў?
1984

* * *

Я — наглядач суровага астрога,
Сачу, каб не ўцяклі з мяне самога
Зайздросць і злосць,
Зняверʼе і мана.
Яны,
Зламаўшы ўпартых рэбраў краты,
Сягаюць, як астрожнікі дахаты,
Туды, дзе іх чакае гамана
Доўгаязыкіх плётак, абгавораў.
Як наглядач,
Я мецьму цвёрды нораў,
Каб, Божа барані, уцекачы
Знікчэмнецъ не маглі дапамагчы!
Я — наглядач уласнага астрога,
З трывалых сцен не выпушчу нікога!
1984

* * *

З за ўзгорка сінімі званочкамі
Той асцярожны помах,
І насцярожанасць жаночая —
Каб не было знаёмых...

Пра шэпт і шчэбет у гушчэўніку,
Пра ўцёкі сцежак босых
Раскажа грабянцу вячэрняму
Іглiца ў цёплых косах...
1984

* * *

Як добрая вестка
У хату нявестка,
Ей маці павінна

Аддаць свайго сына,
Глядзідь, аглядае:
— Зусім маладая.
Не клопат дзявочы
Выцягваць калючкі.
Вялікія вочы,
Маленькія ручкі...

Гады прамінаюць,
Траву прымінаюць,
Матуля старая
Глядзіць, пазірае.
Упрочкі ды ўпрочкі
Вясёлыя рухі.
— Маленькія вочкі,
Вялікія рукі...
1984

* * *
Заўхом руда,
У чарапочку вада -
Мыцца ката падахвочвае
Прымаўка,
Бруднага ёй шкада,
Спрыяе спагада жаночая.

Мыецца кот, стараецца.
А з матчынага вакна
Сіні дымок не сціраецца
З прысветку да відна.

Бяда не бяда,
Кот мыецца — на гасцей.
У чарапочку вада,
Робіцца змрок гусцей.
На жуду
Лісток-перазімак лапоча.
Разбіўся той, што трымаў ваду,
Выпаў у прымаўкі з рук,
Чарапочак,—

Кот перабег дарогу.
Агонь падмёў падлогу...
1984

* * *

Спыталася светла дасвецце,
Усмешку схаваўшы ў лугі:
— Што самае лёгкае ў свеце?
— Пяшчоты тваёй ланцугі.

Спыталася хітра прылецце,
Забраўшы раку ў берагі:
— Што самае цяжкае ў свеце?
— Пагарды тваёй ланцугі.

І цёмна спыталася веццe,
Сціскаючы пальцы тугі:
— Што самае зніклае ў свеце?
— Даверу твайго ланцугі.

І, верачы добрай прыкмеце,
Крычу, апрытомнеўшы ледзь:
— Рабом найапошнім у свеце
Хачу ланцугамі звінець!
1984

БЯРЭЗНІЧАК

Дымнага ўзлеску хвартух пярэсценькі,
Тканы завеямі ў тры ніты,
Часты, непакручасты бярэзнічак,
Страшна на «ты» да тваёй белаты.
Быць між зімой і вясною пасрэднікам
Выпаў табе ад лясоў давер.
Чуеш ты сцюжу кожным карэньчыкам,
Кожнай галінкай — цемры ашчэр.
У маладосці цеплішся свечкамі,
А пасталеўшы — ідзеш на крыжы.
Погарбаў куфры з глухімі вечкамі

Светла вартуеш,
Як скарб чужы...
1984

## ГАННЕ РЫГОРАЎНЕ БЫКАВАЙ

Як аношняя завіруха,
Маці белая-белая,
І з завейнымі скронямі сын.
Словы падаюць глуха-глуха.
Цішыню аўдавелую
Захлынае палын-успамін.

Як у птушачкі лапкі, рукі,
Што люлялі ў паланачках,
Спавівалі сынка Васілька.
Ў дзверы страху адгрукалі грукі,
Адпрасіліся ў наначкі.
Абмялела тугі рака.

І дзесяты дзесятак ціха
Размяняла старэнніца,
Неўзнаку праляцелі гады.
Нажылася пад дахам ліха —
Хай з ім сын не сустрэнецца! —
І пад знакам бяды.

З хаты выйшла да сына,
Села ў прызбе на прыгарбе.
Мураву ёй наслала зямля,
Каля печы пагнула спіну,
Ды жарынкаю выграбла
Зорку долі свайго Васіля!
1984

## ПЕРАД БЛАКАДАЙ

Пагоны здзёрлі з палкоўніка,
Разувалі спакойна,

Лапці ўзамен далі.
Боты былі навейшыя,
Боты былі цалейшыя,
Хромавыя былі.
Потым палкоўніка вешалі.
Як леташні ліст алешыны
У перазяблым галлі,
Павіс ён на перакладзіне —
Паміж двух слупоў прыладзілі
Наспех партызаны яе.
Дасюль успаміны мае
Вяртаюцца ў хату цесную,
Часовую хату сумесную —
Ажно дзве сям'і жыло.
А маме шкада было
Таго нямчурыну зацятага,
Знянацку ў палон узятага
Разведчыкам Васілём.
Пакуль ён мяняўся з разведчыкам
Абуткам,
Дымліва свежага
Малака наліла з каптуром
Мама ў снарадную конаўку
І падала палкоўніку.
А ён прыгаворваў: — Гут!
У лапаць нагу ўсунуўшы,
Глядзеў, дзе святыя сумныя
Займалі пачэсны кут.
А мы, малеча сярдзітая,
Вачэй халоднымі дзідамі
Калолі балюча: — Капут!
1984

## КУДЫ?

Прырода ўцякае ў снягі,
У лівень, у слоту, ў спякоту.
Няхай адпачнуць трыснягі,
Затокі, лугі, берагі,
На плыні аціхлай — кругі,

Шчасліва адчуўшы самоту.

Прыродзе лацвей уцякаць,
Ракой выцякаць, уцякаць,
Пазбыўшыся ўціску і здзеку.

Ад радасці і ад тугі,
Хлусні, мітусні, пустальгі,
Ад ціхай магільнай чаргі
Куды
Уцячы чалавеку?
1984

## ЦЯПЕР

Я ведаю цяпер,
Што я не ведаю нічога,—
Сказаць сабе магу,
Калі
Назад вяртаецца мая дарога,
Стаміўшыся ўцякаць за край зямлі.

Вяртаецца туды,
Адкуль даўно пачаты
Яе разбег і пахаплівы бег.
І ёй яшчэ схавацца
Хочацца пад шаты,
Як мне ў маленстве
Ад дажджу пад мех.

Я ведаю,
Што я хацеў бы ўрэшце ведаць.
Відней відаць мне цені на святле.
Дасюль
У мамы ўсё збіраюся паснедаць,
А ўжо вячэра стыне на стале...
1985

## У ПОЛАЦКАЙ СПАСА-ЕЎФРАСІННЕЎСКАЙ ЦАРКВЕ

Перад спакойнай веліччу замры.
Насельніцтва славянства маладога
Плячыма грэе стылыя муры,
Кароцячы вачыма шлях да Бога.

Не на пякельным — на жывым жвіры
Святыя, як ратаі, басанога
Стаяць, хоць штовякова пласт сыры
Кладзе на іх аблічча асцярога.

Душы і фрэсцы боязна раскрыцца.
На ветры часу стыне веры крыца.
Красой падзольнай думу расцвялі.
У крыжакрылай келлі Еўфрасінні
Згадаецца акрайчык неба сіні
І посах, што падаўся ў бабылі.
1985

* * *

А самых самотных на свеце двое —
Чалавек на зямлі
І на небе Бог,
Ахінуўшыся даўніной сівою,
Звінаюць і развінаюць сувоі
Зямных трывог,
Нябесных дарог.

А чалавек, ён не Бог,
Нябога,
Зямныя трывогі ягоныя ўсе.
Ён моліцца болей на поўны бохан
І, спадзяваючыся на Бога,
Сваёй гадоўлі авец пасе.

Свае дарогі нябесныя ў Бога
Выбоістыя, як Млечны Шлях,
Самотнаму дома сядзець убога,
Пасе перуна,

Як быка рабога,
Што можа рогі ўсадзіць наўзмах.

У госці б схадзіць
Аднаму да другога,
Не выпадае, няма калі.
Чалавек без Бога не да парога,
Нялёгка з месца скрануць старога.

Вятры ўсе сцежкі пазамялі.
Адзін на небе,
Другі на зямлі,
Абодва маўчаць,
А над імі без шуму
Плывуць аблачыны іхняга суму...
1985

## ПАРТРЭТ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА Ў УНТАХ З ДВУМА САБАКАМІ
(Каралішчавічы, 1965 год)

Прысмірэлі дзве калматыя гурбіны на нагах,
Пабурэлі, як запыленыя фаліянты.
Брэху вольна ў прасторах,
Рэху мякка ў снягах,
Перасіплі вятры на таргах,
Перазяблі паляны...

Зюзя — як цёзка паганскага бога —
Мароз
Лічыць сваім
І вітае хвастом адпаведна.
У зборніках рыфму
Правярае на зуб усур'ёз.
А за сталом сам паэта —
Унты на нагах —
Усё, як сабака, ведае.

Зюзя смакуе цукеркі, выцягвае зубы з іх,
Як з гнёздаў штэпселі

некалі тэлефаністкі.
А ў паэта ў напамінальніцах запісных
Нумар тэлефона Музы і адрас унізе.
Рэкс з паважнасцю царскай
Сняжынкі есць на ляту,
Аб шарпак апякае, як аб вуголле, лапы.
Так непасрэдна радуецца свайму ж хвасту,
Аж бялюткія хмаркі бягуць
З ягонай разяўленай ляпы.

Зюзя і Рэкс з недаверам
Абнюхваюць унты,
Калі іх з прагулянкі лясной
Прыводзіць вяльможны паэта.
Гэтаксама снег даганялі
калісьці браты,
А цяпер на нагах дзень пры дні
Шукаюць сюжэты.

Зноў паэта,
Наведаўшы сцішаныя лясы,
Над аблогай паперы
З ночы ў ноч уздымае паходні.
І ў азёрах вачэй
Пад сярпом схіляюцца каласы,
І Хрыстос наважваецца
Прызямліцца ў Гародні...
1985

СЯРГЕЙ ПАЛУЯН

Не заімшэла-саламяна,
А вогнедаха-палымяна
Здалёку клікала яна,
Радзіма-маці, Палуяна.
Яго забрала, як вайна,
У рэкруты святая справа
Даць думку роднай старане.
Духоўная, скупая страва
На лебядзе, на палыне,

Прыгатаваная выгнаннем
На вогнішчы сцюдзёным раннем,
Была да смаку
Небараку.
Няхай багатая куцця
Сама ідзе на стол басдяку,
Хто Беларусь, нібы дзіця,
Пакінуць без прытулку хоча.
Халодны сам, шаптаў:
— Сіроча,
Змагайся, родны край, з бядой.
Як на Вялікадне вадой,
Абмыйся думкай самавітай
І на снягах надзеяй вытай
Праталіну, пад рунь густую.
Хай рэчка веры нерастуе
І крышыць крыгі стылых зім.
Яшчэ далека самабранка,
Ды падае свой гол ас Янка,
Знайшоў свой маладзік
Максім.
Пасля
Самотнага Сяргея
Іскрынка памяці сагрэ.
1985

* * *

Столькі я парастраціў
І дзён, і начэй
На цябе,
А калі разабрацца,
Неспакой для душы
І святло для вачэй
Я знайшоў.
Стала мулкая ношка
Мякчэй.
Не была, значыць,
Марнаю праца.
1985

* * *

Губ цалаваных, мілаваных
Нязмушаная чысціня,
Як быццам
На пачатку дня
Наноў вярнуўся,
Каб забыцца
Свой сум на ранішніх палянах.

Прытушаных у смелым прыску
Вачэй вячэрніх
Ціхі змрок,
Ці гэта захацеў прарок
Хутчэй
Пад спадзяваннем даўнім
Падвесці развітання рыску?

Абразай здрады не кранутых
Грудзей
Падкрэслены намёк.
Стан апавіў
Аблок дымок,
Радзей
Ён сочыцца ўхмялелы
У пачутых розумам пакутах.

Адчай
З касмічнай нематы
Мой на зямлі
Ці ўчуеш ты?
1985

## ПРА СІВІЗНУ І РАБРЫНУ

У бараду сівізна,
Пад рабрыну — нячысцік.
Ды восень, яна —
Не вясна,
Спадае фігавы лісцік.

Яшчэ акалічнасць адну
Патрэбна ўлічыць з журбою —
Адамаву рабрыну
Гады забіраюць з сабою.
1985

## РЫЖАЯ БЛІСКАВІЦА

Рэха бяру ў далоні
Радасцю блаславіцца.
Мне пазваніла сёння
Рыжая бліскавіца.

З першым дажджом вітала,
З громам, што будзе следам.
Міг —
І яна растала,
Стала туманам шэрым.

Мне пазваніла яўна
З блізкага аўтамата,
З тога, які стаяў на
Варце,
Што куль таўсматы.

Дзе мая навальніца?
Будзь жа, пярун, за свата!
Позна цяпер вініцца,
Каяцца ранавата.

Насцеж — самоты брамка!
Мае пагляд сакавіцкі
Неба майго абранка,
Рыжая бліскавіца.
1985

## ЗМЕНА ПАКАЛЕННЯЎ

Глядзяць маладыя старэйшаму ў рот,
Каб слова злавіць,

Каб спатоліць ахвоту.
Глядзяць і пасля,
Толькі наадварот —
Каб выдраць
Кавалак апошні з роту.
1985

СОРАМУ ЧАС

Прыходзіць ён да кожнага з нас,
Як паратунак хвораму,
У час, ці познячыся якраз,
Час сораму.

Чакаюць яго — паспешна ідзе,
І не чакаюць — ён клымае.
Ён ведае ўсё, што і як, і дзе
На строме, ў проламе, ў вымаі.

Ідзе па перагарэлай расе,
Глядзіць цвярозымі зорамі,
Сцюдзёныя лаўры ілбам нясе
Час сораму.
1985

## У СУАЎТАРСТВЕ З ГУДЗОНАМ

### ПАДАБЕНСТВА

На птушак і звяроў падобны ўсе мы,
На добрых і на злых,
Бо як адзін
Мы з аднае касмічнае сістэмы
Сваіх сцяжын,
Сваіх мясцін,
Хацін.

На голас, чалавеча, адгукніся,
Яшчэ ўсміхніся
Птушкам і лясам,
Яны і ты даўно ў Чырвонай кнізе,
Якую ты завёў паспешна сам.

Хто пракрычыць табе,
Жаўна ці слонка,
Калі змутнее чыстая бруя,
Што ў кнізе пахаплівая старонка
Запоўнена апошняя
Твая?

### НОВА-ЁРКСКІЯ ПРЫЦЕМКІ

Вуліца — белая лэдзі —
Робіцца хутка мулаткаю.
На вітрыны загледзішся ледзьве
І з негрыцянкай пулятаю
Сустрэнешся позіркам.
А ў небе сцізоркам
Гарбатым, вялізным
Над Брадвэем вісіць маладзік.
А чаму б і не ўзысці зоркам.
І зусім не сцізорык бліснуў,
А гэта дзік
Згубіў свой ікал,

Бо ўгрызці хацеў небаскроб.
Надвячорак,
Да электрычнасці звыклы,
Гарошынкі зорак у жменю згроб
І засмяяўся гарэзліва —
І вочы рэклам загарэліся.
Здалёк
Падала свой голас працяглы
Ноч-негрыцянка.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ!

Зірнуць хацеў бы на стагі я,
Што пад дажджамі парудзелі.
Дзень добры,
Пані настальгія —
Абранка ему тку і надзеі.

Ты — ўзрушлівая гаспадыня
Яго няўлоўнасці настрою,
Здалёк ідзеш у пыле, ў дыме,
Каб вока выслезіць кастрою

З таго дагодлівага лёну,
Што помніць сцелішча на лузе,
Дзе наплываў туман з адхону
На светлае чало ілюзій.

Цябе шануюць дні благія,
Яны твае —
Адчай і дзіва.
Пакуль кляеш,
Настальгія,
Датуль жыве ў душы радзіма.

## ЗЯЛЁНАЯ ТУГА

Я сам пазелянеў,
Нібы той звон заціхлы,

Пачаў любіць свой сум
І давярацъ яму.
Скажы, няхай твой гнеў
Не дужа шчэрыць іклы.
І крумкачыны крум
За жаўранка прыму.
Зялёная туга,
Прадзі з зялёнай ціны
Суровы ніткі ўток
І палатна натчы.
Салёная смуга,
Прыйдзі наладзіць ксціны,
Каб хоць адзін лісток
Зляцеў з маёй начы.

## ЧАКАННЕ ЗІМЫ

Вользе Панковай

А надвор'е на зіму шляхетнае.
Зрэзаную з фермерскай ляхі
Мы капусту крышым на Манхэтане,
Будзячы нажамі стол глухі.
Храскаючы хрумсткай качарэжкаю,
Мы гаворым, як зіма ідзе
Недзе ў нас з Калядамі, з цярэжкаю
Па таўстой слюдзе :—
Былой вадзе.

Солім белай соллю ў цесным слоіку,
Топчам лыжкаю,
Каб сок дала,
І, шануючы старую логіку,
Крышаніну тоім ад святла...
1985

* * *

Сцежкі пазараслі,
Возера зацвіло,
Бор маладзенькі падсочаны.

І забыццё ў галлі
Цёмна гняздо звіло.
Укаляініліся ўзбочыны.

Сцежкі помніць хада,
Возера б'ецца ў вачах,
Бор яшчэ пахне жывіцаю.
Смутку сябе шкада.
Зябка душы па начах.
Хочацца хмелю абвіцца
Хоць каля ўспаміну.

Восенню познаю
Пазнаю
Сваю
Радзіну...
1985

* * *

Завыць ваўком зусім не проста,
Тут трэба цёмны дух бяды,
На снезе хрумсткім, як бяроста,
У цемру збеглыя сляды.

Вятры патрэбны нізавыя,
З пазёмкай зябкай на лычах.
Воўк без прычыны не завые
Да чорнай гаркаты ў вачах.

А можа, воўк зусім не вые,
А голасам галосіць так
Па тых сябрах, што як жывыя
Ператварыліся ў сабак.

Галосіць, што яго абклалі
Сцяжкі жуды з усіх бакоў,
Што абакралі тыя далі,
Дзе вёўся род ваўкоў з вякоў.

Згадаўшы цёплы дух аўчыны,

Завыць ваўком захочаш сам,
Каб сум твой,
Быццам цень ваўчыны,
Дарогу перайшоў лясам.

Бярозкі свецяць, што свячыцы,
У прыпамінаў ля вакон.
Галоўнае —
Не развучыцца
Самотнаму завыць ваўком!

1986

* * *

Як і сучасны кемны будаўнік,
Бог,
Здаючы аб'ект, усё да кропкі
Зрабіў,
Ды непрыкметна недаробкі
Пакінуў —
Працаўнік меў свой разлік.

Каб чалавек, якога ён стварыў,
Хацеў паправіць недаробкі Бога,
Каб дарабляў як след сябе самога
Адчуўшы ў працы ранішні надрыў

І чалавек датуль, пакуль жыве,
Упарта сам сябе перарабляе,
Лісцё гадоў зграбае аграблямі,
Свой косіць цень
На свежай мураве.

Лягчэй аб мур маўчання
Лоб разбіць,
Чым раскусіць
Сухар пытання прэсны:
Чаго не дарабіў Прараб нябесны,
Што мог
І што не захацеў рабіць?
1986

* * *

Спакойнае мейсца,
Дзе
Задумацца можна,—
Бальніца.
Адчай,
Як Хрыстос па вадзе
Ідзе —
Не папросіш спыніцца.
Прыціхлыя соты палат,
Напоўненыя пакутай,
Хаваюць свой сумны пагляд,
Цярпліва таргуюцца з лютай.

Збялеласць
Халатаў, прасцін,
Збаласць
Пагаслых аблічаў.
А тая,
Што мусіць прыйсці,
Ліхвярна ахвяру абліцыць.

І ўся сумятня сумятні,
Як трэскі,
Сплывае на волю
Па вечнай бруі быстрыні
Ракі чалавечага болю.
1986

* * *

А казкі ведалі раней за нас
І нораў наш,
І ўсе, што будуць,
Войны,
Характар маючы
Пяшчотна-мройны,
На чорны дзень
Рабілі свой запас.

Збіралі казкі

Птушак і звяроў,
Іх надзялялі кемнасцю і ўмельствам,
І мовай, каб усім жывым сямействам
Трымаліся сваіх балот, бароў.

Каб пільнаваліся
Мясціны той,
Дзе расцвітаюць папараць і лотаць,
Каб чалавек кусаў сябе за локаць,
Застаўшыся сам-насам з глухатой.

Калі ані капыт,
Ані крыло,
Ні лапа асцярожная,
Ні дзюба
Не спудзяць цішыню,
Ні жолуд з дуба
Не грукнецца ў падземнае жытло.
І будзем,
Каб людзьмі застацца,
Мы
Па згубленыя намі
Шчырасць, ласку
Вяртацца,
Каб згадаць багацце,
У казку,
Гартаючы ўцалелыя тамы.
1986

## ЗАБЫТАСЦЬ

Конь, дачушка, сабака, калёсы.
Бацька лейцы трымае ў руках.
Вечар хіліцца перапялёсы
Пакалоцца шчакой аб пракосы.
След падкуты,
Абуты,
След босы.
Стук і склыгат
Чуваць у вяках.
1986

* * *

А усе клапоты нашыя
Каля
Жытла і тла
Прымае немінучасць,
Штодзённым тлумам
Поўніцца
Зямля —
Прыёмная ў нябыт
І ў неўміручасць.
1986

## ПА СХІЛЕ АЛФАВІТА

Адчай,
аратай, аброк, асянчына, ахвяра,
апрамеще, аблітня, аблігацыя,
аблога, ажамеры, аберуч, асвер,
аброць, аплітанік, аполак,
асецішча, аер, абцугі, Адворня,
адрына, асіта, аскома;
Боскасць,
бохан, багаславенне, бальзамінка,
бязь, бягельда, багун, буцян,
боль, блёкат, бель, Быкаў,
Баркоўшчына, баракамера, бруёк,
бёрды, бязмен, бёрны, беркавец,
бома;
Вырай,
вір, вуж, вугарына,варыўня,
Вечалле, вярыгі, Вялікдзень,
валачобнікі, Верасовачка, Велес,
вурзгалка, вогнік, верацяно,
волаць, вішшо, вотрыны, век,
Вяркуды, вех, вера, вусціш,
вар;
Гаркота,
гора, гара, гарлач, Грамніцы,
Гілёня, гаспода, гадзіна, гадзіна,
гонт, гузік, газоўка, гарохавіны,

Грабакладзіна, гуз, галавешка, гай,
грай, гарбар, грабар;
Дарога,
далечыня, доўг, даланя, Дземенец,
друкі, друз, дзядоўнік, Дзяды,
дынаміт, далакоп, донар, даважак,
дармаўшчына, дарэмшчына, дамавік,
дамавіна, дым, даёнка, даніна;
Енкат,
еменка, ендза, ерапенідца, Ева,
ельнік, Еўразія, едaніна,
ездaніна;
Екат,
ёлкасць, ёд, ёўня;
Жалоба,
жэрабя, жорны, жуда, жолаб, жур,
журавель, жарабя, жароўня, Жыжаль,
Жыцень, жарства, жмыха, журавіны,
жаўна, жоўць, журлівасць, жомчуг,
жаданне, Жывалака, жанчына;
Змяркaнне,
зеўрыцца, золь, завіруха, затула,
здор, Задаброцце, зык, зыгарадзь,
зрэб'е, згрэб'е, забыццё, загон,
загана, затока, Загавіны, залобак,
заручыны, зданькі, забарона;
Іржа,
імжа, імша, іржышча, істопка, Ілля,
Ізбор, іншаверца, ірацыянальна,
Ідута, іклы, Ілона, імшарына,
ілоўка, іголка, ільмак, ікона;
Кірмаш,
крумкач, кут, крывічы, куцця, Ксты,
крэў, Каляды, Куліна, кара, кара,
камель, крыж, касавільна, курмель,
кужаль, куніца, крушня, Кавалеўшчына,
капа, капа, капішча, кроклы,
катоўня;
Ланцуг,
лёх, луг, лой, лом, ластаўка,
ласка, лёска, ляскат, лясскотка,

латок, латока, лесавік, лейцы,
лайно, лён, лотаць, лямантаваць,
лашчына, ляшчына, лавіна, лядаік,
лядоўня;
Мара,
мана, Менск, Маскалёўшчына,
мярэжы, мялінне, мох, мярлог,
мурог, меліва, мліва, малодзіва,
мех, мядзяк, міжыпарніца, малацьба,
Міклашэўская, маладзік, Мілавіца,
мураванка, мама, маркота;
Нашча,
нагбом, навошта, навобмацак,
набільніцы, нядзеля, нэндза, насоў,
ніты, нараспеў, начлег, норат,
наравісты, нараканне, нораст, навала,
нявывалака, непераліўкі,
няснота;
Ойча,
одум, овей, охра, Орша, ордэн, ода;
Прашчур,
праснак, падсмеценне, паланачкі,
пільсць, поўсць, пакулле, пікар,
гіавець, Пакроў, палюк, праварына,
прадзіва, пястачка, Піліпаўка, Полацак,
пакута, пазыка, пекла,
пост, пулята;
Ракіта,
рыдма, Радаўніца, радоўка, Роўба,
радца, раніца, рэзгіны, рунь, рой,
рэй, рай, рана, радовішча, радабоць,
ростанькі, радыяцыя, развітанне,
рашпіль, росы, расплата;
Споведзь,
свет, сейбіт, смага, сведка, Спас,
Саракі, Сарочына, сірата, сорам,
сырапеня, скарга, скарбонка,
стрыгнатка, студня, сухмень, саха,
сарачыны, сачэнь, скароміна,
сігалетка, Селівей, свята;
Талака,

таропкасць, таемнасць, трыпутнік,
трэтар, таварыскасць, трывучасць,
Тураўля, туман, Тумаш, Тарэнта,
танок, тубылец, тапелец, тлушч,
тлук, тлум, ток, такавішча, тата;
Ушача,
ужо, улукаткі, уваскрошанне,
узроўе, уток, удосталь, ужор,
Ульяна, увішна, урачыста, уборы,
уроцы, Увалоісі, уяўна;
Фэст,
фарба, фара, фальга, фасоля,
фуганак, Фарынава, фурманка,
фіранка, флора, флянец, фаўна;
Холад,
хвароба, хаўтуры, хутар, хорт,
халеравацъ, хеўра, хада, хаўрус,
харахорыцца, хмурына, Харон,
хвартух, хусціна;
Цемра,
цяжар, цапавільна, Цярэжка,
цэбар, цьмян, цецярук, Царкавішча,
церассядзёлак, цуг, цяць, цвяліць,
цвет, цвіль, цвік, цвінтар, цэўка,
цаўё, Ціханяты, цяробкі, цясніна;
Чарга,
чалеснік, чарэнь, чарнобыль,
чарот, чарада, чэмер, чэрава,
Чаравэчча, чалавеча, чарэп'е, Чарнаручча,
човен, чомбар, чорны,
чапяла, Чарапоўшчына, чарапіца,
чарвяк;
Шалі,
шаргунок, шуметнік, шэрас,
шаленец, шкода, шкада, шуфель,
шархебель, шурпаты, шчавульнік, шулы,
шыла, шарон, шана, шаша,
шарэнніка, шчыра, шчодра,
шаршатка, шчоглы, шчэць, шпак;
Ы-ы-ы! —
Экзамен,

электроніка, электрапіла,
электракрэсла, эрозія, эротыка,
эпітэт, элегія;
Ютрань,
юнацкасць, Юр'я, Юркоўшчына, юр,
юхта, юха, Югіітэр, юлёва;
Яшчэ,
яма, яр, ярына, Ярыла, Якута,
ячнішча, ява, Ясь, язь, язмін,
ясік, ялавічына, ятроўка, яблык,
ядваб, явар, яджгур, яслі, ягня;
І кожнае слова
Твой век пялегвае,
Пакуль у слоў цябе
Не выйграе пры дзяльбе
Ці-
          шы-
          ня...
1986

## УШАЦКІ АБРАЗОК

Мячэўнік моўчкі
Вострыць лёзы,
Стае зялёнага святла.
Двухпавярховыя стракозы
Напомнілі:
Вясна прыйшла!
1986

* * *

А я назваў бы, далібог,
Усё жыццё тэатрам ценяў г
Скасіў свой ранішні мурог,,
Сваіх стаеннікаў распрог,
Прыйшоў са змроку — ў цемру лёг.
Адлетуценіў.

Адбіўся усмешкай на вадзе,

На лузе, дзе жыве трава ўся,
Забыўся радасцю $ бядзе,
Стаміўся ў тлумнай чарадзе,
Падбіўся к вечару ў хадзе.
Адвандраваўся.

Сябе спыніць захоча спех,
Каб затрымацца ў кожнай рысе,
Дзе час закруціць крутабег.
У новы вецер, новы снег,
У новы плач, у новы смех —
Глянь, чалавек,— твой гнеў,
Твой грэх
Ператварыўся.
1986

## ГОЛАС

А голас так! палявы,
У спадчыну ён
Ад бабулі,
Ад ціха палеглай травы,
Ад золку,
Дзе гулка зязюлі.

Малая свой голас вядзе
У вір галасоў
На праспекце
На ціхім такім павадзе,
Пачуць гэты голас
Паспейце!

Аглухлыя вушы мае,
Што звыклі
Да гулу,
Да крыку,
Штодня вам яго не стае,
Бясплатны яшчэ
Ён на рынку.

Малая свой голас вядзе,
А ён прысмірэлы,
Як тое
Цялятка ў чужой чарадзе
Дурное,
На рожкі крутое.

А голас такі лугавы,
У спадчыну ён
Ад спрадвечча.
Я галасам гэтым
Жывы.
Малюся:
Мацуйся,
Малеча!
1986

* * *

У сны вяртаецца радня,
У сны вяртаюцца суседзі,
Якія ўжо далёка недзе,
Якіх ужо да тога дня
Не ўбачыш,
Што завецца Судным,
Ні авіякрылом,
Ні суднам
Ні вышыня,
Ні глыбіня
Не верне іх,
Радню маю,
Якую меў за ўсе стагоддзі.
Не дужа цешуся нагодзе
Хутчэй сустрэцца,
Не таю.
На свеце, стратамі багатым,
Быць сватам,
Ворагам
Ці братам
Няблага.
І на тым стаю,

Што ўсіх сваіх спаткаю потым,
А покуль палiваю потам
Парослую аўсом, асотам
Зямлю,
Дзе клопатна раю.
1986

* * *

Ступае грузна мажная кабета,
А мне ўсё здаецца,
Што мама гэта
З далёкае старany
Ідзе апярэдзіць сны.

Смяецца ранішнім громам лета,
А мне ўсё чуецца,
Мама гэта
За ўсё жыццё ўпершыню
Не хоча чуць цішыню.

Начны небасхіл падпаліла камета,
А мне ўсё мроіцца,
Мама гэта —
Ёй цемру ў хаце свянціць
Дасюль лучынай карціць.

Пакуль жыву я,
Жыве таксама
На гэтым свеце
Са мною мама.
Памру — зраблюся
Туманам сінім,
А застануся
Маміным сынам.
1986

* * *

Я на гэты свет прыйшоў па вопыт,
Запытацца і пачуць адказ,
Ён навошта,
Паўсядзённы клопат,
Вечны тупат ног і крылаў лопат,
Што з нябёс вяртае долу нас.

Зразумеў я:
Вопыт — гэта стома,
Што завецца чуласцю душы,
Стома —
Над ракой імгнення строма,
Стому,
Што ў табе жыве, як дома,
Нельга заглушыць,
Як ні глушы.

Захавай на шчасце стому гэту,
Размяняўшы рэшту год на дні.
Радуйся ў жыцці святлу і свету,
Верачы ў паганскую прыкмету:
Дабрыня шукае глыбіні.

І пакуль з табою вопыт будзе,
Старасць ціха адплыве ў чаўне,
Адгукнецца жаль у перапудзе,
Зробяцца вярбовай клеткай грудзі,
У якой душа спяваць пачне.
1986

* * *

Перасяленне душ і хутароў,
Пераадольванне, пераасільванне.
Душа гібее ля чужых двароў,
Ёй зябка ля казённых каптуроў,
Жывая,
А як быццам перасыльная.

Яна перасяляецца сама
Туды,

Дзе звыклася, дзе прыцярпелася,
Дзе самая цяплейшая зіма,
Дзе ноч як дзень,
Дзе воч пустых няма,
Дзе соты смутку
Верасовай спеласці.

Сябе самую доўга валачы
Душы
Дарогай дрогкай непадкутаю,
Чапляцца за калоды, за карчы,
Спаць у балоце, долю кленучы,—
Каб жыць на хутары
Сваёй пакутаю.
1986

## ЖАДАННЕ

Знаёмых болей, болей,
А незабыўных меней.
Мяняць бы дах на поле,
Мяняць бы страх на волю
Ды радавацца мене!

Штодня расце каштарыс
Даўгоў чужых і нашых.
Чакае цвёрда старасць,
І мы ёй кажам: зараз,
І думаем іначай.

І застаюцца з намі
Клапоты і ўспаміны.
Клапоты стануць снамі,
Сваё адбыўшы ў найме —
Ды ў іншыя даміны!

Мы ўсе — ўспаміны самі,
Свае альбо чужыя.
З пустымі каласамі
У снапах плывём вазамі,

Аж вось цярпення ные.

Але надзею зорым
Прысмерклых знічак клінам
Спатрэбіцца разорам,,
Дзе наш давер і сорам
Паўторацца ўспамінам.

1986

* * *

Прылівы і адлівы
На Куршскае касе
Не лічыць час імклівы.
Няўжо і мы, як лівы,
Знікаць павінны ўсе.

Клін журавоў журлівы,
У вырай летучы,
Гукае:
— Лівы-лівы!
Пытаецца:
— Калі вы
У нас возьмеце ключы?

Каб адамкнуць астрогі
Без ценяў, без вады,
Знасіліся дарогі
І вашыя парогі,
Сатлелі невады.

Няўжо зімаабрусы
Туман засцеле свет
І з неба:
— Беларусі,
Дзе вашыя прымусы? —
Спытае клін ракет.

1986

* * *

Не думаў я, што гэткія даўгія
Дні могуць быць — дні без цябе —
Не думаў.
Не думаў я, што не сплачу даўгі я
Зайздрослівай сваёй журбе,
Не думаў.

Не верыў я, што гэтак адзінока,
Калі цябе няма са мной,
Не верыў.
Не верыў я, наколькі хопіць вока,
Шукаць мне толькі позірк твой,
Не верыў.

Не мераў гулкасць цішыні на крокі
І навырост расстання шлях
Не мераў.
Маладзічок тваёй пяшчоты крохкі
На поўню радасці і ў снах
Не мераў.

Майго змяркання рыска залатая
Ці чарацінка позняга світання,
Надзея жмурыцца,
Туга пытае.
А што мне адказаць
На іх пытанне?
1986

МАТЫЎ ГАРСІЯ ЛОРКІ

Гэтае права
Было мне каханнем дадзена,
Каб вывучаў я
Пагоркі і ўпадзіны.
Рэльеф правяраў я
З нахабнаю ласкаю
Вачыма,

Рукамі, губамі
І ўказкаю
Свайго нецярпення —
Да забыцця ўсё запомніць
Карцела.
І цяпер я
На памяць ведаю
Самую светлую
Карту твайго цела.
1986

* * *

Жвірынкі лірыкі на дне
Ракі
Па імені Жанчына.
Вір апраметна заглыне,
Прыветна хваля захлыне,
Сум ахіне,
Што аблачына.

Вынырвай,
Патанай,
Плыві,
Надзею май убачыць бераг,
Шчырэй да ламаты ў крыві,
Хоць будзе —
Плыні не крыві —
Твой лоб у гузаках,
Што ў бэрах.

Душу дарма не барані,
Калі да дна дапасці трэба,
Каб не баяцца глыбіні.
А вецер возьме з далані
Жвірынкі —
Папялінкі неба.
1986

* * *

З кім гэта я замяніўся вачыма,
З кім і калі?
Жыць, як не бачу цябе, немагчыма
Ні на зямлі,

Ні ў летуценных нябёсах на зорах.
Чуе мой зрок
Кожны твой подых,
Твой шолах,
Твой шорах,
Лёткі твой крок.

З кім гэта я памяняўся рукамі,
З кім і калі?
Вобмацкам дотык цябе сустракае —
Не адхілі!

З кім гэта я памяняўся вятрамі,
З кім і калі? —
Каб да цябе берагамі, ярамі
Вейна вялі.

З кім гэта я памяняў смех
На смутак,
З кім і чаму
Па чарнатропу прывёў першапутак
Ценю твайму?
1986

ЗА КАЛЯДНЫ СТОЛ

А я збяру гады старыя,
Што ад мяне ўцякалі ўпотай,
З Дзядамі разам
На куццю.
На кут няхай садзяцца тыя,
Што мама няньчыла з пяшчотай,
Гады, прыемныя жыццю.
Ад маладых гадоў Дзяды

Хай адвядуць сляды бяды.

Няхай, што не любіў калісьці,
Гады, бо валакліся сонна,
Далей садзяцца ад кута.
Яны мяне даўно зракліся,
А мне іх не хапае сёння,
А я ж без іх —
Што сірата.
Няхай траецкія Дзяды
Паклічуць збродныя гады.

Хай ля мяне пасядуць поплеч
Гады, што не ўцяклі далёка,
Яшчэ я помню іхні крок,
Я помню іхні плач і поплач,
Мне левае дагэтуль вока
Свярбіць, нібыта назнарок.
Няхай калядныя Дзяды
Уснежаць сцежку на клады.

А тыя, што пакуль мне ўсе,
Каб ліха іх не падлічыла,
Баюся пасадзіць за стол.
Хачу, каб гром куцці наеўся,
Каб добра ўгрэўся маразіла
І не ўкаваў глыбока дол.
Маўчаць гады,
Маўчаць Дзяды.
Хоць ценем буду я сюды.
1987

## УСПОМНЕНАЕ ЦЯПЛО

З самім сабой,
З агнём у печы
Пад вечар
Ціха пасядзець.
Даверыўшы спакою плечы,
Цікаўна печы ў рот глядзець.

Глядзець,
Як полымя глытае
Сукі,
Паленне,
Кругляк і,
Чуць,
Як за шыбай халадае,
Як б'юцца ў дзверы скразнякі.

Дрыжыць за сценкай
Куст рагаты.
Вярнуўшыся з далёкіх год,
Смяецца печ —
Апора хаты —
На ўвесь залатазубы рот.

І наплывае,
Наплывае
Забыты сон
Забытых дзён,
Вяртае
Памяць ветравая
Цябе да чэрствых баразён.

Крадзецца цішыня начная.
Апошні вугалёк датух.
Душу ласкава ахінае
Дух печы,
Продкаў вечны дух...
1987

## У АДКРЫТЫМ КОСМАСЕ

Мама,
Колькі жыла,
Выходзіла ў космас
Цемры, святла,
У космас адкрыты,
Дзе чакалі

Даёнкі, матыкі, карыты,
У космас
Лесу, гарода, саду,
У космас клопату
Пра пагоду, пра ўроду, расаду.
І сам насам з: Сусветам,
Як з тым суседам,
Гутарыла і зябла,
Калі штоначы,
Часам плачучы,
Часам стогнучы,
Не чуючы ні рук, ні спіны,
Вартавала дбала
Карміцельку-яблыньку,
Якая ўцалела з вайны.
Абкладзеная падаткамі,
Нібыта ападкамі,
І яшчэ гусцей,
Яблынька
Яблыкаў чакала восенню
З бояззю,
Як мама гасцей:
Ці ўсім стане
Пачаставацца ?
Трывога чакання —
Таксама праца.
Мама, бывала,
Палахліва драмала
На голай зямлі.
І калі
Яблыньку нехта кранаў,
Яблыкі сыпаліся —
І маму будзілі.
А незабудкі,
Санлівыя непрабудкі,
Глядзелі ўранні з канаў
У наіўным здзіве,
Як пыхлівая, забыўлівая радня.
А маму да пэўнага дня
Бяссонным вартаўніком
Назіркам,

З вока на вока,
Крадком
Пільнаваў лёс,
З усмешкай гледзячы
На гладышы, на ручасцікі, на гарнушкі,
На цёрлы, цабэркі, кадкі,
У якіх і днявалі, і начавалі
Зоркі,
Што намерзліся ў небе да слёз.
І моцна,
Відаць па ўсім,
Бог спаў у садзе сваім,
Бо там нехта яблыні трос,
І густа сыпаліся
Знічкі-ападкі.
Ні разу маму не папрасіў
Стары
Прыгледзець і за ягоным садам.
Няйнакш там яблыні
Раслі галінамі дагары,
Таму на зямлю прасіліся
Зарападам...
Не ведаю, як для самога
Бога,
А для мамы
У космасе адкрытым
Бязважкага не было нічога.
Ўсё здабывалася
Потам, бяссоннем, спрытам,
Усё запрашалася
Ласкаю, ўгаворам, дакорам
У хлеў, у варыўню, ў кубло
З ляхі, з-пад страхі, з поля.
Усё цяжкое, важкое было,
Як доля...
1987

* * *

Гук, украдзены ў маўчання
адчаем нематы,

зрабіўся голасам,
музыкай, зыкам,
выгукам радасці,
водгаласам роспачы.
Як непрыкаяны,
пакутуе гук у свеце,
бо пакрыўджанае маўчанне
не жадае яго забіраць назад
хай лямантуе,
хай расчульваецца —
сам жа спяшаўся
з нямоцця вырвацца.
Я разумею гук, бо сам,
як і кожны з нас,
я — гук таксама,
украдзены нецярпеннем
у знямелае вечнасці.
1987

ЛЁС

Лёс прынёс мяне на базар
І, як пеўня,
Трымае пад пахай.
Хоча збыць свой тавар
Гандляр,
Просіць:
— Ты языком не лахай,
Каб не спудзіліся купцы.
Толькі ўбыткі адны з табою.
Не прадам цябе —
І капцы,
У канцы зарасцеш травою.

— Лёсе мой,
Пацярпі, прашу:
Не збаўляй цану,
Патаргуйся.
Не мяне,
Дык маю душу,

Можа, у вырай паклічуць гусі.
І мяне ў халадах нябёс
Пад крыло сваё
Возьмуць хмары.
Ні купцоў, ні цаны,
Мой лес,
Нам не мець
На зямным базары...
1987

## НАБЕЛА!

У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.
Уладзімір Дубоўка

Беларусь,
Цябе задумаў лес,
Надзяліўшы борам,
А не морам,
Даў дазвол наплакаць
Мора слёз,
Каб узяў тваіх суседзяў сорам.

Беларусь,
Цябе падвысіў лес,
Даў пагоркі,
Абдзяліў гарамі.
Каб сябе высока гнеў узнёс,
Ад якога б ворагі згаралі.

Беларусь,
Цябе прынізіў лес,
Памяць даў,
Што забывае часам
Мову — суразмоўніцу нябёс,
Верачы падзалачоным чашам.

Беларусь,
Цябе прымроіў лёс
Гонцінкаю зорнага падстрэшша,

Каб гісторыя свой везла воз,
На тваіх ухабах парастрэшшы.

Беларусь,
Цябе акрэсліў лёс,
Як развага на чало набегла,
Русь
Ён без чарнавікоў занёс
На скрыжалі
Белую —
Набела!
1987

## НАША МОВА

Думку нашчыш золкімі ўспамінамі,
Сэрца песняй жніўнаю надзеіш,
У вякоў пад цёмнымі ялінамі
Белаю бярэзінкай ніцееш.
1987

* * *

Лебедзь шэры малады.
Пасталее — пабялее
Ад вады,
Ці ад бяды,
Ці ад ранняе завеі,
Што знянацку прыляціць
Сілай гурба-рэактыўнай,
Каб руку пазалаціць
Мору ледзяною грыўняй.

Белы,
Быццам на яго
Чарната турбот не ліпне,
Лебедзь,
Звыклы да ўсяго,
Мыецца ў вясёлым ліўні.

Час націсне на рычаг,
Знойдзе смутку пашырэнне,
Белы лебедзь
На вачах
У нябёсаў пашарэе.
Зноў паўторацца гады,
Як бяда касу ні клепіць,
Лебедзь шэры малады,
Развітальны —
Белы лебедзь.
1987

## ПЕРШАЯ ГОСЦЯ

Грукаецца — чую я —
Госця пешая.
Адчыняю: — Я твая
Старасць першая.

Думаў ад мяне ўцячы
Зайкам шэранькім,
Кідаў у раку ключы
Ды шашэрыўся.

У цяньку наіўных дрэў
Ахалоджваўся,
Спаў салодка, смачна еў,
Прымалоджваўся.

Маладых вачыма пас,
Часам нашчыўся.
Думаў абысці якраз
Злыя пашчы ўсе.

Пашчу немачы, тугі,
Пашчу кволасці.
Ты не першы, не другі
З хітрай воласці.

Я не жонка, што ў журбе

Дружыць з поштаю.
Я і першая ў цябе,
І — апошняя.
1987

ВАЛІ

Тваё дыханне на маім плячы
Журлівае, як веснавое ранне.
Ты памаўчы,
Давер мне, даручы
Не гаварыць нічога пра каханне.

Хай скажуць вочы,
Ім відней, вачам,
Хай скажуць рукі,
Што хмяleюць самі.
Хай скажуць ночы,
Ім цямней, начам,
Кунежыцца з тваімі валасамі.

Хай скажа нам смех праліўны даччын,
Хай нам раскажа даччына слязіна,
Пакуль твой сон з высокіх аблачын
Зляцеў і ты глядзіш яго нявінна.

Хай лепей скажуць радасць, і жуда,
І першая абраза, і спагада,
І нашых сварак быстрая вада,
Што б'ецца не цішэй ад вадаспада.

Канае ноч, і новы дзень гарыць.
Складзем падзяку згодзе і пашане.
Не будзем пра каханне гаварыць,
Паслухаем,
Што скажа нам каханне...
1987

?

Я сніў чужыя гарады
Ці я іх толькі бачыў?
Я сам губляў свае гады
Ці нехта іх растрачваў?

Я сам разменьваў дабрыню
Ці хто займаўся менай?
Я глух, нырнуўшы ў мітусню,
Ці хто ў глушы каменнай?

Мне колькі дадзена майго
Жыцця кумой маною?
Каго спытаць, сябе, таго,
Хто быў таксама мною?
1987

МАРК ШАГАЛ

Жыццё працякала —
І не стараўся
Залапіць гарбаты дах.
Губляў галаву
І не спяшаўся
Яе адшукаць.
Ягоны сусед Макар
Пасвіў цялят
Недзе ў Маркаўшчыне
Ці на Пескавацiку,
А ён пераганяў коз
З Елісейскіх палёў
На Млечны выган.
Козы былі з Віцебска,
Дзе дагэтуль
На глухаватай вуліцы
Чакае яго мураванка
І на падваконні
Гарацць бальзамінкі
Зоркамі малалецтва

У цёплым космасе
Незабытай бацькаўшчыны.
1987

* * *

Калі наведаецца адвячорак
У мой настрой,—
А мой настрой, як сад,
Дзе дрэвам
Цяжкавата без падпорак,
Я адпушчу на волю лістапад.

Калі наведаецца адвячорак
Намацаць сцежку
Для сляпой начы,
Я натрасу,
Як. тых арэхаў зорак,
Табе святло ў паглядзе
Несучы,—

Каб не блукала ты ў былых мясцінах,
Успамінаючы пра тыя дні,
Калі маланка нас употай ксціла,
Калі шапталі ліўню:
— Захіні!
1987

* * *

Туман, як халодная воўна,
Што ноч настрыгае ваўку.
Паверыць жанчыне ўсё роўна,
Як дом збудаваць на пяску.

З той воўны б вязаць рукавіцы,
Дарыць залатому агню,
Каб полымем мог ён узвіцца
І дню апячы далаAню.

Пясок у рачныя лашчыны

Знясе, і растане сцяна.
Ты будзеш чарговы ў жанчыны,—
Як рэчка ў развод дзе, яна,

Што кволы спакой твой змывае,
Мяняючы рэчышчы,— і
Наступны свой бераг прымае,
Дзе сохнуць па ёй салаўі.
1987

* * *

Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
Не разбудзіўшы напаміны,
Ссівеўшы на глухой сяўбе,
Стрываю ўсе абразы, кпіны.
Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
У харашбе,
У варажбе
Усю святую
Да хвіліны
Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
Чаму мне злоесці не стае,
Каб рэзаць там,
Дзе ўкус змяіны,
Кагоravіць?
Усе правіны —
Яны мае, мае, мае!
1987

БУРШТЫНІНКА

Цябе на бераг маёй самоты
прыбой спагады прыбіў
бурштынінкай
Мора якое завеща Лесам
правагаўшыся

ўсё маладое ранне
расшчодрылася
хоць пад вечар
Бурштынінка
кропля смалы спякотнай
у якой пякельна кіпелі
грэшныя думкі
і цераз стагоддзі стагоддзяў
перадаліся
па генетычным кодзе
жадання працягу ў прасцягу
працягу ў шаленстве
у апантанай пяшчоце
у неадумлівым забыцці
Бурштын шліфуецца ласкай
яму адгукліва перадаецца
пакутлівая цеплыня
і золка яму
ад сіверу недаверу
але ўвабраўшы ў сябе
рудую гарачыню сонца
свеціць бурштын
разганяе раўнівую цемру
аблуднай душы
Бурштынінка
чым цябе шліфаваць
чым адагрэць
як адагрэцца душой азяблай
як не заблудзіцца ў цемры
ідучы на тваё святло
Падкажы
1987

## ШТО ЕСЦЬ КАХАННЕ?

Што ёсць каханне?
Бессаромнасць,
Ці сціпласць,
Што не ўздыме воч,
Ці разгаўленне,

Ці скаромнасць,
Ці ў зорках дзень,
Ці ў сонцы ноч?
Ці вечны грэх,
Ці пакаянне,
Ці сум цяжкі,
Ці весялосць?
Пакуль не стоміцца
Пытанне
Пытаць,
Датуль каханне
Ёсць!
1987

* * *

Адчай? Магчыма, што адчай.
Ці стома, як зямля сырая,
Гняце.
Няўжо на самы край
Прыйшло жыццё і зазірае
З абрыву ў жудаснае дно,
Адкуль няма вяртання ўгору.

І сам сабе кажу: «Рыгору!»
І ўспамінаю заадно
Граматыку і клічны склон,
Што з даўніны гукае: «Коню!»

Гады ўцякаюць, я ўдагон
Пускаю познюю пагоню,
Пагоню кайнасці, віны,

Што я ні за панюх табакі
Час змарнаваў.
Са мной адны
Забытай радасці сабакі.
Мае галодныя харты,
Яны згубілі след надзеі.
Вышэе ўсё абрыў круты
І нелюдзее,

Нелюдзее.
1987

## СТРАХ

Мае памылкі і грахі мае,
Рахунак,
Дзе растуць працэнты доўгу.
Я ў дзверы лесу грукаю падоўгу,
І сорамам,
Як варам, абдае
Мяне ўсяго, мая дачка,
Бо ты
Адна ў мяне —
Мой шал,
Мой боль,
Мой нораў,—
Каб толькі злыя духі
З цёмных нораў —
Баюся —
Не знайшлі тваёй вярсты.
1988

## ЧАМУ

Колькі год, як аглухла вайна.
Цішыню не суроч. Памаўчы.
У карабля забыцця
Перапоўніўся жахамі трум.

Дык чаго ж у лясах беларускіх
Пасівелыя крумкачы
Аж дасюль па-нямецку
Пытаюць пра нешта:
—Warum?
1988

* * *

Каго, каму я і чаму
Чакаю, веру і сумую,
Бяду,
Як п'яную куму,
З гасцей вяду
Ў зіму сівую?
Ідзе са мной
Мая бяда
З маімі сумнымі вачыма.
І мне маёй бяды
Шкада,
Са мной бядзе цяплей,
Магчыма.
Даўно ўжо ўкінула лядня
Ілля ў раку,
Радня, як лісце,
Апала,
І на схіле дня
Ўдваіх мы ўрэшце
Засталіся.
1988

* * *

Матчына хата ў змроку дрымотным.
Вокны распятыя.
Голыя сцены.
І правадоў учарнелыя вены
Поўняцца цішай, як токам грымотным.

Зеўраюць,
Быццам азонныя тыя,
Дзіркі,
Прагрызеныя пацукамі.
Шэжыцца памяць калюча цвікамі.
Сохнуць чмялі, як зярняты пустыя.

Як перад новым сусветным патопам
Боскага гневу апошняя дзея,—
Горбіцца скруха.

Душа халадзее.
Пахне з гарода дзядоўнікам,
Кропам.
1988

## У НАДПРЫПЯЦКІМ ЛЕСЕ

Прыпяцкія берагі на шалі пясочныя
Паклалі хвалі аношняе веры.
Чарнобылем,
Як і сосны,
Падсочаныя,
Мы чакаем сваёй сякеры...
1988

## УЦЯКАЧ

Я некалі
Час абагнаць стараўся,
Потым уплеч ісці прыхітраўся.
Адстаў.
Упарты час даганяць загараўся
І стаў.
Даўно мой час
Без мяне ідзе.
Не азірнецца назад
Нідзе.
1988

## СУМ

Сум спачатку засяліў зямлю —
А пасля разбегліся дарогі.
Слова багавейнае л ю б л ю
Папрасіла ў неба дапамогі.

Адлучыў ад цемры светлыню,
Воды аддзяліў ад земнай цвердзі

Бог —
І ўзрадваўся,
І ўпершыню
Сум сябе запомніў сынам смерці.

Ходзіць сум за намі ўсе гады
Маладым апосталам адчаю,
Пазнае здалёк сляды бяды
І надзею хмура прывячае.

Бачыць неба наш дарэмны тлум,
Млечны Шлях зграбае па жарынцы.
Мы адыдзем —
Застанецца сум
На зямлі без нас
Па нас журыцца.
1988

## ШАХТА КАХАННЯ

Першага позірку ўз'юшаны выкрык,
Золаку, зарыва, зор палыханне.
Вочы адводзіць ад кепікаў прыкрых
Блізкае рэха
          шахты кахання.

Першага дотыку саманахабства,
Першай рашучасці самаваганне.
Вабіць спадманліва ў хітрае рабства
Гулкае рэха
          шахты кахання.

Першага выдыху вечнага слова
Замілаванне і заклінанне.
Водзіць упоцемку хмельнагалова
Рэха прыглухлае
          шахты кахання.

Першы лядок працірае завея
З возера крыўды і шкадавання.

Рэха блукае.
Глыбее, глыбее
Шахта кахання,
шахта кахання...__
1988

## ЛІНІЯ РАМЯСТВА

### КРУЖАЛА

Быў я таптан,
Быў я капан,
Быў я на кружале,
Быў і на базары.
Як жыў быў,
Сям'ю карміў,
Як памёр —
Выкінулі вон.
Сабакі касцей не ядуць.
(Ушацкая загадка пра збан)

Зварушыць запавет
Маладзічок быліны.
Ляпіць нанова свет
Прыемна
З цёплай гліны.

Яшчэ святла стае,
Кружала не прыстала.
І формы ўсе свае
Свет набывае стала.

Як Саваоф,
Шэсць дзён
Ганчар тварбой заняты.
Сняць сакавіты сон
Авечкі, казляняты.

І жваку жвуць валы.
І папугай без клеткі.
І свет яшчэ малы
І ўжо вялікі гэткі.

Какосаў чарапы
Прабіла смагі джала.
Адчай яшчэ сляпы

І ўвішнае кружала.

Плыве ахвярны дым
І ў Дэлі, і ў Мадрасе.
І ўсё, нібы ў былым,
І ўсё ў магчымым часе.

## НА ЎСКРАІНЕ ДЭЛІ

Валацугі і жабракі
Грэюцца, як на пяколку,
На парэпанай цвердзі.
Тут папрасіць з рукі.
Тут зябка драмаць на золку.
Тут блізка. да смерці.

Жабракамі на свет усе
Мы прыйшлі, і яго мы
Пакідаема жабракамі.
Паднясе нам ці абнясе
Нас, занядбаных, лес невядомы,
Крыўдзімся, наракаем.

Удякач-небасхіл прылёг
Грэцца ў свеце яшчэ неастылым,
Напамін у ягоным паглядзе:
Мы — ўсяго толькі прах тых ног,
Што прайшлі тут і сталі пылам.
Пыл падымецца, пыл асядзе.

## ПАД'ЯЗДЖАЮЧЫ ДА ГАРЫ

Моліцца небу арба
Пальцамі растапыранымі.
Козы, каровы, дзеці
Разам усе як адна сям'я.
І ўсё разам — нібыта
З ветхага запавету
Забляяла, замычала, заплакала.

Здаецца, людства яшчэ маладое,
І не было ні патопу,
Ні войнаў сусветных,
Ні чарана Чарнобыля.
І вера яшчэ маладая,
Як гэта дзяўчынка,
Што прасявае сняданне праз сіта,
А ў сіта паспеў заляцець
Верабей вясковы.
Але, напэўна, седзячы ў сіце,
Яму захацелася ў горад —
У сіці,
Дзе ўжо чырыкаць будзе:
— Чынч чынч.
А калі яго пыльнуць
Па-гарадскому груба,
Па-вясковаму пацікавіцца:
— Чым-чым?
Чым яго пыльнулі,
Чым ён правініўся.

Хлеб-соль табе, раніца —
Вясковая старанніца!

## РЫКШЫ

Пяць тысяч босых рыкш
Шаруюць дол Калькуты.
Тут глухне крык і рык,
Шалее рух абуты.

Тут неба выбракоў-
вае людскія лёсы.
Не злічыш жабракоў,
Свае ў калек пракосы.

Тут, дзе ў пустой пасьбе
Вальней святым каровам,
След глянуць на сябе
Нам, быццам бы здаровым.

Мы — рыкшы, валачом
Сябе ж саміх,
Стадола
Жыцця з яго планом
Паўторыцца стодола.

Нам тут адчуць з рукі
Нябёс высокіх здзекі,
Бо ў лесу жабракі,
Мы, рыкшы і калекі.

## СВЯТАЯ КАРОВА

Я чуў даўно пра святых кароў.
І мне, нарэшце, святая сустрэлася.
Ці, можа, не грэла старая кроў,
На сонцы вострымі рэбрамі грэлася.

Святая —
Духам святым жыве
Без гаспадара, без догляду.
Пастаўкі дзяржаве ёй не ў галаве,
І вольна ходзіць такою дохляю.

Парой пра яе ўспамінае Бог
І нешта ёй пасылае ласае —
Траву маладую, амаль мурог,
Каб зласавала падласая.

Ідзе па праспекце, як па расе,
Не хвалююць яе святлафоры пагаслыя.

І ў нас каровы лічы што ўсе
Святыя,
А іх называюць калгаснымі.

## СПРАДВЕКУ

Напэўна, няма ў тым драмы,
Здзіўляцца няма чаму.
Хто ў крамы ідзе,
Хто ў храмы,
І моляцца хто каму.
Адзін — іконе,
Другі — Мамоне,
Хто Хрысту,
Хто Будзе.
Так было, так будзе.

Так ёсць і сёння.

## ПРЫСМЕРКІ

Дзень адгалёкаў, адхадзіў, адтупаў,
Адхлехатаў у мене і ў мане.
Пільнуючыся сцежачак і ўступаў,
Ступаюць ступы[1], і на шыі ступаў
Званочкі звоняць мякка ў тумане.
(А так, у засені паўдзён праспаўшы,
Вярталіся дамоў каровы з пашы.
Лысоню пераняць заданне мне!..)

Ідуць сабе ўгару
За ступай ступа.
Званочкі ўрочлівыя звоняць скупа,
Абы не заблукаліся ўначы,
Да Бога ў Гімалаі ідучы.
1988

## БЕЗ ВАС

Мае стрыгнаткі, кнігаўкі, буслы,
Трыпутнікі, міжыпарніцы, цьмяны,

[1] Ступа (санскр.) — храм.

Алешыны, бярэзіны, ляшчыны,
Вугры, чырванапёркі, курмялі,
Мае сабакі, качары, валы,
Балацявіны, нерушы, паляны,—
Няма вас,
Адплылі, як аблачыны.
Дазвольце затрымацца на зямлі
Мне...
1988

## МАЛІТВА НАСТУПНАСЦІ

Хай свеціцца імя Тваё,
Беларусь,
У стронцыі, цэзіі, ліціі!
Як і ва ўсе вякі,
Душу быць ласкавай змусь,
Дазволь слязам,
Ужо радыеактыўным,
Ліцца.

Хай свяціцца імя Тваё,
У палыновым вянку
Гаратніца.
Хай цвіце твой дзядоўнік
Калючы, таму што безабаронны.
У цябе на слыху перагукваюцца
*Радыяцыя і Радаўніца.*
Чакаючы ў гнёзды буслоў,
Дагніваюць на ліпах бароны.

Хай свяціцца імя Тваё,
Маці Сумная!
Хмару радыеактыўную
Хусцінай ад Бога
Ты на самыя вочы насунула —
Не чуеш, не бачыш
Нічога.
1988

## СКУЛЬ?

На прывіды гор
І на прысак нізін
Гляджу
І дагэтуль не разбяруся —
Скуль будзе вяртацца
Блудны сын
На сумны парог Беларусі?
1988

## НЯБЁСЫ ЗЯМЛІ

Абнашчыся смуткам,
Вандроўнік,
Сцяжыны сваёй не крыві.
Святлом выкругляецца поўнік,
Узводзіцца лёс на крыві.

У лесе тым
Шыбы з блакіту,
А сцены з надзеі слабой,
Што вернуцца сцені з нябыту,
Душа застанецца сабой.

Даверыцца ветру вягроўнік,
Астудзіць аер мазалі.
Смугой прычасціся,
Вандроўнік,
Па хмарах
Ідзі на зямлі.
1989

* * *

Лёс да кожнага прыходзіць босы,
Як Хрыстос,
Каб бядзілі кожнага турботы,
Як абуць свой лёс у лапці, ў боты.
А яму не занасіць калёсы:

Боссю — каб нячутна! —
Ходзіць лёс.

Ты, нявольнік, вольны выбраць путы,
Пасталы змяніць на кірзачы,
Грукай збітым, як парог, абцасам,
Смелы і ў руцэ з кавалкам ласым,
Помні заўсягды пра лёс разуты,
Ногі босаму не адтапчы!
1989

* * *

У кастрычніцкае ранне
Светла стане.
Адміранне, дагаранне,
Развітанне
У апошні раз сышліся
Пры раздзеле.
Сціхлы дол, глухія высі
Парудзелі.
Адшумелі звон і тлумаць,
Дзякуй Богу.
І самому трэба думаць
Пра дарогу.
1989

* * *

А напачатку далёка да меж,
А напачатку дарога шырокая,
Дзень твой і век —
Маладою сарокаю:
Белага болей,
Чорнага менш.

А напачатку далёкі канец,
А напачатку дарога бясконцая,
А на світанні
Ні смогу,
Ні стронцыю,

І не разліты на кулі свінец.

А на змярканні гусцее сыта,
Дзень сваё ўбранне пераніцоўвае:
Досвітак шэры і хмары свінцовыя
І чарната,
Чарната,
Чарната.

Доўжыцца цень,
Карацее вярста.
Пасека ў роздуме,
Гай у куродыме.
І, асланяючы далечы родныя,
Толькі сарока
Бялее з куста...
1989

* * *

Слоў не хочацца кідаць на ўзвей-
вецер,
Як гаварыла мама.
Я туман прашу: не сівей,
Бо сівею з табой таксама.

Дня кароткага хітры зман
Непрыкметны ў сваім старанні.

Пасівею ўвесь,
Як туман,
І таксама растану ўранні.
1989

* * *

І свая ўзважанасць у глыжа,
Сарамлівасць — у апранахі.
І свая ў гэтым свеце мяжа,
Над якой апякуюцца страхі.

Страх рухавы і страх ляны,
Страх абразы і страх пашаны,
Страх нязгоды і страх віны
Пераблытаны, перамяшаны.

І свая прыгажосць у смаўжа,
І свая зграбнасць у чарапахі,
І свая немата у крыжа,
І свая міласэрнасць у плахі...
1989

* * *

Ссыпаецца змрок з латака
Калюча-калюча.
Зрываецца яблык з сука
Балюча-балюча.
Далека шуміць асака
Сырая-сырая.
Зрываецца яблык з сука.
Сябе да яго прымяраю...
1989

## ЯНА І ТЫ

Веяцьме час малады ў старбе
Кожную хвілю праз сітца.
Старасць здзяцініцца —
І да цябе
Будзе на ўлонні прасіцца.
Ты, як унучку капрызную дзед,
Возьмеш на рукі назолу.
Будзе расці яна
І неўпрыкмет
Гнуць цябе долу і долу.

Сіліцца будзе,
Каб скручыўся ў крук.
Як запярэчыш малечы?
Будзе смялець і нахабнець —

І з рук
Перабярэцца на плечы.

Не абхітрыць яе
І сатана.
Бач, з-за спіны выглядае.
Ты ацішэў, астарэў,
А яна
Дзеўчыцца, бо маладая!
1989

## ДВА

Ушацкі селянін жыве ўва мне,
І падсяліўся гараджанін мінскі.
Спрачаюцца,
Ядуць з адное міскі
І нават бачаць ісціну на дне.

Сябе ў сваёй не чуюць гамане,
Бы двух люлялі розныя калыскі.
І кожны сам сабе бывае блізкі
І зразумелы толькі ў даўнім сне.
1989

## ЛЯШЧЫНА ЖЫЦЦЯ

На трывалай ляшчыне жыцця
У турботлівым шуме лісця
Наліваецца сілай ядро
І трывалае духам нутро.
І звыкаецца да нематы,
Бо галлё пакідаюць браты,
Ападаюць гаротна на дол
Глухавечнасці ў ціхі прыпол.
Бліскавіца адчаю арэх
Правярае на святасць,
На грэх...
1989

* * *

Певень першы раз прапяяў,
Змрок параніўся злосцю дзідаў.
Ты спрыяў праяве з праяў,
Ты свайго Каліноўскага выдаў.

І другі раз голас надаў
Певень,
Золаку моцы стала.
Утаропіўся лёс-удаў,
Не ўбярог ты свайго Купалу.

Пракрычаў певень трэці раз,
Забалела святлу на ўсходзе:
Голас твой нематой захрас,
Ты адрокся ад мовы,
Народзе.

Здзірванелі скрыл і араллі,
Разагнуўся загнуты полаз.
Ці ўваскрэснеш духам калі,
Ці прыпомніш,
Які быў твой голас?
1989

## ХТО КАГО ПАКІДАЎ?

Трымаючы мацней авоську,
Сабе гаворыць, як у сне,
Дзядок:
— Не я пакінуў вёску,
Яна пакінула мяне.

Яна ўцякла за тыя межы,
Што трактар знёс за небакрай,
За тыя сіласныя вежы,
Дзе рай вяшчаў
Варонні грай.

Усіх пакінула за тое,

Што ўсе зняважылі яе.
А пад жалезнаю пятою,
Як пад магільнаю плітою,
Трава ў абразе не ўстае.

Спалілі смаляныя лавы,
Што ўсіх трымалі ля жытла.

«Сыходзіш, вёска,з яснай явы»,—
Сказаў Купала.
І сышла...
1989

## ПРАДЧУВАННЕ ВЯСНЫ

Бяроза голая, як ісціна,
Ды сок прачнуўся пад карой,
Шукаючы вясёла выйсця на
Прасцяг,
Святлейшы за настрой.

І сакавік халоднай глоткаю
Уранні з конаўкі глыне —
Аж у бярозы па спіне
Мурашкі пабягуць
Салодкія...
1989

## УШАЦКІЯ ПРЫСМЕРКІ

У зябкае неба сачу з-пад рукі,
І матчына хата пільнуе з-пад даху,
Калі яна выпусціць зор каташкі,
Галінка вярбовая
Млечнага Шляху.
1989

MEMENTO!

Глядзі на старасць
І прымірайся
На гэтым свеце
Жыць ва ўспаміне.
Глядзі на старасць
І прымярайся
Апошняй кропляй
Дрыжэць на галіне.
1989

* * *

Я цяпер падабаюся дзвюм,
Кожны дзень уцякаю ад дзвюх,
Гэтых дзвюх унікае мой сум,
Гэтых дзвюх унікае мой дух.

На сябе ў люстэрка зірну,
Каб пачуць ад гадоў прысуд —
Бачу перад сабой адну,
А другая шэпча: «Я тут».

Кладку знесла з вадой вясна,
Каб не змог ад дзвюх уцячы.
Старасцю завецца адна,
А другая —
З іржавай касой на плячы.

Называць яе не хачу.
Я маўчу.
Я маўчу.
Я маўчу.
1989

* * *

Звыкаюся слухаць глухую стому,
Смялей каляндар пачынае гартацца.
Здаецца, учора я выйшаў з дому,

А ўжо дадому пара вяртацца.

Мае трывогі, мае дарогі
Парастрасала, паразмывала,
Прымлелі рукі, прысталі ногі,
Хацеў багата, а маю мала.

Пусціў на вецер свае дукаты,
Набыў сумненне, набіў аскому.
Здаецца, ўчора я выйшаў з хаты,
А ўжо вяртацца пара дадому.

Туды, дадому, дзе лугавіна
Улетку цёплая, як палаці,
Дзе долу кланяецца дамавіна.
Там мама сустрэне ў вечнае хаце.
1989

## РАЗВІТВАННЕ

З Ваўчэнскім возерам апошні раз
Была.
Вязала качачку з аеру
І на ваду пускала.
Вечар гас.
Ваўчо — насупраць вёска —
На вячэру
Збіралася збіраць усіх сваіх
З узлескаў, з гоняў,
З пашы, з лугавіны.
Бруёк, як ціхі ўсхліп,
Памалу ціх.
Вязалі рукі бабы Акуліны,
Каб бачыла
Унучачка, калі
З аеру качка сцішыцца ў аеры.
Яна плыла далей,
І, даўшы веры,
Жывыя качкі ўслед за ёй плылі...

Калі ў Ваўчы засклыгае асвер,
З вядра ваду расплíхаўшы нядбала,
На возеры Ваўчэнскім
І цяпер,
Здаецца, той усё шуміць аер,
З якога мама качачку вязала.
1989

* * *

А лясныя галубы
У гарады пераляцелі.
Ці яны перахацелі
Сесці-пасці на дубы?

Ці не стала ўжо куды
Лётаць у гарох, у шкоду?
Ці дубовую калоду
З'еў зімой агонь худы?

Гарадскімі галубы
Сталі.
І галубяняты
На гарышчах інтэрнаты
Маюць.
Выскублі чубы
Галубам клапоты дня.
І крылатыя сяляне
Тужаць па сваёй паляне,
Дзе дзічэла ўся радня.

Рассялянены яны —
Разгалублены.
Галубка
Тупае па гзымсе цупка,
Забывае дол лясны.
1989

* * *

*Радзіславу Лапушыну*

І чысціня і глыбіня
Павінны мець душу і вочы,
Каб крыўдаў выслеплых гайня
Сурочыць не магла аднойчы.

Каб зло ў душу не запаўзло,
Каб позірк зайздрасць не прыцьміла,
Каб хцівасць не звіла кубло,
Каб чорная знічэла сіла,

Здрабнела перад дабрынёй,
Перад пяшчотай спалатнела.
Каб над душой чужой раднёй
Разгубленасць не груганела.

Нябёс амытых вышыня
Над імі вечнымі дваімі.
І чысціня і глыбіня
З вачыма і душой тваімі.
1989

## БРЫТВА

Брытва —
Ранішняя малітва.

Ты зараслага думкамі голіш
І Бога моліш,
Каб, зараслы за дзень, гаспадар
Вярнуўся дамоў на вячэру,
Каб ягонага не ўбачыць ашчэру.

Ты не бываеш ленаю
Занесеная над венаю.

І дамавіна
Рупнасць тваю ацаніць павінна.

У немасці сценаў
Дазваляеш багаславіцца.
Над сіняю пушчай
Венаў
Белая бліскавіца...
1989

## БУЛЬБЯНАЯ БАЛАДА

*Ігару Шклярэўскаму*

Гаспадыня стала,
Багіня,
Беларуска ружовашчокая.
Над катлом німб гарачы гіне,
Рупіць німбу расплыцца аблокамі.

Гэта з пары над бульбай
Хмары
Над планетай бульбападобнаю.
Непадробная ў неба на твары
І сляза, як бульбінка дробная.

З бульбай хрэсьбіны,і Каляды,
І Дзяды з паганскаю кульбаю,
І адведкі, і тыя нарады,
Дзе прамоўцы трывалыя бульбаю.

У прысмакаў слабая спакуса.
Пахнуць бульбаю нашыя хронікі.
Маннай з неба кармі беларуса,
Ляжа спаць —
Сняцца клёцкі, дзяронікі.

Бульба з намі ідзе вякамі,
Бульба тоўчаная, цалкамі,
Бульба параная, бульба вараная,
І нішчымная, і засквараная.
Бульбай посцім і разгаўляемся,
З бульбы выгнанай пахмяляемся.

Мы на бульбу не наракалі,
Бульбу есці звыкаліся ўсякую
З селядцом, з грыбамі, з гуркамі,
З поліўкай, з кісялём, з верашчакаю,
З сырапеняю, з канцэнтратамі,
І астатнім часам — з нітратамі!

Смачна елася з макам і з такам,
Ды нітратамі перасычаная,
Развіталася бульба са смакам,
Як у злога суседа пазычаная.
Бульба годнасць губляе фамільную,
Бушлаватая робіцца мыльнаю.

Да ўсяго звыкаем памалу,
Аж не верым, што родам з Амерыкі
Бульба.
Думаем, ад крухмалу
Мы не гнемся, як і каўнерыкі!
Мы — бульбянікі,
Не абраза
Гэта фраза.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Апошняю кропкаю
У канцы жыццёвага сказа
Стане некалі бульба сопкая...
1989

* * *

Вырак ног абыякава босых.
Марны ўздых у глухім палыне.
Послух шляху ахвярнага —
Посах
Горкі пыл аддае меліне.

Як апірышча мары і веры,
Ўсе шляхі абышоўшы ў жыцці,
Посах грукне ў нябесныя дзверы,
Ціха ў хату збаіцца зайсці.
1989

* * *

Рад бы ў рай,
Ды грахі не пускаюць —
Помню гэтую ўсмешку змалі.
А цяпер думаю,
Што трымаюць
Нас грахі як даўжэй на зямлі.

Бо з вязанкай грахоў за плячыма
Цяжка ў райскую браму ўвайсці
І з плячэй скінуць груз немагчыма.
Вось і носімся з ім па жыцці.
1989

## СВЯТЫЯ ГРЭШНІКІ

Гаварылі часта ў нас:
— Пасядзім, пабудзем,
Гэты раз не кожны раз,
Дзе мы потым будзем...

Сніўся кожнаму свой сон,
Часта паўтаралі:
— Гэтых дзён не кожны дзён.
І па чарцы бралі.

І нізаліся званчэй
Словы, як каралі.
У радні маёй з вачэй
Слёзы смутак кралі.

І збіралася радня,
Што кара літыя.
Смех кавалі, як каня,
Грэшнікі святыя.

Тут усё было з рукі.
Уцалець бы шыбам.
Рагаталі землякі —
Аж яліны дыбам.

Дзе цяпер разы і дні
Землякі забралі.
Развязаліся радні
Сумныя каралі.
1989

* * *

У жыцці сваім местачковым,
У малечым сваім жыцці
Я не верыў набожна словам,
Дужа іх не стараўся пасці.

А былі канкрэтныя словы,
Як дзядоўнік, як паплавы,
Як аблокі і як каровы,
Па якіх тужылі хлявы.

Я, не вывараны ў варунках
У жыццёвых,
Любіў святло.
Мне на здымках
І на малюнках
Прыгажэйшае ўсё было.

Толькі ў рэчцы жыццёвай
Лункі
Час прабіў,
Каб дыхнула тхло.
І на здымкі,
І на малюнкі
Пераходзіць усё пачало.

Заяц шустры, конь ціхагаловы,
Верацяно, памяло .
Моўчкі папераходзілі ў словы,
Быццам іх зусім не было.

Роўнай робіцца сцежка крывая,
Просіць ушанаваць пехатой.

Слова ўпірыстае трывае,
І са здымкаў усё ажывае —
Толькі пах,
Толькі смак не той.
1989

## МАМЕ НА ВАСЬМІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

Ты стала зямлёй,
А твае гады
Ідуць без цябе па зямлі.
Ідуць гады,
А твае сляды
З зямлі халады змялі.

Ідуць з маімі твае гады.
Дзе твае, дзе мае?
Калі
Замоўкнуць,
Прыстануць гады ад хады.

Не дазнаемся, як ні малі
Усявышняга —
Ён малады заўсягды
І стары, як скрыль аралі.

Жыву, каб чуць, як твае гады
З маімі ідуць па зямлі.
1989

## МАЛІТВА

Я ў свеце настолькі адзін,
Я ў свеце настолькі маленькі,
Што памяці сцёртай каленькі
Збіваю,
Паўзу ў напамін,

Каб Бог не забыўся мяне,

Ды я перад Богам маленькі,
Мае Ён не ўчуе маленні
І нават уніз не зірне.

Як спусціцца Бог на зямлю,
Дык я, перад небам маленькі,
Даткнуся да лёгкай кавенькі
І крыўды на попел спалю.
1989

* * *

Паслі мяне
Бяда і шчасце
Ў чатыры вокі.
Пашлі мне
З раніцай прычасце,
Ўладар высокі!
Пасля мяне
Якое масці
Твае аблокі
Захочуць ліўнямі
Апасці
На сон далёкі?
1989

ВІШШО

Я на бярэзіне вішу.
— Шумі, шумі,—
Шапчу вішшу —
Гнуткаму, прудкаму,
Увішнаму голлю.
У бярэзіны
Зялёныя хрэсьбіны.
А зімой
Ёй самой
Стаяць у ваколлі
Голлю,
Так бялець,

Што аж снегу будзе балець,
Бо сустрэне зіма
Небам, золлю.
А пакуль няма
Вятроў-завейнікаў,
Што перапаўзуць мяжу,
З вішша навяжу
Бухматых венікаў.
Венік схвошчацца,
Зробіцца гальнём.
Заскача смех па дошчачцы.
— З агнём гульнём,—
Прапануе печы
Вымесці под.
Певень па-хлапечы
Ускочыць на плот.
Аж коміну-недарэку
Захочацца зацягнуць
Дымнае ку-ка-рэ-ку.
— Ой, белая бярэзіна,
Баліць мая сярэдзіна,—
Пажаліцда з песні жняя.
— Я ж не я,
Я ж не я,
Бярэзіна песні адкажа.
Белае чорным
Зробіць сажа.
У белай бярэзіны
Зябкія пярэзімы...
1989

## АСІМЕТРЫЧЫАЕ

Лісце густое.
Сытыя гронкі.
Восень шчодрая на скразнякі.
Двух берагоў шурпатыя тронкі
Прыцьмілі лязо ракі.
Сівярэе змрок туманковы,
Густы — не паварушыць.

Лісце вераб'ёў гаманкое
Дрыжыць і жыгае:
Жыць-жыць!

Восень галутай.
Лісце як госці.
Толькі трымалася
Вера б і
Не абляталі з рабіны мілосці
Слоў маіх вераб'і.
1989

ТАМ

Там плот
Кожным моцным калом
Смяецца сабе рэдказуба,
І ў пеўня разяўлена дзюба,
Салома заснула кулём.
Там белаю дзеўкай смятана,
Там прыпечак мама змятае
Крылом
Вогнекрылага пеўня.
Бурчыць сырапеня
У цёрле,
А ў горле
Шпака
Рагоча гарошына.
Анёл,
Што запрошаны
Усім сялом,
Змятае нябачным крылом
З бальшака
Спакусы жарству.

Там — я жыву...
1989

## ЗА СЛОВАМ БЫКАВА ІДУ!

Чытаю Быкава
І зноў
Вяртаюся ў краіну сноў,
У старану маю лясную,
Якую,
Покуль я існую,
Люблю ў затуле туманоў,
Ёй плачу, бачу, ёй блазную.

Завецца ўшацкай старана,
Там Селішчы і Старына,
Бычкі, і Дольцы, і Гарані,
І Чарапоўшчына,
І ўранні
Лубее ў елкі карына,
І каня нікне ў дакаранні.

Ашчадны быкаўскі радок
Як непрытомлены хадок
Вядзе на топішча,
На ляды,
На Посніцу, Дзяды, Каляды.
І рада, ўчуўшы халадок,
Душа, сабе не даўшы рады.

З раўка бярэ разгон рака,
З рыўка вітае ўзмах
Рука
Абнылае крыло самоты.
Пачуеш з даўніны самоты
Папрок шпака
І крок грака,
Напоўніш золлю смутку соты.

Узмежкам, палазнёй, лядком
За словам быкаўскім,
Радком,
Не ўзяўшы ў павадыркі стому,
Іду,

Вяртаюся дадому,
Што выціраў слязу крадком,
Не пахваліўшыся нікому.
1989

## СІНІ СОН

Авечак душныя каралі
У гор на шорсткай гарлавіне
У сне вятры перабіралі
І снілі сон свой
Сіні-сіні.

Сон сіні снілі
Пастаралі,
Што заблудзіліся ў даліне,
І рэчкі сінія,
Што бралі
Разбег збялелы на вяршыні.

Нібы ружанец на Каране,
Ляжалі ў гор на гарлавіне
Авечак душныя каралі,
Аблудныя дакор лавілі.

Прызналі свой захмарны выган
Авечак душныя каралі,
І кожны паварот і выгін
Рачулак шыі паўтаралі.

Авечак душныя каралі
Вятры перабіралі смела.
Сінечу ў неба горы кралі,
І ціха сон-трава сінела...
1989

* * *

Беларусы —
Славянскай сям'і ізгоі

Па планеце паразбрыліся,
Папалілі свае караблі ўсе,
Як вяртацца назад?
Благое
На сябе нагаворваюць самі.
Абязмовілі —
Немтурамі
За чужымі лясамі, га рам і
Сум, як сена,
Вязуць вазамі.

А хапок таго сена
Хмарка
Возьме
Дый прынясе на Радзіму —
І затужыцца пілігрыму,
І ўсміхнецца
У пекле Марка.
1989

ПАГАСЦІНЫ

Я ў гасцях,
Ён бліжэй штогод,
Дзень, калі я надзею маю
Зноў сустрэць, як некалі,
Маму:
З вуліцы пабягу ў гарод.

Мне штогод у гасцях саладзей
Мёд цягнуць і хмялець паволі,
І тужыць па згубленай волі,
І раднець да чужых людзей.

Прывяла мама ў госці мяне,
Не сказала, калі дадому
Мне вяртацца будзе самому,
Прысмеркам ці як ноч міне.

У гасцях я, нібы ў бары

З сураежкамі, баравікамі,
Не спяшацца дамоў прывыкаю,
Хоць вялікі дзень на двары.

Дні гатоў аддаць у расцяг,
Ды ў абрыў назірае строма.
Ці спаткаемся там, як дома,
Невядома мне тут,
У гасцях.
1989

* * *

І раптам прыходзіць канец
І кажа:
— Пара! Запыніся!
Ты ўвесь заінеў, як сівец,
Што любіць туліцца панізе
Вясёлай даліны жыцця,
Дзе косяць траву маладую.
І сам сябе да забыцця
Шкадую, шкадую, шкадую.
І веру сваёй жа мане,
Выкручваюся па-вужачы:
Не дойдзе каса да мяне
І нойдзе на камень ляжачы.
Не звыкшы нікога вініць,
Пракос незакончаны скосіць,
Халодна каса зазвініць —
І скосіць...
І не загалосіць...
1989

* * *

Можа, не трэба было,
Можа, не трэба, можа...
Толькі наслаў святло
Ты, літасцівы Божа,
Каб сасляпіла мяне

Грэшнаю спёкай цела,
Думаў, што абміне,
Толькі не праляцела
Міма тое крыло,
Што асланяе гожа.
Значыць, наслаў святло
Ты недарэмна, Божа!
1989

* * *

Я выдумаў цябе, ці ёсць
Ты сапраўды на гэтым свеце,
Як ёсць адчай, як ёсць мілосць,
Як ёсць спякота ў кожным леце.

Калі не выдумаў,
Тады
Чаму цябе няма са мною
Ля абначэлай чарады
Пад аблачынай праліўною.

Ля абначэлай чарады
Маіх гадоў, што засталіся
Шукаць забытыя гады
На доле і ў нябеснай высі.

Пад аблачынай праліўной
Маёй гаркоты і маркоты
Па той адной, па той адной,
Якую ведаеш даўно ты.

Табой назвалася яна.
Чыя мана?
Чыя віна?
1989

* * *

Загон сваіх дужых дзён
Сярпом разгубленым дажынаю.
Мая саломіна аржаная,
Ты казытнула мой сон.

У прыцемак пад страху
Чакання ластаўка залятае.
Мая саломінка залатая,
Прашу, падрыжы крыху.

Дням незатульна ў капе.
Іржышча зябка раса ўпікае.
Мая саломінка хрупаткая,
Хапаюся за цябе...
1989

## ЯК У КАЗЦЫ

Казка робіцца явай сёння:
Бабка любая ў зоне,
Тупаць не захацеўшы пехаць,
Можна ў госці ехаць
На печы,
Можна ў космас ляцець
На печы,
Як на ракеце,
І гасцяваць у Сусвеце,
Покуль здароўе трывае.
Бо ад Перуна ў сакрэце
Паліць печку сваю
Радыеактыўнымі дрывамі.
А дзеці і ўнукі
Лахі пад пахі —
І папкі —
І абтрэслі рукі
Ад радыеактыўнай бабкі.
А бабка
Радыё слухае,
Як яно лье з паслугаю

На патэльні маны
Я лей,
Дзе пякуцца абяцанак бліны.
Бабка жыве, як у казцы:
Чым далей, тым страшней.
І яшчэ даплочваюць бабцы
Трыццаць такіх нявінных
Рублёў дамавінных...
1990

СВАЯЧКІ

Аплываюць у свечак пальцы
У бяспалую куксу апалую.
Свечкі, ўдзячныя цемраборцу агню,
Хацелі годна
Подых ягоны
Узвысіць у чысціню
Пальцамі голымі,
Але нашча згарэлі ў полымі.
Свечкі —
Сваячкі святла
У бажбе
Самі спальваюць сябе
Датла.
1990

* * *

Ашчэрыцца паспееш, лёх,
Не размярзай, зямля сырая!
А недзе ўжо на небе
Бог
На свой гадзіннік пазірае.

Не мог, не змог, не дапамог...
Я пастаяў ля небакраю.
А недзе ўжо нервова
Бог
На свой гадзіннік пазірае.

На цень мой водцень смутку лёг.
Я адганяю злую зграю.
А недзе, мне здаецца,
Бог
На свой гадзіннік пазірае.

А мне б у торбу ўзяць пірог
І аж да веснавога граю
Ісці,
Каб стаць на свой парог,
Нібыта на прыступак раю,
Паспець,
Пакуль ласкавы Бог
На свой гадзіннік пазірае.
1990

* * *

Думаеш часта, сустрэнешся там
З тымі, каго табе тут не хапае.
Гэта зямная надзея сляпая
Перадаецца апошнім гадам.

Там ад душы пагаворыць душа
З душамі тымі,
Бо тут як нямая.
Гэта спадзеўка адчай сунімае.
Ходзіць сухімі імхамі імша.

Ды забываешся, вязень пакут,
Вораг,
Магчыма, ўжо болей не люты,
Там напаткае цябе,
І таму ты
Просіш, каб лёс затрымаў цябе
Тут.
1990

АПАКАЛІПСІС

Бог пройдзе басанож Нябесным Поплавам,
Пярун прытоіцца за хмарным тынам.
Планета галаву пасыпле попелам
Радыеактыўным...
1990

* * *

Якому зерню лепш, што прарасло
Ці непаросламу сляпому тому,
Што, не зазнаўшы намаганняў стому,
Ператварылася маўкліва ў тло?

І зерне, што дапала да святла,
З гарачай далані, з катла, стала
У цемру вернецца, каб стацца глебай.

Жыві, жывы, глухой зямлёй не грэбуй,
Малі, каб зернем да сябе ўзяла.
1990

* * *

Жыву я
Ці толькі шукаю свой след,
Што збег утрапёна.
Адзін я, як і Сусвет —
Мой сусед.
І мне і сусед у сцюдзёна.
Я — толькі тая кропля цяпла,
Што вые, што вочы мае,
Якую нябыту на тлум аддала
Вячніна няўмольна глухая.

Ніхто не прыгорне і не прыхіне.
Па звычцы ад продкаў шчырую.
Сырая зямля не сагрэе мяне,
І я не сагрэю сырую...
1990

* * *

Жыццё, як базар,
Дзе заўсёды
Два дурні не прыйдуць да згоды,
Адзін з іх просіць багата,
Другі дае малавата.
Таргуецца ўсё чалавецтва,
І торг гэты рухам завецца.
1990

* * *

Цераз капрызлівую раку
Кладкай трывалай самаю
Доля вяла мяне за руку
Зажуранай мамаю.

Я назалеўся на скразняку.
Неба мне сны растлумачыла.
Доля дала мне кій у руку
Нязлою мачахай.

Я нагарбеўся на цаліку
Над кожнай соткаю.
Доля мне падала руку
Спагадлівай цёткаю.

А недзе ж лётаў яшчэ херувім,
Быў бацькам сам Усявышні.
Ды першы мой дзякуй
Ім траім,
Што пераняць мяне выйшлі.
1990

ЛЯВОН БАРАЗНА

Лявон Баразна,
Як грыбы грыбнік,
Збіраў беларускія ўзоры, строі.
Цягнуў адзін, бо быў караннік,

Знаходак воз у добрым настроі.

Лявон Баразна
Маляваў старых,
Бо адчуваў, што ніколі
Старым не будзе, і кожны штрых
Жыў на палотнах ягоных
На волі.

Лявон Баразна
Піў чарку да дна
З паненкамі на закуску,
Рабіў дацямна,
Любіў давідна
Па-беларуску!

Захавала Лявонава баразна
След босы Скарынаў,
Крыўда ва ўсіх на Лявона
Адна,
Што рана
Сваю Беларусь пакінуў.
1990

## СЕЛЬСКІЯ ІНТЭЛІГЕНТЫ

Парадзелі, як і лясы,
Сельскія інтэлігенты
Вінцукі, Дамэнты, Тарэнты.

Ад дажджоў, сівяроў, ад расы
Вылінялі капелюшы,
Аблавушкі, плашчы і твары.

Не аглухлі іх душы ў глушы,
Не ўдзічэлі вачэй абшары,
Дзе цвітуць яшчэ васількі,
Не ўрачоныя брудам і цудам.

Важка рухаюцца камлюкі,

Абчасаныя клопату склюдам,
Абшарпаныя сквапнай бядой,
Як і партфелі іхнія,
Інтэлігенты.

На пражытак хапае рэнты
З сотак, з лесу, з каровы худой.

Да аблочыстага Кастуся,
Да прарочыстага Максіма
Дацягнуцца амаль магчыма.
Ды вішчыць у хляўку парася,

Ды сквірчыць саланіны пчсок
На пузатай патэльні ўранні.
Пот і слёзы, світанне-змярканне
Паглынае штодзённы пясок...
1990

* * *

А цяпер мне і падумаць дзіка,
Што цябе калісьці не было,—
Добры дзень,
Унучка Дамініка —
Воч маіх апошняе святло.

Радуюся ўсмешцы, плачу, крыку,
Тытулу шаноўнейшаму — дзед.
І малюся: ўнучку Дамініку
І пасля мяне не ўкрыўдзі, свет!

Ланцугу жыцця хапае звенняў
Звычкі навязаць,
Каб не ўцяклі.
Змена прозвішчаў і пакаленняў,
Перамена мейсцаў на зямлі.
1990

ПАСПЕЦЬ

Паспець усё зрабіць і ў час сысці,
Не затрымаўшыся ні на хвіліну,
І ціха легчы ў жаўтапес ці ў гліну,
Такое розніцы, як і ў жыцці:
Ці з голаду глытаць пажадна сліну
Ці смелай лыжкай боўтацца ў гусці.
Хай вока бачыць голую галіну,
А памяць помніць крону ўсю ў лісці
Убачыўшы спакойную даліну,
Брысці, як ціхі човен у трысці.
І глыбіня глыбей сваю пярліну
Спяшаецца схаваць у забыцці,
Каб толькі не было ў жыцці супыну
1990

## ВАРАЖУ НА ВЯЛІКАЙ КІТАЙСКАЙ СЦЯНЕ

### ЖЫВЫ ФАНТАНЧЫК ЛЯ ХАРБІНСКАГА БАЗАРУ

На вуліцы, дзе крамы, крамы, крамы,
Малы жыхар вялікага Кітая,
Не адчуваючы апекі мамы,
Сам самапіску з штонікаў вымае.

І накіроўвае струмок на рэбры
Нагрэтага ўчарнелага рыштока,
Нібы йерогліфы ў гарачым срэбры
Ён адлівае, як сапраўдны дока.

Яго абходзяць рыкшы і хадыкі.
Здаецца, спёка дапякаць прымлела.
Праз тлум, праз гвалт,
Праз штурхатню, праз крыкі
Цурчыць-цурчыць
Жывы фантанчык смела.

### СМАКУЮ ВІНО, ЯКОЕ ЛЮБІЎ ДУ ФУ

*Гао Ману*

Я надгубіў віно,
Якое піў Ду Фу,
І закусіў развараным бамбукам,
Але не ўбачыў дно
І завяршаць страфу
Даверыў вераснёўскім сумным гукам.

Як цёплы сырадой,
Адстоены, густы,
Бялелася віно
У кілішку кволым.
І ўзняўся мой настрой
Да горнае вярсты,
Радок схіліўся перад вечным долам.

Цягнулася сцяна

У дзесяць тысяч лі,
Што звалася Вялікаю сцяною.
Цішэла гамана.
І цеплыня зямлі
Здавалася вядомаю маною.

## ЗАХАПЛЯЮСЯ ВЯЛІКАЙ ПАГАДАЙ ДЗІКІХ ГУСЕЙ

Вялікая пагада дзікіх гусей.
Ці гэта прымоўкла званіца?
З тугі ўпалыней,
Як гара, палысей,
Вяртайся сюды павініцца

За свой недавер да нябёс,
За грахі.
Пачуюць твой шэпт утрапёны
Сем ярусаў
Аж да крылатай страхі,
Злых духаў прагоняць драконы.

Вялікая пагада дзікіх гусей.
А дзе яны,
Радасці гусі?
Адчай назірае часцей і ласей
У вочы здарожанай скрусе.

А скруха свае не мяняе шляхі
І душы трымае ў палоне.
І ўбачыць сляпы, і пачуе глухі,
І небу ўзнясуцца далоні.
Прачнецца на досвітку дождж-хмарасей
І будзе званіцца званіцы.
Вялікая пагада дзікіх гусей
Дазволіць душы прыпыніцца.

## ВАРАЖУ НА ВЯЛІКАЙ КІТАЙСКАЙ СЦЯНЕ

На Вялікай кітайскай сцяне,

Ад самога сябе далёкі,
Ці забыла мяне,
Ці не?
Варажу —
Абрываю аблокі...

## ГЛЕДЗЯЧЫ НА КІТАЙСКУЮ СЦЯНУ

Цела сваё каменнае змяя не кратае,
Прапаўзаючы праз вякі ў спакоі.
Так і рупіць хрыбеткі шурпатыя
Пералічваць прымлелай рукою
Доўга-доўга.

## ГРЭШНЫ,Я ШКАДУЮ ВЕРАБ'Я

Я сумаваў па ўшацкіх вераб'ях,
Я славіў вераб'ёў каля Парыжа.
Ката-птушатніка,
Што сочыць хіжа
За шэрым,
Праганяў, каб пырхнуў птах.
Каб не змаўкаў ягоны чык-чырык.

І гэта ж трэба ехаць вёрст за столькі
Ажно ў Сіань,
Каб бачыць у застоллі,
Як смажаны нябесны працаўнік
Саромеецца голага сябе...

Я, ў думках пераксціўшыся, каштую
І крылца крохкае
І ножку тую,
Што, чую, за душу мяне скрабе.

Прымаю на душу нялёгкі грэх.
Вярнуся я ў Вушачу іншы нейкі,
І на мяне ўзірацца верабейкі
Спалохана

Пачнуць з-пад ціхіх стрэх.

Аднойчы век мой запярэчыць: до!
І вераб'ём душа пакіне цела.
А нехта скажа:
Птушка паляцела
Шукаць сваё няпэўнае гняздо...

## ЖАЎТАЛІСТ МАЙГО РАЗВІТАННЯ

Парушыўшы крохкую цішыню,
Вырваўшыся з нератаў галля,
Жаўталіст прыклаў даланю,
Мацае,
Ці не астыла зямля...
1990

## ПРЫВЫКАЮ

Яна прыліпла да ўспаміна
(І ўжо здаецца залатою),
Як колісь да падэшвы
Гліна,
Расчуленая ўшчэнт слатою.

Густой начы глухая сажа
Чарнелася і нелюдзела.
Мяне тады чакала Саша
З ушацкага райфінаддзела.

На ўзгорку,
Што насупраць пошты,
Ля хаты гліны да адвалу.
Пра хату ўспомніў я навошта?
Ды Саша там кватаравала!

Там гліну я мясіў сярдзіта
І ў хісткай цемры марыў хістка.
І цалавала ў лік крэдыту

Мяне ля хаты фінансістка.

Няраз пасля гаршкі на гліну
Мяняў,
Стаяў над чарапкамі.
Цяпер гляджу ўспаміну ў спіну,
Да дзён мінулых прывыкаю.
1990

## ЧЫМ БАГАТЫ

У краіне жабракоў,
Дужых еднасцю,
Дзеляцца спакон вякоў
Шчодрай беднасцю.

У краіне лайдакоў,
Дружных радасцю,
Дзелядца спакон вякоў
Голазадасцю.

У краіне чарвякоў,
Шчасных вераю,
Дзелядца спакон вякоў
Вечнай цемраю.

Б'ецца, прагне гальщьба
Скварку зласаваць.
І завецца барацьба
Класавай!
1990

* * *

У дзяжы гісторыі вякі
Пакідаюць на завод рашчыну
Нацыі.
І як бы чужакі
Ні хацелі зруйнаваць Айчыну,
Напякуцца ўпарта праснакі
Духу напаміну

І ўспаміну.
Як бы там ні каркал і крукі,
Бацька перадасць акраец сыну,
Бо ў дзяжы гісторыі вякі
Пакідаюць на завод рашчыну.
1990

МАЛЕННЕ ЗА БЕЛАРУСЬ

Божа, пашлі Беларусі
Ласку з Тваімі вачамі,
Сэрцы суцеш у скрусе,
Злітуйся над крывічамі.

Знікнуць, Святы, не дай нам,
Ад рукатворнага жаху,
Верацьмем вечным тайнам
Руху Твайго і шляху.

Божа, вярні дадому
Блудныя душы з выгнання.
Поперак духу злому
Воля гасподняя стане.

Хай беларус беларуса
Будзе любіць як брата
Светлая імем Ісуса
Наша крывіцкая хата

Божа, на ўсіх раздарожжах
Нас ад напасцяў варожых
Твой зберажэ напамін
Амін.

* * *

За святлом да святла прабіцца
З паднявольнае глухаты
Можа толькі
Бягуха крыніца

Ды яшчэ, мама вечная,
Ты.
1991

* * *

Сухотныя крыгі
Канае люты
Варона сухар размочвае
У конскім следзе
След непадкуты
Як непадкутая доля воўчая
А доля воўчая чэзнее, мінее

У прагнай дзяльбе.
І радзее зграя.
Ад но вароны, як чорныя геніі,
Абсяг крыжуюць да небакраю.
1991

ЯК ТРЫВАЕШ?

І як хапае ў цябе дабрыні
І цярпення ўвогуле,
Каб у свае нясканчоныя дні
Чуць столькі хлусні,
Бачыць гэтулькі погані,
Гэтулькі поскудзі?
Як ты трываеш,
Госпадзі?
1991

ПАЭЗІЯ

Паломнічалі мы,
І нас яна сустрэла,
Паэзія турмы,
Паэзія расстрэлаў.

Маўчалі гучна мы
Ў збялеласці крухмалу,
Паэзія турмы
Шырока ўсіх прымала.

Час люта рэзаў нас,
З нас позірку не зводзіў,
А мы — пра рэзананс
Бяскласавых стагоддзяў.

У кожнае сям'і
Знайсціся мусіў вораг.
Мядзведзем па лам'і
Ішоў па целе ворах.

Добраахвотна мы
Ішлі пад сцяг карэлы
Паэзіі турмы,
Паэзіі расстрэлаў.

І ўсе дагэтуль мы
На лініі прыцэлу
Паэзіі турмы,
Паэзіі расстрэлаў.
1991

## СЛУХАЮЧЫ МОРА
(Хваля-паэма)

*Леаніду Дранько-Майсюку*

Мора — чарупіна Бога,
якую ў гуморы Усявышні
прыкладвае да вуха,
каб пачуць, як гудзе
трывога.

Мора — нервовыя шалі,
на якія духі глыбіняў
настрой надвор'я
паклалі.

Мора — глыток акіяна,
яго акіян у маркоце
доўга трымае ў роце
нерассмакавана.

Як камень-лізун карова,
мора языком, ад пяску казытлівым,
бераг ліжа, жмурачыся
белаброва.

Нябеснае мора, і мора зямное.
Глядзі ў адно, каб бачыць другое,
а кожнае з іх па-свойму жыве
гаманою.

Салёна жартуе вясёлае слова:
гора маё, гора — хата, як мора,
а за вугол трэба вон хадзіць
абавязкова.

У песні сваццця ў п'яным гудзе
пусціла сікі на чаравікі,
прыгаворваючы — усё ў моры
будзе.

Работы мора, а рабіць няма каму.
Зямля мора слёз праліла, солі, як долі,
наплакала.

Як на моры без вясла застацца —
аднаму, і толькі гора паўтарае,
як мора, адно — прыслухайся: пра-ца,
пра-ца.

Мама мая маладая
у Задаброцці на камені, які
рэчка Добрыца гладка абгладзіла,
бялізну прызімкам прала. Яшчэ і цяпер
як маладзенькі голас там
халадае:

А як пайду я на сіне мора
Платкі праць,
А як зойдуцца мае ручачкі,
Хоць ты плач.
І прыходзіў рыбак, што зваўся Іванам,
і ручкі грэў губамі гарачымі і
цёплым жупанам.

Мора белае разлівалася гэтак, бывала,
што толькі комін з хваляў тырчэў,
а мору выстыламу было ўсё
мала.
І па хвалях ішла ці плыла, як плотка,
у белым кажусе, у белай хусціне,
лёгкая на ўспаміне, Зімавея —
крамяная цётка.

Мора рунявае ад ганка да далягляду
разлівалася і залівала, буяючы,
сцежкі стаптаныя і платы, як плыты, і
грады.
І, аж шапталася з ветрам сукенка,
па хвалях ішла на галаве з вянком,
на плячы са збанком, дзе бярозавік смяг,
з вачыма затуманелымі Веснавея —
недаткнёнка-паненка.

Мора зялёнае па вершаліны высокія
разлівалася, і плылі ў ім гаі, і дубровы,
і паплавы, і ўзлескі перагукваліся канямі,
сойкамі.
І, аж падалі цені ніца,
па хвалях жураўкай плыла з аблачынкай
на галаве, з перапёлкаю ў рукаве Летавіня —
рухавая маладзіца.

Мора бурштыновае ад ускоту і да закоту
разлівалася, загадвала млынарам загадку
(поўна печ перапеч, а пасярэдзіне кныш),
чакаючы асцюкаватага абмалоту.
І са жніва, як з гуляння,

па хвалях ступала са званочкам
пад падалочкам, з пацьмячком снапком
ці з сынком Асянея —
мажная паня.

Мора — павелічальнае шкло, якое Ярыла
наводзіць зайцу на пяткі, і той
без аглядкі імчыцца ў кусты
як сіла.
Ды неспадзеўкі дагоняць падпаленага папеўкі
Ці бачылі, мальцы,
Баравога зайца,
Сам шэр, хвост бел,
Паджарыя (у рыфму).

Мора — начоўкі, ў якіх чалавецтва
купала міфы, легенды, паданні —
яшчэ галазадых сваіх немаўлятак.
І азёры мае — Чарсцьвяды, Вечалле, Чаравэчча
таксама ад мора вядуць свой пачатак.

Мора — вясляр, што не ведае зморы,
вяслуе, вяслуе, вяслуе,
ды нікуды не вырвецца з цеснай каморы
і не наракае на долю злую.

Выдмы — застыглыя хвалі.
Хвалі — рухавыя, зменлівыя, як настрой, выдмы.
Аблокі несуцешнымі выдмамі сталі.
Мора, вядома, Бог усеўладны выдумаў.

З прадоння вырвацца марыць з часам
сцятая берагамі прастора.
Толькі цішыня са скрухаю сам-насам
слухае, як шумяць беспрытульныя думкі
мора.
1991

## НЯМА ЗАМЕЖНАЕ ТРАВЫ

* * *

Месту каб стаць Парыжам,
Спачатку патрэбна мясціна
Такая, якая ў вяках
Не знікае
І ўсіх змушае
Пераймаць, пакланяцца
Але з ахвотнай пашанай
Яшчэ неабходна цвёрдасць
Каб не паддацца
Ні мілоснікам чулым
Ні зайздроснікам хіжым,
І заставацца
Парыжам
Парыжам…

* * *

Няма замежнае травы
Трава ў Вушаччы і ў Парыжы
Не дбае аб сваім прэстыжы
Ды ведае свае правы —

Не прызнаваць мяжы нідзе
Расці служанкай цемры з праху,
Рунець без літасці, без страху
На радасці і на бядзе

Няма травы за той мяжой,
Адкуль не вернешся ніколі,
Не вымаліш спатолі ў долі
На мове нематы чужой.

У царстве ценяў, што ў трысці,
Свой цень адрозніць сілу страціш.
Не ўчуеш сам,
А ўчуе заціш,
Як будзе там трава расці,

Дзе выпала й табе брысці,
Каб ахінуцца муравою,
Бо без зялёнага канвою
Не абысціся ў забыцці...

## АДВЯЧОРАК, ЯКІ ЗАЎСЯГДЫ СА МНОЮ

У Парыжы, ў Лацінскім квартале,
Дагарала лацінка вітрын.
У зацішку з кавалкаў вятрын
Вецер прысмеркі ціха сшывалі.
Жніўнай песняй у стомленай зале
Мутнавокая Сена цякла,
Быццам ёй не хапала дзякла,
Што за дым і валокі давалі.
Палі стрыманасці ў запале
Рупіла спілаваць, расхістаць,
Кожнай статуі нешта шаптаць
У Парыжы, ў Лацінскім квартале.

## ПАРЫЖ КАНЦА КРАСАВІКА

*Ірыне Заборавай*

Парыж канца красавіка.
Квартал не месціцца ў квартале.
У заглушы асабняка
Французскі салавей картавіць.

У крыгаходнае рацэ
Глухіх машын,
Як нечаканка,
Галодны позірк урачэ —
Ільдзінкай блісне парыжанка.

Спрабуе змрок загаварыць,
Гудок алярма дахі рэжа.
І манпарнасаўская вежа
Канцэртнай сукняю гарыць.

## У МАЙСТЭРНІ Ў БАРЫСА ЗАБОРАВА

Слівіна з выбалелымі сукамі
Адцвіла. Зацвітае каштан.
Пранырлівы, як сам шатан,
Верабей у мураве зялёнае
Нешта шукае.

Маэстра з чорнай яшчэ барадою
Вераб'я па-гаспадарску пасе,
Як пад Мінскам бычка-траццячка па расе
Разам з бадліваю чарадою.

Пыл вясковых дарог
Успамінае мінчук карэнны.
Ірына ў гарачую бульбу
Кладзе па-ўшацку кроп.
Мастака з Амерык, з Азій, з Еўроп
У Беларусь скіроўваюць гены.

Забыўся мой гатэль на Распаі.
Як некалі ў мамы маёй, гасцюем, сябры.
Дыміцца бульба ў парыжскім двары.
Быкава адно не хапае.

Барыс у марах не ў барах —
У барах зялёных,
Якія забрала чарнобыльская чума.
Карцін у майстэрні амаль няма —
Яны ў дарозе, яны ў салонах.

Забораўскі конь не чуе сутрыму...
Дзядзінцы крывіцкія праступаюць з імжы.
Мастак у Парыжы,
І з-за мяжы
Слава вяртаецца на радзіму.

* * *

Піў бы я мёд і віно,
Горка пахмелле мае,—

пяяла ўшацкая бяседа

Як у п'янку, ўцягваешся ў Парыж
Паступова, ахвотна, трывала.
І пасля неатушанай смагай гарыш,
І пахмелля ўспаміннага мала.

Радасць раніцы словам парыўным
Парыж
Папярхнулася ад захаплення.
З Бахусам чмур Амур
П'юць вясёлы барыш,
Сваякі ў недалёкім калене.

І прызнацца сабе не асмелішся ты,
Што з парыжскага алкаголю
Ні ў мальбе, ні ў кляцьбе
Да апошняй вярсты
Болей выйсці не зможаш ніколі.

## АДЗЬЁ, ПАРЫЖ!

Адзьё, Парыж!
Бывай, Парыж.
Наўрад яшчэ цябе пабачу.
Табе ў вякі,
А мне ў Вушачу.
У кожнага свой шлях,
Свой крыж.

Яшчэ распаліць смутак мой
Твая апошняя катрынка.
Душы самотнае падтрымка
Патрэбная душы самой.

Успомняцца лычы глякоў
І парыжанка, як з іконы,
Што несла доўгія батоны,
Нібы бярэмца смалякоў...
1991

P. S.

## ПАРЫЖСКАЕ ПАХМЕЛЛЕ

Насцярожанасць настаўляе каўнер.
Страх у турму ідзе без канвою.
На стале бутэлька шампанскага,
Як Апалінэр
З забінтаванаю галавою...
1992

* * *

На ты лепей з Богам і з маці,
Чужое, халоднае Вы,
Як тыя пустыя палаці,
Дзе ні пер'іны, ні травы.

На ты са шпакамі шпакоўня,
На ты з каранямі віры,
На ты з паднявольным катоўня,
На ты з морам вецер сыры.

Калі змоўклыя дамавіны
Ашчэрацць да дзяснаў раты,
З жывіцай яшчэ габлявіны
З нябожчыкам будуць на ты.

Жывы ў здрадным плоцевым грыме
Спяшаецца, вязень вярсты,
А змоўкне—
І дол яго прыме,
Бо з прахам няўмольнасць на ты.
1991

## КУМ З КУМОЮ

Нарадзіўся чалавек.
Сталі з ціхаю думою
Пільнаваць ягоны век

Кумам Бог,
А смерць кумою.

Ясны кум даваў спаўна
І пяшчоты, і пакуты,
Цёмная кума здаўна
Толькі й помніла пра путы,—

Каб суцішыўся імпэт,
Спутаць ногі,
Скручыць рукі,
Каб на той няблізкі свет
Кіраваўся без прынукі.

Адхінецца кум куды,
А кума
Сама на покуць
Сядзе
Братавай бяды
І спагадна будзе цокаць.

Чалавек свой век жыве,
Як у казцы чарадзейнай:
З брагай коўш ля губ плыве,
Не крануўшы вусы пенай.

З дапатопнай даўніны
Ні вясною, ні зімою
Не згаворацца яны
Між сабою,
Кум з кумою.

Покуль сварка ў іх ідзе,
Чалавек свой род вядзе.
1991

## ЗЯМЛЯ І МАЦІ

Зямля і маці —
Вечнасць і міг —

Яны на адным замяшаныя цесце.
Зямля і маці.
Кормяць усіх.
І толькі самі не просяць есці.
1992

ХТО СКАЖА,

За што трымаецца ластаўка,
Як лепіць сабе гняздо?
1992

ПЛЕЧНЫ ШЛЯХ

Есць Млечны Шлях
І — Плечны Шлях:
У космасе бяды
Матулі
Зярняты неслі ў хатулях
І немаўлят,
І шлях той гнулі
Адчай сляпы, відушчы страх,
І ўсемагутная хвароба.
Шлях Млечны —
Вечны зорны прах.
Шлях Плечны
Няньчыць хлебароба.
1992

* * *

Жыццё зямное —
Рэпетыцыя
Таго, магчымага жыцця.
Таўчэцца зорных круп куцця,
І застаецца доля ніцая
Над цёмнай плынню без лісця.

Скавыш няўмольнасці саскубвае

Лісцё гадоў.
Пакуль вярба
Ніяк не разагне гарба
Над плынню,
Што завецца згубаю.
І глухнуць грозьба і мальба.

Ніхто не ўбачыць Рэпетытара,
Прынамсі, тут,
А там, а там
Ці нас захоча ўбачыць Сам.
І кожны сам сябе дапытвае,
Сваім не верачы слязам...
1992

* * *

Ты, як перад дажджом трава,
І я міжволі адчуваю,
Як адплывае галава,
Яшчэ мая.
А дажджавая

Хмурына заплыла ў мяне —
І ўжо шалее навальніца.
Траве ў стажыне ў душным сне
Раса сцюдзёная прысніцца.

І знікне клопатаў асва,
Што бачыць неба замінае.
І, як перад касой трава,
Прыцiхне мітусня зямная.
1992

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Вада дзяўчынаю была,
Пышэла ў маладой акрасе.
Дзяўчыну і ўракла імгла —
Яна вадою разлілася.

З падзем'я
Ў незямных багоў
Абмыўшы ногі зыбкай стомай,
Выходзіць з цёмных берагоў
Вада паслушніцай Хрыстовай.

У свет ідзе,
Сваю нідзе
Не забываючы абразу.

У вочы зазірні вадзе —
І вочы адвядзеш
Адразу.
1992

* * *

Гадуюць кабаноў
На свежыну,
Гадуюць сыноў
На вайну,
Усё спазнаўшы на сваім вяку,
Сяляне,
І — застаюцца, як на пяску
Летаваць сані.
1992

БІЯГРАФІЯ

Усё было не ў навіну —
Абраза, боль і скон.
І быў забраны на вайну,
І трапіў у палон.

Вяртаўся ён з Нямеччыны
Падсечаны, знявечаны.

Здаецца, сціснуўся ў кулак
Закрачаны вагон,
Не ў дом бацькоўскі,

А ў ГУЛАГ
Пад вартай ехаў ён.

Вяртаўся ён з Савеччыны
Падсочаны, прасвечаны.

Як ні ўцякаў,
А наўздагон
У палыновы сон
За ім ішоў над вартай дзён
Палон, палон, палон.

І з галавой павіннаю
Вянчаўся з дамавінаю.
1992

* * *

Рубіць, склюдаваць, муравацць, імшыць
Я на талаку пагукаю
Сякеры і кельмы,
Бо сумна ім жыць,
Сказаць ім наступнае маю:

Без вас сірацеюць і кроквы,і дах,
І зруб, падмуроўка, чалеснік,
Вас любяць вятры
Паўтараць па складах
І месячык —
Дойлідскі хрэснік.

Прашу вас:
Трымайце на спінах вякі,
Прапахлыя дымам, смалою,
Цагліны, каменні,
Брусы, кругляки,
Я вас падтрымаю хвалою.
1992

ЗАМЕЖЖА

Пачыналася замежжа за мяжою,
А яна, як і дзяржаўная,
Мяжа
Хоць была крыху шырэйшай ад гужа,
З насцярогай сустракала ўсё чужое.

Пераходзілі мяжу без візы куры,
Прапаўзалі слепавокія краты,
І садзіліся сарокі на платы
Прадстаўніцамі лясное агентуры.

На мяжу злівалі ўсё
І ўсё ссыпалі,
На мяжу валілі дружна ўсё лам'ё,
Тут сышліся і мае і не мае
І адно з адным хапаліся ў запале.

І дзядоўнік лапушыўся аблавуха,
Да замежнага асоту лебяда
Падавалася,
А па вясне вада
Зрушыць слуп памежны
Спрабавала глуха.

Слуп укопвалі глыбей
І ў самым нізе
Прыбівалі крыжавіну,
Каб з зямлі
Ні злосць, ні зайздрасць не змаглі,
Быццам раілі:
Як можаш — караніся!

Падпярэзваліся межамі гароды,
Як аграрныя дзяржавы сапраўды,
І лацвей гурок з замежнае грады
Адшчыкнуць,
Не запытаўшы ў мытні згоды.
Бо смачней усё замежнае заўсёды.
1992

* * *

Унучку калышу,
Люляю Даменіку,
Пра зайчыка, пра віку
Прыдумваю, хлушу.

Няхітрая хлусня
Далей адводзіць ліха.
І засынае ціха
Салодкая радня.

Малое птушаня —
Вялікая трывога.
Чуваць,
Як з вуснаў Бога
Сыходзіць цішыня...
1992

## АБРОК

Цень чэша бок аб рог
Падоенай каровы.
Дае каню аброк
Мой бацька несуровы.

Марозны, хрупаткі
Мурог кладзецца ў яслі.
І стынуць капыткі.
І зоркі ўсе пагаслі...

Зжыў век свой
Бацька мой
Аброчным селянінам —
Плаціў вясной, зімой
Аброк належным чынам.

Плаціў аўсом каню,
Жыццём — быццю сівому,
Плаціў дрыўмі агню,
Плаціў трывогай грому.

І ўзяў аброк дзірван.
І змрок на плечы ўссеў нам.

Але імя Іван
Мне пахне сонным сенам...
1992

* * *

Цягнешся ў вышыню,
А дрэва перарасце цябе;
Спяшаешся,
А сцежка цябе перагоніць;
Верыш,
А роспач душу праскрабе;
За далягляд наважваешся,
А ўжо стаіш на адхоне,
Цень на лугавіне спрадвечча,
Чалавеча.
1992

ВЕРШ І ВОБЛАКА

*Пімену Панчанку*

А верш з усім няўлоўным воблікам
На вышыні, на глыбіні
Больш падабенства мае з воблакам
У Госпада на далані.

І верш, і воблака залежныя
І ад цярплівасці жуды,
І ад скрыплівасці алешыны,
І ад імклівасці вады.

І верш, і воблака па сутнасці
Ніхто не бачыць,
Апрача
Вачэй нябеснае прысутнасці
І заклінання чытача.
1992

* * *

Коней мяняе душа...

Жуль Суперв'ель

Тм не патрэбны авёс,
Клопаты кузні-падкоўні.
Лейцы трымае лес,
Дзень твой трымаюць коні.

Хочуць за небасхіл,
На нетаптаныя гоні,
Іл узбіваюць і пыл,
Жыл не шкадуюць коні

Каб не ўрачы,
Не лічы
Восенню рыжых коней.
Не дачакацца з начы
Іх штодня рызыкоўней.

Точыць падковы іржа,
Колецца поле чужое.
Коней мяняе душа
Перад апошняй мяжою.
Там, за мяжой нематы,
За недагнанай вярстою
Ты ўжо будзеш не ты
І не ў цябе капыты
Будуць прасіць пастою...
1992

ЗМЕСТ

У СУАЎТАРСТВЕ З ГУДЗОНАМ

## КНІГІ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

**На беларускай мове**

*Лірыка:* Маладзік над стэпам (1959), Рунець, красавацъ, наліваццa! (1961), Нагбом (1963), Неруш (1966), Адам і Ева (1968), Лінія перамены дат (1969), Вяртанне ў першы снег (1972), Рум (1974), Балада Брэсцкай крэпасці (1975), Свята пчалы (1975), Абсяг (1978), Белая яблыня грому (1979), Вечалле (1980), Амплітуда смеласці (1983), Выбраныя творы ў 2-х тамах (1985), Маўчанне перуна (1986), Самота паломніцтва (1990), Міласэрнасць плахі (1992).

*Гумар:* Дойны конь (1965), Станцыя кальцавання (1968), Няўрокам кажучы (шаржы Міхася Лісоўскага, 1971), Журавінка (1973), Прынамсі... (1977), Абразы без абразы (шаржы Кастуся Куксо, 1986), Бервенізацыя (1988), Мудрэц са ступаю (1988).

*Для дзяцей*: Мех шэрых, мех белых (1963), Красавік (1965), Экзамен (1968), Раскідач (1969), Ай! Не буду! Не хачу! (1971), Суровая вымова (1976), Што было б тады б, калі б? (1977), Ці пазяхае бегемот (1981), Азбука не забаўка (1985), Індыкала-кудыкала (1986), Кобра ў торбе (1990).

**На англійскай мове**

A smali anthology of the poetry of Ryhor Baradulin, Новы Ёрк, 1984.

**На балгарскай мове**

Трофейна тръба, Сафія,1981.

**На іспанскай мове**

El buey negro de mis cuitas... Мінск, 1985.

**На кіргізскай мове**

Азгыргыч, Фрунзе, 1974.

**На латышскай мове**

Siena laiks (1967), Valoda (разам з Янісам Сірмбардзісам), Рыга, 1987.

**На літоўскай мове**

Gandras ant stogo, Вільнюс, 1981.

На польскай мове

Święto pszczoły, Лодзь, 1986.

**На расійскай мове**

Целиноград (1961), Аист на крыше (1966), Избранная лирика (1969), Небо твоих очей (1976), Озеро у горизонта (1979), Праздник пчелы (1980), Поэма признания (1982), Каждый четвертый (1984), Избранное (1985), Белая яблоня грома (1989).

**На таджыкскай мове**

Ситоран дидор, Душанбе, 1989.

**На ўкраінскай мове**

Свято бджоли, Кіеў, 1978.

**На эстонскай мове**

Kas joehobu haigutab? (1976), Särv silmapiiril (1988), Талін.

**Пераклады:**

*Ян Райніс*, Ветрык, вей!; *Федэрыка Гарсія Лорка*, Блакітны звон Гранады;
*Андрэй Вазнясенскі*, Небам адзіным;
*Габрыэла Містраль*, Ветраліст; Кахаць — гэта значыць... (старонкі з паэзіі свету); Слова пра паход Ігаравы (выданне «Беларускага сьвету», ЗША, 1988); Беларусь маё слова і песня (паэты свету пра Беларусь);
*Сяргей Ясенін*, Выбранае (разам з Аркадзем Куляшовым);
Амар Хаям, Рубаі; *Барыс Пастарнак*, Гарэла свечка;
*Марк Шагал*, Паэзія; *Рыгор Рэлес*, Бяроза над акном;
*Іван Бурсаў*, Слон купіў веласіпед.

Барадулін Р.

Трэба дома бываць часцей...: Выбр. старонкі лірыкі. /Прадм. В. Быкава.— Мн.: Маст, літ., 1993.— 352 с., 1 л. партр.

ISBN 5-340-01216-6.

У аднатомнік народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна «Трэба дома бываць часцей...» увайшлі лепшыя радкі лірыкі. Радзіма, паганскія карані беларусаў, каханне і смерць, жыццё ва ўсіх ягоных нечаканасцях, роспач і зварот да Бога — усё гэта ў паэзіі Рыгора Барадуліна.

**4702120202—011**
**Б______________ 91—93**
**ББК 84 Бел7**
**М 302(03)—93**

Літаратурна-мастацкае выданне
БАРАДУЛІН РЫГОР ІВАНАВІЧ
Трэба дома бываць часцей...
Выбраныя старонкі лірыкі
Рэдактар Г. В. Роліч
Мастак М. Р. Казлоў
Мастацкі рэдактар В. А. Губараў
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар Я. А. Бебель

ІБ № 3983
Здадзена ў набор 13.08 92. Падп. да друку 04.12.92. Фармат 84ХІ081/за-
Папера друк. № 1. Гарнітура кудрашоўская энцыклапед. Ум. друк. арк.
18,48 + 0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 18,53. Ул.-выд. арк. 15,67. Тыраж 5300 экз.
Зак. 2258. Цана 40 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА
імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.